25 чэрвеня 2021 | № 24 (732)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 21024

«Літаратурная Беларусь»

Стар. 7–18



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

# Жыве Беларусь! І будзе жыць вечна

Аксана КОЛБ

**Паўсядзённы трэш часам заганяе ў ступар, і розум адмаўляецца верыць таму, што адбываецца ў краіне.**

Ну не могуць жа людзі, як кажуць, у цвярозым розуме і цвёрдай памяці, рабіць такое! Як можна патрабаваць прызнаць галоўны партал краіны, які штодня чыталі тры мільёны чалавек, экстрэмісцкім? Хаця, сёння куды не кінь вокам, паўсюль «экстрэмізм», бо гэтым тэрмінам цяпер узнагароджваюць усіх нязгодных і здольных думаць.

А як можна патрабаваць 15 гадоў зняволення чалавеку, які вінаваты толькі ў тым, што хацеў нешта змяніць у краіне? І што ж для гэтага прыдумаў — збіраўся паўдзельнічаць у выбарах прэзідэнта! Так і хочацца спытаць: а чаму не 25 без права перапіскі? Адкуль такі аптымізм?

Ну а з забаронай нацыянальнага сцяга і лозунга «Жыве Беларусь!» дык наогул бяда. Так і хочацца сказаць тым, хто гэта прыдумаў: вучыце мову. «Жыве Беларусь!» па-руску гучыць як «Да здравствует Беларусь!» Ці вам гэта карціць? Вам не гэта трэба? То тады, хто экстрэміст і хто пагражае нацыянальным інтарэсам? А галоўнае, вы і праўда думаеце, што ўсім гэтым зможаце спыніць хаду гісторыі? І зноў — адкуль такі аптымізм?

Звальненні, забароны, затрыманні, вобшукі, прысуды… Кожны дзень без перапынку. Такія навіны, сапраўды, часам заганяюць у ступар. Але толькі тады, калі бачыць адно гэта. Аднак побач з намі ёсць зусім іншае.

Побач з намі, напрыклад, прыгожая жанчына сталага веку, якая кожны тыдзень адпраўляе тэлеграмы і грашовыя пераводы тым, хто сустракае дзень народзінаў за кратамі. Бадзёры мужчына, які штомесяц частку сваёй пенсіі пералічвае родным палітвязняў. Маладзён, які кожны дзень піша лісты за краты зусім не знаёмым, але ўжо такім родным людзям. Бізнесовец, які дапамагае тым, каму гэта цяпер найбольш трэба.

Паглядзіце навокал — бачыце, якія людзі жывуць з вамі побач! Добрыя, шчырыя, гатовыя прыйсці на дапамогу. Іх значна больш. Гэта і ёсць Беларусь. І яна будзе жыць вечна. Бо дабро, свабоду, мову, салідарнасць не ўкратуеш і не заб'еш. Як бы хто не хацеў і што б ні прыдумаў.

І калі штодзённы трэш зноў будзе заганяць вас у ступар, пачытайце шыкоўны тэкст цудоўнай Ганны Севярынец, які яна днямі выклала на сваёй старонцы ў Facebook. Ён пра тое, якой будзе наша перамога:

«Яна ўвойдзе ў горад на досвітку. Ціхая і пакуль незаўважная. Думаю, з боку Уручча, альбо — Новай Баравой.

Горад будзе яшчэ спаць, пустыя вуліцы, рэдкія машыны, а яна ідзе проста пасярод вуліцы, у белай сукенцы. Вось яна мінае бібліятэку, пераходзіць мост, Маскоўская, аграрна-тэхнічны, там яшчэ тады ўключалі з прыступак "Уважаемые граждане! Вы нарушаете...", і людзі смяяліся ў адказ. На Акадэміі навук яна паверне на Сурганава, у гэтую цесную вуліцу, дзе такое звонкае рэха і дзе воклічы калоны, адбіваючыся ад каменных сцен, працінаюць да касцей. Пройдзе паўз Рыгу да Бангалор, паверне на Багдановіча ў бок Нямігі, і пойдзе, пойдзе гэтай даўгой вуліцай, а вось на гэтым доме калісьці ўзнялі сцяг з надпісам "Шчучыншчына", і хвалямі па людскім моры бег смех і песня, а тут з балкона глядзелі бабулі і плакалі, а тут гаспадынька выкідала ў акно белыя прасціны і чырвоны абрус.

А пад мостам на Нямізе б'е барабан, а на мосце гудуць ужо машыны, а калі яна паверне на Стэлу, з усіх бакоў будуць бегчы ўжо людзі, і плакаць, і абдымацца, і яна будзе азірацца ў натоўпе і лавіць поглядам смутныя абрысы: ён? не ён? абазналася? не? Мікіта? Саша? Генадзь? Рома? Вітольд? А навокал воклічы, спевы, там танчаць, там плачуць, там перакідваюцца крычалкамі, і ўсе становяцца на лаўкі, каб пабачыць мора з вышыні, і здымаюць абутак, і хтосьці раздае пітную ваду, а хтосьці кветкі, і людзі, хто стаміўся, сядзяць і ляжаць, раскінуўшы рукі, на газонах, а хто не стаміўся — ідзе і ідзе, праз Свіслач, праз Пярэспу, па Чарвякова, цераз Плошчу Перамен — і да Бангалор, і плыве рака ў Зялёны Луг, і ўпадае ў лес за кальцавой, і выплывае на шашу за Курапатамі. І гэтая дзяўчынка ў белай сукенцы ўжо і згубілася сярод людзей, недзе ідзе, пяе і смяецца, маладзенькая зусім, і валасы ў яе, думаю, пафарбаваныя ў сіні, а можа, нават у ружовы, і на нагах белыя кеды, і яна зусім простая і знаёмая, мы сто разоў яе бачылі ўжо на вуліцы, самая звычайная беларуская перамога».

# Санкцыі і экстрэмізм

**Галоўнай падзеяй тыдня стала ўвядзенне санкцый з боку ЕС, ЗША, Вялікабрытаніі і Канады. Але пакуль рэжым іх не адчуў і працягвае лютаваць. Падрабязней — у нашым дайджэсце.**

Удава Аляксандра Тарайкоўскага павінна заплаціць падаходны падатак з грошай, якія ёй сабралі неабыякавыя людзі. Падатковая інспекцыя палічыла, што дабрачынная і бязвыплатная дапамога сям'і забітага 10 жніўня 34-гадовага Аляксандра Тарайкоўскага з'яўляецца асабістым прыбыткам яго жонкі за 2020 год. Падаходны падатак склаў 11001,63 беларускіх рублёў (каля 4 435 долараў). Гэтую суму Алена Герман павінна была заплаціць да 1 чэрвеня. З гэтага дня штодня налічваецца пеня. Жанчына мае намер аспрэчыць рашэнне падатковай.

Палітвязень, анархіст, аўтар «Новага Часу» Мікалай Дзядок абраны «Выбітным чалавекам года ЕГУ». Галасаванне ішло да 6 чэрвеня, было 10 намінантаў, потым засталося 3, сярод якіх Мікола перамог. Таксама стала вядома, што актывіста пачнуць судзіць 29 чэрвеня ў Мінскім гарадскім судзе.

На афіцыйны Дзень Незалежнасці Беларусі дзеючыя ўлады запланавалі правядзенне малітвы «За Беларусь!». Пры гэтым яны заклікаюць рэлігійныя арганізацыі краіны дапамагчы з арганізацыяй набажэнства. Малітву прапануюць правесці каталікам, праваслаўным, іудзеям і мусульманам «у мэтах найбольш шырокага ўключэння грамадзян, эфектыўнасці з пункту гледжання і ўспрымання правядзення акцыі». Запланавана шырокае прыцягненне не толькі вернікаў, але і «прадстаўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскасці, культуры і мастацтва».

Суд у Брэсце прызнаў «экстрэмісцкай» публікацыю, дзе выкарыстаны фотаздымак з арнаментам. Падставай стала публікацыя на сайце «Віртуальны Брэст» аб затрыманні жыхара Баранавічаў Уладзіміра Гундара. У якасці ілюстрацыі быў змешчаны фотаздымак затрыманага ў адзенні з элементамі арнаменту. ГУБАЗіК прапанаваў суду прызнаць гэтую публікацыю «экстрэмісцкім матэрыялам»: маўляў, там выяўлена свастыка — сімвал Нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі Германіі, што ўяўляе сабой знак у выглядзе крыжа з чатырма канцамі, загнутымі ў правы бок пад прамым вуглом. Аднак у сімвала на арнаменце кашулі Гундара канцы загнутыя ў левы бок. Дадзены знак з'яўляецца артэфактам яшчэ дахрысціянскай культуры і ўзнік задоўга да XX стагоддзя.

Вярхоўны Суд пакінуў без зменаў прысуд палітзняволенаму 45-гадоваму бізнесмену з Мінска Аляксандру Троцкаму. 5 сакавіка Мінгарсуд асудзіў яго за наезд на супрацоўніка ДАІ як за замах на забойства супрацоўніка органаў унутраных справаў (арт. 14 арт. 362 Крымінальнага кодэкса) — да 10 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Валярына Кустава з'ехала з Беларусі, на яе завялі прынамсі дзве крымінальныя справы: па арт. 342, які датычыць арганізацыі і фінансавання пратэстаў, і 243 — няўплата падаткаў за фінансаванне пратэстаў. Гэта няпоўны спіс, бо адвакатку пакуль не дапусцілі да азнаямлення са справай, што знаходзіцца на дапрацоўцы ў Следчым камітэце. Цяпер паэтка і тэлевядоўца ў Варшаве. Трэцяга чэрвеня Валярына Кустава напісала ў Facebook, што да яе ў кватэру ломяцца невядомыя. Пасля гэтага сувязь з Куставай знікла, але пазней высветлілася, што яе ў кватэры не было.

За «экстрэмісцкі» каментар сыну палітзняволенай Тацяны Канеўскай Дзмітрыю прысудзілі тры гады калоніі. Яго абвінавачвалі ў размяшчэнні ў адным з чатаў каментара з заклікам да гвалту ў дачыненні да міліцыянтаў і іх сем'яў.

У судзе Заводскага раёна Мінска 18 чэрвеня пачаўся судовы працэс па справе Вольгі Сінялёвай, якая папрасіла з'ехаць са здымнай кватэры памочніцу пракурора Аліну Касьянчык. Следства расцаніла гэта як злачынства на глебе дыскрымінацыі супрацоўніцы пракуратуры. Вольгу Сінялёву судзяць па артыкуле 190 КК — «Парушэнне раўнапраўя грамадзян». Ёй пагражаюць штраф або выпраўленчыя работы на тэрмін да двух гадоў, або абмежаванне волі да двух гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў. Справу разглядае суддзя Анжэла Касцюкевіч. На пачатку працэсу дзяржабвінаваўца Кунцэвіч хадайнічала, каб суд па справе Сінялёвай быў закрыты. Суддзя хадайніцтва задаволіла. Пазней стала вядома, што суд увогуле не адбыўся. Суддзя абвясціла, што адвакат Сінялёвай Андрэй Мачалаў быў пазбаўлены ліцэнзіі яшчэ 31 траўня — пра гэта ён даведаўся толькі на судзе. У выніку пасяджэнне пачнецца зноў 25 чэрвеня.

Памёр археолаг Алег Іоў, які даследаваў Курапаты. Яшчэ ў канцы 1980-х гадоў Іова, тады аспіранта, адправілі на дапамогу Зянону Пазняку, які першым расказаў пра ўрочышча. У суаўтарстве з Пазняком і археолагам Міколам Крывальцэвічам ён выдаў брашуру пра тыя раскопкі.

Беларусь аказалася адзінай краінай, якая прагаласавала супраць рэзалюцыі ААН па сітуацыі ў М'янме, дзе ў лютым адбыўся ваенны пераварот. Шэраг краін, у тым ліку Расія і Кітай, устрымаліся ад галасавання. Але Беларусь вырашыла адкрыта выступіць супраць яе. Цікава, што аснова беларускага гандлю з М'янмай — зброя. Цалкам верагодна, што пратэсты ў гэтай краіне жорстка душыліся ў тым ліку і беларускай тэхнікай «спецыяльнага прызначэння».

Следства ў «справе аб дзяржперавароце» працягнулі да 12 кастрычніка. Пра гэта напісаў родным адзін з фігурантаў крымінальнай справы — старшыня партыі БНФ Рыгор Кастусёў. У лісце палітзняволены адзначыў, што «віны ў змове не прызнае». Акрамя Кастусёва абвінавачанымі ў справе «аб змове з мэтаю захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам» з'яўляюцца Аляксандр Фядута, Юрый Зянковіч ды яшчэ шасцёра асобаў.

У нядзелю, 20 чэрвеня, у Кіеве прайшла акцыя памяці беларускага палітвязня Вітольда Ашурка, які загінуў 21 траўня ў шклоўскай калоніі № 17. Адбылося шэсце ў цэнтры горада і памінальная малітва. У гэты ж дзень у Бярозаўцы, дзе жыў і быў пахаваны Вітольд, у касцёле Сыходу Святога Духа адбылася малітва ў яго памяць: у каталіцкай традыцыі памінанне адбываецца на 30-ы дзень пасля смерці. «Няма большай ахвяры, чым калі чалавек аддае жыццё за сваіх сяброў», — такімі ўрачыстымі словамі згадаў ксёндз Вітольда Ашурка і адзначыў, што ад усіх нас залежыць, каб гэтая ахвяра не была марнай.

ЕС зацвердзіў чацвёрты пакет санкцый супраць 78 фізічных і 8 юрыдычных асобаў Беларусі. Разам з тым ЗША ўвялі санкцыі супраць 16 грамадзян Беларусі і 5 установаў. Таксама да санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі далучыліся Вялікабрытанія і Канада.

Днём 22 чэрвеня сілавікі прыйшлі ў офіс інтэрнэт-крамы 21vek. Затрыманыя сузаснавальнікі кампаніі Павел Матусевіч, Сяргей Вайніловіч і Іван Плюгачоў, вынятыя дакументы кампаніі. Таксама сілавікі прыйшлі ў офіс кампаніі «Юркас», якая займаецца дзвярыма.

## Шаноўныя чытачы!

**З 1 ліпеня 2021 года, па незалежных ад нас прычынах, спыняецца наша супрацоўніцтва з РУП «Белпошта».**

**Але гэта не значыць, што вы не зможаце атрымліваць «Новы Час» у свае паштовыя скрыні. Як і шмат гадоў таму, МЫ АРГАНІЗУЕМ УЛАСНУЮ СІСТЭМУ РАСПАЎСЮДУ. ТАМУ ВЫ І ДАЛЕЙ ЗМОЖАЦЕ НАС ЧЫТАЦЬ.**

**ШТО ДЛЯ ГЭТАГА ТРЭБА?**

**Любым зручным для вас спосабам паведаміць нам адрас дастаўкі газеты. Гэта можна зрабіць па рэдакцыйных тэлефонах, па рэдакцыйнай электроннай пошце, праз сацыяльныя сеткі і месенджары ці нават звычайным лістом.**

**АПЛАЦІЦЬ КОШТ ПАДПІСКІ — 5 РУБЛЁЎ ЗА МЕСЯЦ, — ПЕРАЛІЧЫЎШЫ ГРОШЫ НА НАШ РАХУНАК: Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў» № BY48BLBB30120190790926 001001 Дырэкцыя ААА «Белінвестбанк» па Мінску і Мінскай вобл., BLBBBY2X, УНП 190790926.**

**Улічвайце, калі ласка, што банк бярэ камісію 2 руб. Таму больш выгадна аплочваць адразу некалькі месяцаў. Калі такой магчымасці зараз няма, можна аплаціць праз некалькі месяцаў. Газета ў любым выпадку будзе вам адпраўляцца.**

**Мы цяпер працуем над тым, каб зрабіць аплату больш зручнай, але такая магчымасць з'явіцца пазней.**

**Нагадваем, што ўсе чэрвеньскія нумары прыйдуць вам па падпісцы праз «Белпошту». Рэдакцыйная падпіска пачне дзейнічаць з ліпеня.**

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ВАШУ ПАДТРЫМКУ!**

# «Мяжуе з абвяшчэннем эканамічнай вайны»

**МЗС Беларусі адказаў на санкцыі Еўрасаюза, ЗША, Вялікабрытаніі і Канады.**



Фота www.csrjournal.com

МЗС піша: «Блюзнерства, што чарговая санкцыйная агрэсія развязана групай заходніх краін менавіта ў дзень памяці і смутку, калі 80 гадоў таму "аб'яднаная Еўропа" на чале з гітлераўскай Германіяй напала на Савецкі Саюз».

Міністэрства замежных спраў Беларусі выступіла з каментарам з нагоды ўвядзення ЕС, ЗША, Вялікабрытаніяй і Канадай новых санкцыяў у дачыненні да ўладаў Беларусі.

Санкцыі ў заяве называюцца «варожымі дзеяннямі і ціскам на суверэнную дзяржаву». МЗС піша, што санкцыі «негатыўна ўплываюць на інтарэсы грамадзян, яны контрпрадуктыўныя і заганныя».

«Ні пра якія іх кропкавы або разумны характар апрыёры не можа быць і гаворкі. Бачым, што і ў ЕС гэта ўсведамляюць. Пры гэтым працягваюць мэтанакіраваныя дэструктыўныя дзеянні супраць насельніцтва, каб, нібыта, "высушыць рэжым фінансава". Па сутнасці, гэта мяжуе з абвяшчэннем эканамічнай вайны».

МЗС адзначае, што «чарговая санкцыйная агрэсія развязаная групай заходніх краін» у дзень памяці і смутку 22 чэрвеня.

«У XXI стагоддзі беларускі народ зноў стаў палігонам для нездаволеных амбіцый да супрэматыі еўрапейскіх палітыкаў. Беларуская дзяржава ў стане і зробіць усё магчымае для абароны сваіх грамадзян і суб'ектаў гаспадарання. Санкцыі і рэстрыкцыі не будуць мецъ жаданага іхнімі заказчыкамі эфекту».

МЗС Беларусі анансавала захады ў адказ, не называючы іх.

«Захады ў адказ, якія ЕС змушае нас прыняць, сапраўды гэтак жа негатыўна могуць адбіцца на сферах нашага ўзаемадзеяння і, у канчатковым выніку, на інтарэсах грамадзян і кампаній краін Захаду, якія распачалі недружалюбныя крокі ў адносінах да нашай дзяржавы», — адзначана ў заяве.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Краіна экстрэмістаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калі будзе друкавацца гэты нумар, суд Цэнтральнага раёна Мінска разгледзіць пазоў МУС Беларусі пра тое, каб матэрыялы парталу TUT.BY прызналі экстрэмісцкімі.**


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Прычым МУС просіць прызнаць экстрэмісцкай усю інфармацыйную прадукцыю TUT.BY — самога партала, а таксама яго прадстаўніцтваў у сацсетках: Telegram, Viber, Twitter, TikTok, «ВКонтакте», «Аднакласніках» і інш. Адначасова МУС просіць Міністэрства інфармацыі ўключыць матэрыялы парталу ў спіс экстрэмісцкіх і абмежаваць доступ да іх.

На практыцы гэта азначае, што экстрэмістамі ў Беларусі зробяцца ўсе — апроч тых, хто не ведае, што такое інтэрнэт. Аўдыторыя парталу TUT.BY складала 69% беларусаў (3 мільёны 681 тысяча 243 чытача на месяц). Колькасць праглядаў старонак — да 10 мільёнаў штодня. Унікальных наведвальнікаў на месяц — 16,5 мільёна чалавек. І ўсе гэтыя людзі не толькі чыталі навіны — яны ставілі «падабайкі», дзяліліся матэрыяламі TUT.BY, абмяркоўвалі іх і гэтак далей. Наўрад ці ў нашай краіне знойдзецца хаця б адзін карыстальнік інтэрнэту, які б хоць раз не падзяліўся матэрыялам партала з сябрамі на сваёй старонцы ў сацсетках.

Калі суд задаволіць пазоў МУС, усе гэтыя людзі стануць экстрэмістамі — бо распаўсюджвалі экстрэмісцкія матэрыялы.

Залішне нават казаць пра пошту @tut.by, якой карысталіся шмат дзяржаўных органаў, а некаторыя карыстаюцца і дагэтуль. Пошук і прапанова працы праз rabota.tut.by таксама будзе экстрэмізмам. І ў гэты шэраг трапіць кожная хатняя гаспадыня, якая чытала «ваніль» на Lady.tut.by.

Дарэчы, вы ведаеце, які быў самы доўгі матэрыял на партале? Ён быў апублікаваны 20 красавіка 2010 года. У ім — 26 255 слоў. І гэта — матэрыял прэс-службы Лукашэнкі з пасланнем беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу.

Лукашэнка таксама будзе экстрэмістам — ён даваў інтэрв'ю TUT.BY.

Ці хопіць у суда розуму адхіліць гэты пазоў МУС? Пасля адміністрацыйных арыштаў з пікетаваннем аблокамі і зефіркамі ў цалкам лагічным рашэнні ёсць вялікія сумневы.

Яшчэ адна навіна прыйшла з дэструктыўных тэлеграм-каналаў, а потым была пацверджаная афіцыйна. Тэлеграм-каналы сцвярджалі, што дэпутат Марзалюк месяцамі не вылазіў з архіваў, каб абгрунтаваць прызнанне нацысцкай сімволікай бел-чырвона-белага сцягу і лозунга «Жыве Беларусь!». Праўладны Саюз журналістаў пацвердзіў: такія прапановы сапраўды паступілі на ўзгадненне ў КДБ Беларусі.

Пакуль сацсеткі здзекуюцца з гэтай ініцыятывы, прапануючы замяніць «Жыве Беларусь!» і адказ «Жыве!» цытатамі з класікаў, кшталту: «Касіў Ясь канюшыну! — Касіў!». Але, напэўна, зусім не смешна прапагандыстам з уладнага выдавецкага холдынгу «Беларусь сегодня». Таму што дэвіз «Жыве Беларусь!» да снежня 2020 года мела «Народная газета», што ў гэты холдынг уваходзіць. А значыць, яе трэба прызнаць нацысцкім выданнем. І, адпаведна, пачнуцца разборкі: якое дачыненне да нацысцкага выдання мае ўвесь холдынг «Беларусь сегодня» і Адміністрацыя прэзідэнта як заснавальнік гэтага холдынгу.

«Советская Белоруссия» таксама не адмыецца: чаму ў 2007 годзе, 11 жніўня, дапусціла публікацыю Віктара Корбута пад назвай «Жыве Беларусь!»?

І, безумоўна, трэба будзе дастаць з таго свету «нацыста» Янку Купалу, які ўжыў выраз «Жыве Беларусь» у вершы аж 1907 года.

Тое ж тычыцца бел-чырвона-белага сцяга: галоўным «нацыстам» акажацца Лукашэнка, які менавіта пад гэтымі колерамі прынёс першую прэзідэнцкую прысягу.

Каб не адбылося такога, варта каму-небудзь з сілавікоў проста «адкаціць назад» ініцыятыву Марзалюка. Але ці хопіць на гэта розуму?

Зразумела ж, што ў краіне, дзе кожны альбо «экстрэміст», альбо «нацыст», і гаворкі не можа ісці пра правы чалавека. Таму ўлады, напэўна, загадзя ведаючы вынікі ўзгадненняў ды судовых пасяджэнняў, прыпынілі працу офіса Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека ў Мінску. Пра гэта паведаміла сама Вярхоўны камісар Мішэль Бачэлет, выступаючы на 47-й сесіі Рады ААН па правах чалавека.

Увогуле, улады робяць шмат чаго дзіўнага. Напрыклад, з аднаго боку міністр эканомікі Аляксандр Чарвякоў не бачыць нічога крытычнага ва ўвядзенні Захадам сектаральных санкцый у дачыненні да беларускага калію і нафтапрадуктаў — ён лічыць гэта проста «перадзелам рынку і выштурхоўваннем канкурэнтаў» і гатовы «пераарыентавацца на Азію». У той жа час Беларуская калійная кампанія заяўляе: Беларусь стварае 20% сусветнага калію, і «абмежаванне такога значнага аб'ёму паставак немінуча прывядзе да незаменнага дэфіцыту калію і рэзкага росту коштаў на гэты від угнаення». Як вынік — вырастуць цэны на прадукты харчавання ва ўсім свеце».

Хто мае рацыю: міністр эканомікі, які гатовы пераарыентаваць калій у Азію, альбо БКК, якая ставіцца да санкцый так, нібыта яны спыняюць здабычу ўгнаенняў ва ўсім свеце?

Можна колькі заўгодна праводзіць «вербальныя інтэрвенцыі», казаць пра тое, што мы «ненахіляемыя», жылі пад санкцыямі — і нічога. Аднак дзеянні якраз выдаюць тое, што санкцыі — працуюць.

Напрыклад, расійскія кампаніі з «першага спісу», як перадае «Інтэрфакс», у трэцім квартале адмовіліся пастаўляць нафту на падсанкцыйны «Нафтан». А Нацбанк адмяніў абмежаванні на памер ставак па валютных укладах, якія дзейнічалі з лютага 2019 года. Раней максімальныя стаўкі былі прывязаныя да ставак ФРС ЗША, Еўрапейскага Цэнтрабанка і Банка Расіі. Беларускія банкі не маглі прапаноўваць стаўкі па валютных укладах, якія перавышалі названыя нарматывы больш, чым на пэўную колькасць працэнтных пунктаў.

Цяпер жа банкі, па ідэі, могуць падвышаць стаўкі па валютных дэпазітах. Фактычна ж гэта азначае, што валюту ўжо ўзяць няма адкуль — толькі ад насельніцтва.

Ці купіцца нехта на гэтую «стаўку на скваппасць»? Асабліва калі раней былі прынятыя пастановы, што валютныя рахункі можна замарозіць у любы момант?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзіслаў Наважылаў



**Лідар легендарнага гомельскага метал-гурта «Gods Tower» асуджаны на тры года «хіміі» з накіраваннем у папраўчую ўстанову.**

Такое рашэнне прыняў суд Цэнтральнага раёна Гомеля. Уладзіслава Наважылава абвінавацілі ў тым, што ён пакінуў абразлівы каментар на адрас старшыні гомельскага аблвыканкама Генадзя Салаўя ў інтэрнэце.

Заканчэнне працэсу было цікавым: суддзя Сяргей Карманові ч з'явіўся на працэс без мантыі і прызначыў судовыя спрэчкі, якія ўжо прайшлі. Толькі пасля заўвагі пра гэта прадстаўніка абвінавачання ён ачомаўся і даў Наважылаву апошняе слова.

Музыка сказаў, што з'яўляецца адзінай крыніцай даходу ў сям'і, і, калі яго пакараюць зняволеннем, гэта будзе катастрафічным для сям'і. Ён папрасіў ужыць пакаранне, не звязанае з накіраваннем у папраўчую ўстанову. Тым не менш, суддзя Кармановіч прысудзіў Уладзіславу тры гады «хіміі» з накіраваннем — менавіта столькі запытала пракурорка Гаркуша.

Прысуд яшчэ можа быць аспрэчаны ў вышэйшай інстанцыі.

## Марфа Рабкова



**Тэрмін утрымання пад вартай праваабаронцы працягнуты яшчэ на тры месяцы — да 17 верасня. Такім чынам, да гэтага часу яна правядзе ў зняволенні год.**

Каардынатарка валанцёрскай службы «Вясны», праваабаронца Марфа Рабкова была затрыманая разам з мужам Вадзімам Жаромскім вечарам 17 верасня і дастаўленая ў ГУБАЗіК. У яе кватэры быў праведзеныператрус, вынятая тэхніка, асабістыя грошы і рэчы. Пазней Вадзіма адпусцілі.

Марфе Рабковай паведамілі, што яна затрыманая ў межах крымінальнай справы за масавыя беспарадкі. Па гэтым артыкуле ёй і было прад'яўлена абвінавачанне. 11 лютага Рабковай прад'явілі новыя абвінавачанні ў распальванні варожасці і ў стварэнні злачыннай арганізацыі. Рабковай пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Марфе некалькі разоў падаўжалі меру стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. У апошні раз — да 19 чэрвеня 2021 года. У СІЗА яе паставілі на прафілактычны ўлік як «схільную да экстрэмізму».

У падтрымку Рабковай і з патрабаваннем яе неадкладнага вызвалення выказаліся міжнародныя праваабарончыя арганізацыі: Amnesty International, Front Line Defenders, Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў.

## Віктар Бабарыка



**Пракурор просіць для прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, экс-кіраўніка «Белгазпрамбанку» Віктара Бабарыкі 15 гадоў зняволення.**

21 чэрвеня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска пачаліся спрэчкі бакоў па справе Бабарыкі і іншых топ-менеджараў «Белгазпрамбанку». Выступы пракурора працягнуліся і 22 чэрвеня. Пракурор папрасіў пакараць Віктара Бабарыку 15 гадамі зняволення ў калоніі агульнага рэжыму. Паводле дзяржабвінаваўцы, «віна знайшла пацверджанне цалкам».

Адвакат Віктара Бабарыкі Дзмітрый Лаеўскі сказаў: «Мы нічога новага не пачулі. Наш аналіз будзе, калі мы будзем выступаць. Наш пункт гледжання будзе выказаны, і ён прадэманструе, што не ўсё так, як гэта гучыць».

На пасяджэнні 6 красавіка Віктар Бабарыка заявіў пра сфабрыкаванасць справы і адмовіўся даваць паказанні.

Экс-банкіру інкрымінуюць атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры арганізаванай групай асобаў, а таксама «адмыванне» даходаў, атрыманых злачынным шляхам, у асабліва буйным памеры. Справу «Белгазпрамбанку» пачалі 11 чэрвеня 2020 года, калі супрацоўнікі ДФР КДК правялі ператрус у банку і затрымалі некалькі яго работнікаў.

Віктара Бабарыку разам з сынам Эдуардам арыштавалі 18 чэрвеня 2020 года, калі яны везлі ў ЦВК подпісы за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. Адразу пасля затрымання Бабарыкі праваабаронцы прызналі яго палітвязнем. Экс-банкір лічыць свой пераслед палітычна матываваным.



Фота Міхаіла Мецтэля ТАСС

# Пасля Байдэна

Сяргей ПУЛЬША

**Пасол Расіі ў ЗША Анатоль Антонаў вылецеў у Вашынгтон пасля таго, як тры месяцы знаходзіўся ў Маскве на кансультацыях. Антонаў быў адкліканы з Вашынгтона каля трох месяцаў таму пасля таго, як Байдэн назваў Пуціна забойцам, а пасол ЗША ў Расіі Джон Саліван вылецеў у Вашынгтон амаль два месяцы таму пасля таго, як Расія прапанавала яму вярнуцца ў Вашынгтон для кансультацый. Вяртанне паслоў — гэта тое, пра што дамовіліся ў Жэневе 16 чэрвеня Джо Байдэн і Уладзімір Пуцін. А значыць, дамоўленасці пачалі выконвацца.**

### Ці мала было Беларусі?

Зразумела, ад гэтай сустрэчы нельга было чакаць чагосьці асаблівага. Проста таму, што гэта першая сустрэча такога ўзроўню. Многія аналітыкі сыходзіліся ў меркаваннях, што на ёй бакі папросту вызначаць далейшыя «правілы гульні», акрэсляць праблемы, якія трэба вырашыць, і выпрацуюць нейкія «чырвоныя лініі», за якія заходзіць нельга. Пры гэтым сітуацыя ў Беларусі, на думку многіх экспертаў, не была — дый не павінна была з'явіцца — прыярытэтам. У Байдэна і Пуціна шмат праблем і без гэтага.

Тым не менш, тэма Беларусі падымалася. Сам Байдэн сказаў: «Я падзяліўся сваёй заклапочанасцю аб сітуацыі ў Беларусі... Ён (Пуцін) проста сказаў, што ў яго іншы погляд на тое, што трэба рабіць».

Пасля гэтыя словы былі дапоўнены іх памочнікамі. «Беларусь — адна з тых тэм, якія разглядаліся ў кантэксце ўчарашняга саміту. Прэзідэнт [Байдэн] выразна растлумачыў, што гэта адно з пытанняў, у якім мы глыбока нязгодныя з Расіяй. Я не думаю, што хтосьці з двух прэзідэнтаў аспрэчвае, што нашы погляды на сітуацыю ў Беларусі вельмі адрозніваюцца», — заявіла намесніца дзяржсакратара ЗША Вікторыя Нуланд на форуме GLOBSEC.

Прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў таксама адзначыў, што «Беларусь не адносіцца да ліку прыярытэтаў, якія сталі на парадку дня. А тэма Беларусі сапраўды была агучаная амерыканскім бокам, агучаная была ва ўсім добра вядомым ключы — мы ўсе ведаем пазіцыю амерыканцаў... Ёсць і праблематыка самалёта [«Ryanair», пасаджанага ў Мінску]. Яны лічаць гэта недапушчальным, і гэтак далей, і да таго падобнае, парушэннем усё і ўся. На гэта ў нас ёсць свая пазіцыя — што ў нас ёсць інфармацыя, атрыманая з першакрыніцы... Прэзідэнту Пуціну не з рукі не давяраць свайму беларускаму калегу. Было канстатавана, што гэта тое самае месца, дзе, напэўна, наўрад ці трэба спрабаваць зблізіць пазіцыі — гэта немагчыма».

Беларускія і расійскія СМІ ў загалоўкі вынеслі апошнія словы як тое, што зблізіць пазіцыі ЗША і РФ па Беларусі немагчыма ўвогуле. Аднак, на самай справе, як адзначыў аналітык Пётр Кузняцоў, такое выказванне справядлівае толькі ў дачыненні прымусовай пасадкі рэйсу «Ryanair».

Удакладненні памочнікаў абодвух кіраўнікоў сведчаць, што «беларускае пытанне» абмяркоўвалася больш дэталёва, чым «у агульным». Бо прымусовая пасадка самалёта «Ryanair» — гэта якраз тая самая дэталь.

### Наступствы пытанняў бяспекі

Некаторыя аналітыкі кажуць, што Пуцін і Байдэн дамовіліся на ўзгадненне сваіх пазіцый па нармалізацыі сітуацыі тэрмінам ад трох да шасці месяцаў. У гэтыя месяцы, імаверна, могуць быць выпрацаваныя прапановы па ўрэгуляванні спрэчных момантаў. Відавочна, што такі спрэчны момант — гэта Беларусь.

Але беларуская ўлада робіць усё, каб «спакойнае ўрэгуляванне» не адбылося, працягваючы «самазабойчы курс».

Што важнае Еўропе, ЗША, і, па вялікім рахунку, Расіі ў нашым рэгіёне? У ім важныя бяспека і стабільнасць. Каб усе «гулялі па правілах», каб спакойна ішоў транзіт, каб ад нас не было ніякіх праблем. Прымусовае прызямленне рэйсу «Ryanair» у Мінску паказала, што мы можам стварыць вялікія праблемы. А тое, што нелегальная міграцыя ў ЕС з боку Беларусі вырасла ў пяць разоў толькі ў літоўскім напрамку, паказвае — улада стварае праблему бяспецы Еўропе і надалей.

Канешне, цяпер у Пуціна, па словах Байдэна, «іншы погляд на тое, што трэба рабіць». І калі ЗША імкнуцца да свабодных і дэмакратычных выбараў у Беларусі, то Расія пакуль спадзяецца на выхад з беларускага крызісу шляхам канстытуцыйнай рэформы. Аднак, калі кіраўнік Сінявокай працягне ствараць непрыемнасці Еўропе, падрываючы тым самым рэгіянальную бяспеку (асабліва ў пытанні хварабітай для ЕС праблемы міграцыі), то ЕС і ЗША з узгодненай пазіцыі цалкам могуць высунуць прэтэнзіі кіраўніку Расіі ў тым, што ён не здольны ўтаймаваць свайго пратэжэ.

А калі не здольны, то трэба думаць над іншымі варыянтамі, апроч канстытуцыйнай рэформы: «малдоўскім», «армянскім» альбо, крый Божа, «румынскім».

І часу на прыняцце рашэння у Пуціна не так шмат. Наўрад ці ён, пасля сустрэчы з Байдэнам, і надалей будзе глядзець, як Лукашэнка зацягвае «гульню ў канстытуцыйную рэформу».

### Ці ёсць чырвоныя лініі ў Байдэна?

Чамусьці ўсе засярodзіліся на тым, што нейкія «чырвоныя лініі» і недапушчальныя дзеянні павінен быў бы агучваць Уладзімір Пуцін у адносінах да ЗША. Напэўна, таму, што апошнім часам менавіта ад яго мы чулі пра наяўнасць рысачак такога колеру. Словы ж Байдэна пра гэта да нас не даходзілі.

Але, калі ўважліва паглядзець на заявы, якія рабіліся адміністрацыяй ЗША па Беларусі, ёсць нешта, што выбіваецца з кантэксту «агульнай заклапочанасці» ўсяляк «беларускіх» рэзалюцый. Амаль ва ўсіх дакументах па Беларусі ЗША падкрэсліваюць сваю прыхільнасць і падтрымку незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, а таксама патрабуюць вырашэння беларускага крызісу без умяшання знешніх гульцоў, відавочна маючы на ўвазе Расію.

> **Што важнае Еўропе, ЗША, Расіі ў нашым рэгіёне? У ім важныя бяспека і стабільнасць. Каб усе «гулялі па правілах», каб спакойна ішоў транзіт, каб ад нас не было ніякіх праблем. Прымусовае прызямленне рэйсу «Ryanair» у Мінску паказала, што рэжым стварае вялікія праблемы для бяспекі і стабільнасці**

Канешне, зусім без умяшання справа не абыдзецца, але вельмі верагодна (асабліва пасля Крыму), што суверэнітэт і незалежнасць Беларусі могуць быць той самай «чырвонай рысай» Байдэна, пра якую мы не ведаем. І, гледзячы па кантэксце выказванняў Пяскова і Нуланд, гэтая рыса была пазначаная.

Мажліва, пасля Крыму і Данбасу ЗША ўсё ж перачыталі Будапешцкі мемарандум — і нейкія высновы з украінскай сітуацыі зрабілі.

### ЗША як санкцыйны рухавік

Але значна больш цікава, да чаго прывяло «еўрапейскае турнэ» Байдэна. Сустрэча амерыканскага кіраўніка з Пуціным была толькі «вішанькай на торце». Больш істотнае, што ў гэтым турнэ Байдэн сустрэўся з калегамі на саміце G7 і NATO. І толькі напрыканцы — з Пуціным.

Відавочна: Байдэн узгадніў (калі ўвогуле не выпрацаваў агульныя) пазіцыі са сваімі хаўруснікамі па шмат якіх пытаннях, і па Беларусі ў тым ліку. Першым вынікам для Сінявокай сталася тое, што цяпер санкцыі ЕС і ЗША прымяняюцца не «ўраздроб», а, так бы мовіць, «оптам». 21 чэрвеня Жазэп Барэль агучыў чацвёрты пакет санкцый ЕС у дачыненні да рэжыму Лукашэнкі і яго памагатых. У санкцыйны спіс увайшлі 86 фізічных і юрыдычных асоб, заявіў Вярхоўны прадстаўнік ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі.

Паводле яго слоў, эканамічныя санкцыі ЕС датычна кіраўніцтва Беларусі будуць разгледжаныя на саміце ЕС 24–25 чэрвеня і зацверджаны пасля яго.

У сваю чаргу, тая ж Вікторыя Нуланд на тым жа форуме GLOBSEC агучыла, што ЗША прыкладна ў тыя ж тэрміны ўвядуць новы пакет сваіх санкцый. Такое супадзенне па санкцыйных тэрмінах наўрад ці выпадковае.

Як вядома, Злучаныя Штаты ў сваіх санкцыях больш рашучыя, чым Еўрасаюз, і ўведзеныя імі ў дзеянне абмежаванні ў дачыненні прадпрыемстваў канцэрну «Белнафтахім» прымусілі ўладу знервавацца значна больш, чым усе тры абвешчаныя раней пакеты санкцый ЕС разам узятыя. Можна з даволі вялікай ступенню ўпэўненасці казаць, што ЗША будуць «рухавіком» эканамічнага ціску на ўладу Беларусі, за якім вымушаны будзе ісці ЕС.

Тым больш, што «штатаўскія» санкцыі традыцыйна падтрымліваюць Канада і Вялікабрытанія.

І, паводле тэлеграм-каналу «Экономика па-беларуску», гэтыя санкцыі могуць пазбавіць Сінявокую 4% экспарту. А можа, і больш, таму што, імаверна, пад санкцыі трапіць тытунь, а з 2016 года даныя па экспарце тытунёвай прадукцыі закрытыя.

### Акно магчымасцяў

У любым выпадку, у выніку сустрэчы Пуціна і Байдэна і сінхранізацыі пазіцый ЗША і ЕС па «беларускім пытанні» ўлады Сінявокай аказаліся ў крышачку абноўленай рэальнасці, якую яны, як звычайна, спрабуюць не заўважаць. У адказ на санкцыі Захаду беларускія міністры кажуць пра «пераарыентацыю на Азію» і працягваюць казку пра імпартазамяшчэнне, зніжэнне выдаткаў на вытворчасць, эканомію і да таго падобныя рэчы, якія мы чуем ужо не адну пяцігодку.

Але ж санкцыі — гэта толькі адзін з інструментаў прымусу да вырашэння палітычнага крызісу. А таксама — элемент ціску на беларускія ўлады з тым, каб яны наяўнасць гэтага крызісу ўсвядомілі. Як і неабходнасць выйсця з яго.

Пры гэтым беларуская ўлады пастаўленыя ў нявыгадную сітуацыю: калі яны — аб'ект, а не суб'ект перамоваў. То-бок, ад іх мала чаго залежыць.

У такіх умовах магчымасці атрымліваюць хто заўгодна, толькі не ўлады. Ёсць варыянты у Пуціна: працягваць «канстытуцыйны» сцэнар, пагадзіцца на нейкі іншы варыянт альбо прасоўваць «глыбокую інтэграцыю». Варыянты ёсць у «калектыўнага Захаду»: узмацняць ціск, вырашаць праблему Беларусі з Расіяй, альбо ўмацоўваць усходнія межы краін ЕС. Варыянты ёсць нават у грамадзянскай супольнасці Беларусі: пераводзіць заробкі ў долары, здымаць валюту, застацца тут ці выехаць за межы. І толькі ў беларускай улады колькасць варыянтаў звужаецца да мінімуму: альбо працягваць рэпрэсіі з нарастаючай перспектывай за ўсё адказаць, альбо — выпускаць палітвязняў і садзіцца за стол перамоў.

Другі варыянт — самы дзейсны для кардынальнага вырашэння палітычнага крызісу. Але ўлады яго пакуль у якасці выйсця нават не разглядаюць. Аднак часу на тое, каб вырашыць свой лёс самім, застаецца ўсё менш. Бо за іх спінамі ўжо пачалі дамаўляцца. Пасол Расіі, як казалася вышэй, ужо вярнуўся ў Вашынгтон.

# Як змянілася стаўленне беларусаў да Расіі?

Сяргей АБЛАМЕЙКА

**Ці сапраўды Расія страчвае Беларусь, як пра гэта пачалі гаварыць некаторыя публіцысты і каментатары? Ці могуць сімпатыі да Расіі зноў вярнуцца, калі яна зменіць палітыку падтрымкі рэжыму ў Мінску? Пра гэта былы дырэктар Інстытуту сацыялогіі Акадэміі Навук Беларусі Генадзь Коршунаў распавядае «Радыё Свабода».**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## Ці сапраўды беларусы «прарасійскія»

***— Давайце спачатку пагаворым пра стаўленне беларусаў да Расіі і расіян у апошнія 15–20 гадоў. Яшчэ Васіль Быкаў называў некалі беларусаў прарускімі. Лукашэнка актыўна граў на гэтым полі і меў падтрымку вялікай часткі грамадства. А што вы як сацыёлаг-тэарэтык можаце пра гэта сказаць? Быў гэта вынік глыбокай русіфікацыі, ці, можа, нейкая нацыянальная інфантыльнасць?***

— Пытанне цікавае, але адказаць на яго адназначна складана. Я б казаў пра тое, што беларусы былі не столькі прарасійскімі, колькі прасавецкімі. Часта кажуць, што беларусы інфантыльныя, што нацыя не дафарміравалася. Мне здаецца, што асаблівасці развіцця беларускага менталітэту на працягу двух-трох апошніх стагоддзяў прывялі да таго, што сацыяльнасць, успрыняцце беларусамі свету стала лакальным. Гэта і арыентацыя на выжыванне, і так званы абсентэізм — дыстанцыяванне паўсядзённасці ад удзелу ў палітычным жыцці.

Не выпадае казаць, што гэта інфантылізм або няспеласць, бо гэтыя асаблівасці ў свой час дапамаглі народу захавацца і выжыць, і нават выхоўвалі. І мне здаецца, што карані такой лакалізацыі сацыяльнага значна глыбейшыя, чым XVIII–XIX стагоддзі. Гэта ж тычыцца славутай талерантнасці. Я думаю, што ў гэтым напрамку трэба разглядаць асаблівасці сацыяльных працэсаў, што ішлі ў нас апошняе тысячагоддзе.

Бо і засяленне славянамі балцкіх тэрыторый у нас ішло адносна мірна. І такіх крывавых сутыкненняў паміж каталікамі, праваслаўнымі і пратэстантамі, як, напрыклад, у Еўропе, у нас не было. Як не было і таго, што адбывалася ў Расіі, дзе мелі месца крывавыя падзеі вакол царкоўнага расколу. Дарэчы, стараверы ішлі да нас — гэта знамянальны факт, у нас ім было бяспечна. Яшчэ ў нас былі іудзеі, мусульмане, і ўсе суіснавалі адносна мірна. Людзі заўсёды разумелі, што побач жывуць іншыя — і маюць такое ж правы на жыццё.

Наша сацыяльнасць заўсёды выбудоўвалася па-суседску, побач з тымі, хто дапамагае выжываць табе і каму дапамажаш у выпадку патрэбы ты.

Гэта, у пэўнай ступені, мадэрнісцкая рэч, калі адзіны нацыянальны наратыў ішоў наверсе і быў чужы для простага чалавека. Тут той, хто жыў побач, быў іншы, але не чужы, чужой была ўлада.

Вось чаму агульнанацыянальны наратыў беларускай эліты ў пачатку XX стагоддзя не стаў вельмі эфектыўным і не атрымаў падтрымкі людзей. Агульнанацыянальны наратыў выбудоўваецца праз процістаянне чужому. А ў нас «чужы» не меў этнічнага складніку, не меў і рэлігійнага складніку. Цудоўны прыклад — чатыры мовы на першым гербе БССР, там этнічны складнік — паліфанічны. Таму выбудаваць наратыў на этнічнай базе не выпадала, савецкі інтэрнацыяналізм знаходзіў пэўны водгук у беларусаў.

Так што мы хутчэй прасавецкія. Хаця трэба прызнаць, што русіфікацыя пасля другой Сусветнай вайны была фенаменальнаю па маштабах. Так што фраза Пятра Машэрава пра тое, што «беларусы — гэта рускія са знакам якасці» (гэта ён першы сказаў), адпавядае тым працэсам, што ішлі, — адбывалася русіфікацыя. Але на ўзроўні праектаў улады — гэта была саветызацыя з мэтай зрабіць з беларусаў першы савецкі народ.

За апошнія 20–30 гадоў гэты савецкі складнік пачаў дэвальвавацца, губляць вартасць, і перш за ўсё з прычыны змены пакаленняў і паскарэння гэтай змены. Праз інфармацыйныя тэхналогіі расце ўключанасць у Еўропу. Таму апеляцыя ўладаў да савецкага наратыву губляе сваю эфектыўнасць.

## Ці сапраўды Расія губляе Беларусь?

***— Пасля падзеяў лета 2020 года мне здалося, што стаўленне да Расіі і расіян у Беларусі павінна было б змяніцца. Людзі не дурні і бачаць, хто дапамагае захоўваць у Беларусі статус-кво. А як лічыце вы, ці сапраўды цяпер гэта мяняецца і ці сапраўды Расія цяпер траціць Беларусь?***

— Я б пачаў раней. Працэсы разыходжання пачаліся ў 2019 годзе. Недзе на сайце Інстытуту сацыялогіі ёсць артыкул з графікам, з якога вынікае, што калі пачаліся размовы пра так званыя "дарожныя мапы", сімпатыі да Расіі пачалі падаць.

У адным з інтэрв'ю спадар Вардамацкі казаў, што адзінае, што злучае праціўнікаў і прыхільнікаў пратэстаў у Беларусі, — гэта каштоўнасць незалежнасці.

Вынікі апытання Chatham House у канцы 2020 года і сёлета таксама паказалі змену стаўлення беларусаў да Расіі. Але тут трэба разумець, што ёсць розніца паміж Расіяй як грамадствам і асобнымі людзьмі, і Расіяй як дзяржавай, якая ўвасабляецца ў Пуціне. З грамадствам справа адна — нехта мае сваякоў, сяброў, нехта там навучаўся, а з Пуціным — справа іншая. Калі я не памыляюся, то ў адным з даследаванняў Chatham House была лічба, што каля 75% лічаць, што пратэсты не перамаглі дзякуючы падтрымцы Расіі.

Не буду каментаваць асобныя пытанні Chatham House, іх можна па-рознаму ставіць і задаваць у розны час, але тэндэнцыя на пагаршэнне стаўлення да Расіі ёсць. І тыя эксперты, якія кажуць, што Расія цяпер страчвае Беларусь — безумоўна, маюць рацыю.

***— Але вось аўтары красавіцкага апытання Chatham House кажуць, што «на практыцы тыя 32%, якія толькі за саюз з Расіяй, маюць палітычную перавагу над усімі астатнімі беларусамі». А там яшчэ 46% за саюз з Расіяй і Еўрасаюзам адначасова. Як бачым, агулам да Расіі станоўча ставяцца 78% беларусаў.***

— Ну, я б не казаў, што стаўленне беларусаў да Расіі вылучаецца такой ужо вялікай сімпатыяй. Вялікай інерцыяй — так, гэта ўвогуле зразумела з улікам як уладнай ідэалізацыі савецкага досведу суіснавання і дамінавання расійскіх СМІ ў інфармацыйнай прасторы, так і пасляваеннай дэмаграфічнай русіфікацыі і безлічы актуальных міжасабовых сувязяў.

Тут, пэўна, больш прагматыкі, якая грунтуецца на звычцы эканамічнага супрацоўніцтва з усходам. У тым ліку і за кошт таго, што асаблівa няма з чым параўноўваць. Але ж, што важна, усходні вектар мае хутчэй эканамічны характар, вялікіх жаданняў да ушчыльнення палітычных сувязяў не назіраецца.

Яшчэ момант — спецыфіка падтрымкі Лукашэнкі з боку Расіі пасля падзей 2020 года. Апошнім часам яна, гэтая падтрымка, даволі своеасаблівая і мае больш рытарычны характар, чым матэрыяльны. Верагодна, частку беларусаў задавальняе такі знешнепалітычны трэнд Расіі, якая не ідзе шляхам узмацнення падтрымкі сучасных беларускіх уладаў.

Але, у любым выпадку, мы бачым, што гэтая падтрымка мае свой кошт — стаўленне да Пуціна шмат у каго з беларусаў пагоршылася.

## Ці могуць сімпатыі да Расіі зноў вырасці

***— А калі Расія нечакана падтрымае дэмакратычную трансфармацыю ў Беларусі, пачне кантактаваць з дэмакратычнай супольнасцю і прызнае вольна абранага лідара? Што тады будзе са стаўленнем беларусаў да Расіі? Ці вернуцца прарасійскія сімпатыі ў такім выпадку ў асяроддзі «ўратаваных» беларусаў?***

— Меркаванні людзей — рэч рухомая, мабільная. Калі б Расія паспрыяла дыялогу, то, безумоўна, гэта б спарадзіла вялікую падтрымку ў беларускім грамадстве. І можна было б гаварыць пра стабілізацыю і паляпшэнне стаўлення да Расіі як дзяржавы.

Але тут трэба разумець і ўлічваць працэсы, якія ідуць цягам апошніх дзесяцігоддзяў. Мне здаецца, што стаўленне да Расіі стаецца не тое каб болей прахаладным, але пачынае больш-менш выраўноўвацца з тым, што ёсць у беларусаў да іншых суседзяў.

Гэта вось тое пытанне, якое я часта бачу ў сацыяльных сетках: чаму беларускі пратэст не меў выразнага геапалітычнага складніку? Адказ даволі просты. Даўно заўважылі такі феномен. Калі спытацца ў беларусаў, з кім лепш сябраваць — з Еўрасаюзам ці з Расіяй, — і даць толькі два варыянты, то можна прымусова зрабіць выбар. Але калі даць больш варыянтаў адказу — з Расіяй, з Еўрасаюзам, з абаімі, ці на нікога не арыентавацца, будаваць сваё, то дзве апошнія опцыі набяруць заўсёды больш за 50%. Бо і раней пазіцыя беларусаў была даволі прагматычнай. А пасля 2020 года, як мне падаецца, яна ўзмацніцца яшчэ больш. Бо нацыя асэнсавала сябе як суб'екта, як таго, хто можа і хоча вырашаць за сябе. А калі ты вырашаеш за сябе сам, то ты можаш паслухаць і таго, і таго, але выбар пасля зробіш сам.

Мне здаецца, гэта вельмі моцная рэч, якую зрабіў 2020 год, і мне гэта вельмі падабаецца, бо беларусы асэнсавалі, што яны ў стане вырашаць самі. Не гойдацца ў залежнасці ад валацільнасці палітычнага парадку дня, але самім спакойна і ўзважана вырашаць.

Так што, адказваючы на ваша пытанне, то так, стаўленне да Расіі палепшыцца ў выпадку яе дапамогі ў вырашэнні крызісу, але ўзважаная самастойная пазіцыя дарослага чалавека, які сам вырашае, ці працаваць яму сёння з Іванам, заўтра з Янам, а паслязаўтра з Гансам — застанецца.

## Ідзе самавызначэнне нацыі

***— Такім чынам, адбываецца дыстанцыяванне ад усіх, выспяванне самастойнага нацыянальнага арганізму.***

— Гэта тое, пра што мы з вамі ўжо гаварылі некалькі месяцаў таму. Гэта класічны варыянт самавызначэння нацыі праз супрацьпастаўленне іншаму. У нас адбываецца ўсё нібыта ў той самай парадыгме, але акцэнты крыху іншыя — не праз выпрацоўку дыстанцыі да чужога, але праз сцвярджэнне сябе. Нібыта тут ідзецца пра адно і тое ж, але насамрэч, ёсць розніца. Паміж пазіцыямі «я раблю не так, як ты» і «я раблю так, як сам лічу патрэбным» беларус выбірае другую.

***— У гэтым сэнсе я не магу забыцца пра выступ аднаго работніка ў Гродне ў жніўні 2020 года, які падчас стыхійнага пратэсту перад гарадскім начальствам казаў, маўляў, мне не патрэбныя ні Еўропа, ні Расія, я хачу, каб мой беларускі народ жыў у Беларусі і меў справядлівае кіраўніцтва. Гэтае відэа нельга было глядзець без слёз, бо гэта быў містычны маніфест цэлага народу. І гэты работнік быў ужо немаладым чалавекам.***

— Абсалютна з вамі згодны. Я думаю, усе бачылі той выступ. Хай гэта прагучыць пафасна, але там праявілася наша нацыянальная ідэя — мы самі вырашым, што нам лепш пасуе, возьмем самае лепшае і з Усходу, і з Захаду, але возьмем самі. Возьмем тое, што нам патрэбнае.

# «Я веру, што мае дзеці будуць жыць у вольнай Беларусі»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Калі навукоўца-этнографа Анатоля Літвіновіча арыштавалі на 10 сутак за БЧБ-сэрцайкі на вакне, яго жонка Вольга Літвіновіч аказалася адна з шасцю дзецьмі ад 2 да 14 гадоў на руках. Але дэвіз гэтай жанчыны — «Я не баюся рабіць памылкі і браць адказнасць». Шмат што ў жыцці яна робіць не дзякуючы, а насуперак, і пракладае сваю дарогу — пакручастую, але шчаслівую. Пра тое, як ледзь не сышла ў манастыр, а потым выйшла замуж за старэйшага на 30 гадоў навукоўца ды стала шматдзетнай маці, пра шлях да Беларусі і літаратурную творчасць яна распавяла «Новаму Часу».**



— Гэты дзень, 27 траўня, выдаўся цяжкім, бо ў маёй дачкі, якая вучыцца ў 3 класе, павінен быў адбыцца канцэрт у харэаграфічнай школе. Я планавала прысутнічаць на ім, у мужа быў выходны дзень, і ён павінен быў забраць маленькіх з садочка, — узгадвае Вольга Літвіновіч дзень затрымання мужа.

Пра гэтую гісторыю «Новы Час» пісаў: раніцай міліцыянты забралі з дому ў Фрунзенскае РУУС Анатоля Літвіновіча разам з дочкамі 5 і 7 гадоў. Пры гэтым дзяўчынкам яны сказалі, што едуць у цырк і ў заапарк, і малеча ў РУУСе ўвесь час запытвалася: «Дык дзе ж тут цырк? Дзе заапарк?» Вольга, якая прыехала ў міліцыю, дзве гадзіны правяла там, але мужа так і не выпусцілі — пазней яго змясцілі на 10 сутак на Акрэсціна. Прычынай затрымання сталі БЧБ-сэрцайкі, якія віселі на вокнах кватэры Літвіновічаў на першым паверсе яшчэ са жніўня.

Але пакуль галава сям'і адбываў арышт, у кватэры нехта пабіў шкло. Пасля таго, як у «Новым Часе» выйшла зацемка пра здарэнне, неабыякавыя людзі адгукнуліся і дапамаглі сям'і. Літвіновічы вельмі ўдзячная ім, і са свайго боку Вольга прапануе ахвотным бясплатныя паслугі рэпетытара: паводле адукацыі яна — выкладчык беларускай і рускай моваў, перакладчык з польскай. Калі для кагосьці з чытачоў гэта актуальна — кантакты Вольгі ёсць у рэдакцыі.

Цяпер Вольга ўзгадвае падзеі месячнай даўніны з усмешкай, а тады прызнаецца: была мабілізацыя, як на фронце. Больш за ўсё перажывала за дзяцей, якіх у Літвіновічаў шасцёра: старэйшаму, Алесю, 14 гадоў, ён скончыў восьмы клас, дачка Ганна — шосты, Юстына — трэці, Яніна-Кацярына — першы, Марыі-Надзеі 5 гадоў, і малодшай, Зосі, — 2. У дзень затрымання мужа Вользе пагразілі, што могуць забраць дзяцей за тое, што ў хаце беспарадак (жанчына прызнаецца: гэта яе слабое месца, яна не дае рады падтрымліваць чысціню ў кватэры, даглядаючы за малечай).

Жанчына гаворыць, што не вельмі шчыльна сачыла за навінамі, бо доступ да інтэрнэту ёсць не заўжды, дый часу ў шматдзетнай маці бракуе. Пра паслявыбарчыя рэпрэсіі яна ведала, але не думала, што арыштаваць могуць нават за сэрцайкі на вокнах, таму прынцыпова не здымала іх — бо гэта ж не сцяг!

Але цяпер Вольга жартуе: выглядае, што яна «напрарочыла» падзеі з візітам сілавікоў і разбітай шыбай у вершаванай казцы «Церамок (беларуская народная страшылка, версія 23.34)», якую напісала сёлета ў студзені. Там ёсць такія словы, калі АМАП прыйшоў да сям'і: «У шыбу бразь — і залазь!».

Вольга і Анатоль Літвіновічы пабраліся шлюбам у 2006 годзе на Дзень Волі.

Суразмоўца распавядае, што на яе светапогляд паўплываў перапіс 1989 года, калі ёй задалі пытанне пра родную мову ў сям'і.

— І мне стала сорамна, што яна не беларуская. Бо пра нацыянальнасць мы сказалі, што мы — беларусы, і ў мяне пайшоў дысананс.

Першы свой верш Вольга напісала ў 1990 годзе, і хоць быў ён на рускай мове, але ў ім ужо прысутнічалі беларусізмы. Час нацыянальнага Адраджэння прыпаў на гады, калі Вольга вучылася ў 6-8 класах. Яна дагэтуль памятае бел-чырвона-белы сцяг на вокладцы падручніка па гісторыі і тое захапленне, якое выклікала гэтая сімволіка. Тады ж дзяўчына стала пісаць па-беларуску — так заклаўся яе будучы жыццёвы шлях, звязаны з філалогіяй.

Адвучыўшыся ў Ліцэі БДУ, Вольга аўтаматычна па добрых выніках вучобы паступіла ва ўніверсітэт, які скончыла з чырвоным дыпломам.

— І мне кажуць: вас на выпуску 75% з чырвонымі дыпломамі, а працы столькі няма. Таму вам на выбар: Докшыцы альбо Паставы. Але ў мяне тут бацькі, куды я іх кіну? Пайшла шукаць працу. Прыйшла да Анатоля Літвіновіча: «Анатоль Фёдаравіч, можа, у вас праца ёсць?». А ён кажа: «Няма працы, але заходзьце папіць гарбаты». Шукала працу — знайшла мужа, — смяецца Вольга.

Анатоль Літвіновіч не быў яе выкладчыкам, але на першым курсе яна праходзіла ў яго фальклорную практыку. У гэтай гісторыі няма палкага кахання і жарсных пачуццяў з першага погляду, а ёсць нават — магчыма, някаму гэтае слова не спадабаецца — пэўны разлік. У той час праз у Вольгі выявіліся праблемы з жаночым здароўем.

— Дактары сказалі: выбірай свой лёс — альбо табе патрэбныя дзеці, і мы будзем рабіць захады, каб яны былі, альбо не. Але каб зразумець, ці дае вынік лячэнне, трэба ж неяк правяраць. Таму мне сказалі шукаць бацьку для дзяцей. У мяне быў «тэндар», і Анатоль яго выйграў. У нас шмат кропак судакранання, блізкая грамадская пазіцыя, няма спрэчак адносна мовы і вельмі шмат агульнага. Я сказала: «Табе патрэбны нашчадак», — і ў нас у гэтым інтарэсы супалі. А потым, мне здавалася, што калі няма такіх жарсных пачуццяў, то і няма чаго баяцца, што яны згаснуць. Пэўна, я кахала ў ім Беларусь. Ён захапіў мяне як асоба, бо ён стаяў ля вытокаў БНФ, і мне стала шкада, што яго род пойдзе на спад.

Розніца ва ўзросце ў 30 гадоў Вольгу не палохала. А вось яе маці, на год маладзейшая за зяця, да гэтага часу не прыняла выбар дачкі.

Яшчэ да таго, як зрабіць гэты лёсавызначальны крок, Вольга рыхтавалася сысці ў манастыр.

— Я была на мяжы і зразумела, што гэта будзе маёй памылкай, таму што матывы, якія мной кіравалі, няправільныя. Бо я бачыла сябе ў манастыры ўжо ігуменняй з кандыдацкім дыпломам. Мной кіравала не любоў да Бога, а прага ўлады. Але ў мяне цяпер свой «манастыр»: муж — ігумен, я — выканаўца абавязкаў па гаспадарцы, і пяць маленькіх манашак, — смяецца суразмоўца. — Вось ужо 15 гадоў, як пайшла ў свецкі «манастыр» і сяджу «ў затворы».

Канечне, дадае жанчына, былі перажыванні адносна таго, што дзяцей у іх з Анатолем можа не быць. Але лячэнне дало плён — і вось ужо ў Літвіновічаў шасцёра нашчадкаў.

— Я зразумела, што ў нашай сям'і дзеці самі плануюць сваё нараджэнне. А потым у мяне пайшла тэма захавання жыцця і недапушчэння ніякага гвалту ў дачыненні да тых, хто не можа сам за сябе пастаяць. Я даведалася, што ў бацькоў я магла быць не адна, але гэта быў іх свядомы выбар. Таму вырашыла, што ў маім жыцці такой праблемы не павінна быць: усё, што захоча, будзе жыць.

Але адна справа — маральны выбар, іншая — матэрыяльная рэчаіснасць. На пытанне, наколькі гэта цяжка — быць маці шасцярых дзяцей — Вольга адказвае па-філасофску:

— У дзяцінстве ў маёй маці быў такі закон, які працуе і дасюль: адсутнасць альтэрнатывы. Мне не было з чым параўнаць. Я не бачыла багатых сем'яў, маці мяне навучыла, што багаты не той, у каго шмат грошай, а той, каму іх дастаткова. Таму я планавала бюджэт, мне хапала выплат на дзяцей. Фізічна, канечне, цяжка.

У сям'і быў час, калі яна стаяла на ўліку як сацыяльна небяспечная. Калі ўжо нарадзілася другая дачушка Ганна, у Вольгі з'явілася навязлівая думка пра тое, што нейкае ненароджанае дзіця патрабуе яе малітваў — і яна малілася за гэтае невядомае дзіця нават уначы. Тады акурат утвараўся інстытут прыёмнай сям'і, і Вольга захацела сябе ў ім паспрабаваць. Аднойчы ёй патэлефанавалі: адна жанчына неўзабаве будзе нараджаць і хоча адмовіцца ад дзіцяці. Вольга вырашыла ўзяць гэтае дзіця і нават угаварыла мужа. Але ў выніку маці не пакінула на немаўля ніякіх дакументаў, нават абменнай карты. І калі да дзіцяці прыйшла доктарка, яна сказала, што не можа яго абслугоўваць без дакументаў. Гэта і стала прычынай таго, што Літвіновічаў паставілі на ўлік і пагразілі: калі біялагічная маці не забярэ дзіця, то дзяржава забярэ і яго, і Алеся з Ганнай.

Зрабіўшы стаўку на сям'ю, Вольга не лічыць, што адняла ў творчасці: яна заўжды баялася, што вершы могуць стаць адзіным сродкам для існавання. Таму яна адчувае сябе гарманічна, пішучы толькі тады, калі прыходзіць натхненне, а не калі падціскаюць дэдлайны. У яе літаратурных занятках ёсць месца і дарослай лірыцы, і дзіцячым вершам. Так, адзін яе вершык, апублікаваны ў «Вясёлцы», нечакана надрукавалі ў падручніку па беларускай мове за чацвёрты клас — прычым Вольга нават не ведала пра гэта, паказалі аднакласнікі дачкі.

Увогуле, дзеці штодня дораць мноства адкрыццяў бацькам, і шмат чаму могуць іх навучыць.

— Калі я бачу сваіх дзяцей, я веру, што яны будуць жыць у вольнай Беларусі, і мне лёгка жыць. Бо мае дзеці не баяцца — і я вучуся не баяцца разам з імі. Трэба жыць па-дзіцячы і глядзець на сітуацыю, як на квэст, які мы павінны прайсці.

23 чэрвеня ў Вольгі Літвіновіч быў дзень нараджэння. Мы сустрэліся з ёй напярэдадні. Нашу з ёй размову перарваў тэлефонны званок — і на чыёсьці пытанне ў слухаўцы, які падарунак яна хацела б атрымаць, жанчына адказала: «Вольную Беларусь!» Ад усёй душы зычым Вользе ўрэшце атрымаць гэты падарунак!


Цярамок
(беларуская народная страшылка
версія 23.34)
— Хто, хто ў хмарачосе жыве?
Хто, хто ў ім „Пагоню" пяе?
— Я Алесь-кудралесь!
— Я Ганулька-цыбулька!
— Я Юстынка-сцяжынка!
— Я Кацярынка-свядомая дзяўчынка!
— Я Надзейка-чарадзейка!
— Я Зоська-прыгажоська!
А ты хто?
— А я АМАП, у аўтазак цап!
Чаму гэта ў вас на вокнах сцягі
павешаны?
— Гэта не сцягі, а фіранкі такія!
— Усё роўна здымайце, не палажана!
(голасам з кізу)
— Што ты там цацкаешся з імі?
У шыбу бразь — і залазь! Там на ходу
масавае мерапрыемства!
— Ды не, тут маці і шасцёра
непаўналетніх! Як афармляць будзем?
— Чакай, дай падлічыць... Сем на пятнаццаць, глянь тэлефон свой, у каго калькулятар пад рукой? Карацей, маці
па поўнай, а гэтых на кілім да лукі!
Дзе трэці, там і шосты,
скажы, гэтыя ўсе цяпер вашы!
(Камчаткова
дапоўжка) → 26.01.2021.

Тая самая «прарочая» казка-страшылка

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (178)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»
lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Ліст да Вітольда Ашурка

Прывітанне, дарагі Вітольд!

Я быў у ад'ездзе, калі прыйшоў ад цябе ліст з месца твайго зняволення. Мне паведамілі пра тое па тэлефоне. Я падумаў, што адпішу табе адразу, як вярнуся дахаты. Я заўсёды адказваю на лісты. Ты ж ведаеш. А пасля прыйшла жудасная трагічная навіна пра тое, што смерць забрала цябе ў Шклоўскай калоніі, дзе ты адбываў няволю. Цяжка было ў тое паверыць. Цяжка было па вяртанні дахаты разгарнуць твой апошні ліст ужо пасля таго, як не стала таго, хто яго напісаў. Цяжка адпісваць на той ліст, бо сэрца абліваецца крывёй і мае ўжо не маладыя вочы, якія пабачылі многа чаго ў жыцці, наліваюцца слязамі – як у малога дашкаляці. Але я мушу адпісаць на твой ліст. Я заўсёды адказваю на лісты. Ты ж ведаеш.


Фота www.onliner.by

Цяпер гляджу на твой прыгожы почырк, на гэтыя старанна і з павагай да чытача выведзеныя літары і ўспамінаю, што ты і сам быў такі ж шляхетны, годны, прыстойны, заўсёды ставіўся з павагай да суразмоўцы, да кожнага чалавека... Культурны, сціплы, з арыстакратычнымі паводзінамі, якія былі ў тваёй крыві, у генах, у манерах... Заўсёды акуратны, статны, праўдзівы, стойкі, смелы...

У мяне то почырк паганы, таму я табе заўсёды «пісаў» на кампутары, каб лягчэй чыталася. Я так пісаў і Алесю Бяляцкаму ў турму, і Паўлу Севярынцу, і іншым палітвязням. Бо ведаю, што такім людзям шмат суайчыннікаў пішуць, і лепш, калі чытаецца лёгка.

Дарэчы, ад Паўла Севярынца ліст да мяне прыйшоў амаль адначасна з тваім. Мы з ім гэтак жа, як і з табой, часта размаўляем пра непарыўнасць беларускай місіі ў вечнасці і пра адраджэнне беларускасці і нашай нацыі. І ведаеш, я хачу падзяліцца з табой некаторымі ягонымі падлікамі. Табе гэта будзе вельмі цікава. Павал паведамляе пра вынікі своеасаблівай статыстыкі, праведзенай ім паводле атрыманых у зняволенні лістоў. 71 адсотак – гэта беларускамоўныя лісты. Раней гэты адсотак быў меншы. А самы вялікі працэнт беларускамоўных лістоў прыходзіць акурат з тваёй любай Гарадзеншчыны. 82 адсоткі. Амаль усе! Вось, Вітольд, гэта і ёсць адзін з вынікаў тваёй працы на ніве Беларускага Адраджэння. Твае высілкі не прапалі дарма. І не толькі ў гэтым кірунку.

Ты пішаш, што цябе вельмі ўражвае повязь пакаленняў, калі нашы продкі, мы і нашы нашчадкі ёсць адзінай нацыяй, якая існуе па-за межамі лінейнага часу. Ты сцвярджаеш у сваім лісце так: «...Калі мы існуем у мінулым часе, сёння і ў будучыні, то мы практычна бессмяротныя! Ад гэтай думкі проста немагчыма пазбавіцца! Гэты містычны ланцужок з мінулага ў будучыню цяпер трымаем у сваіх руках мы, і на нас ляжыць адказнасць за тое, што мы перадамо ў спадчыну нашчадкам!...».

Дарагі сябра! Ты з годнасцю перадаў нашчадкам усю вялікую спадчыну нашых продкаў. Цябе, Вітольд, нашы слаўтыя продкі выбралі для гэтай місіі, бо ведалі, што ты не падвядзеш. І ты не падвёў. Тваё Імя ўжо стала сімвалам для беларускіх патрыётаў. Для людзей, што ідуць шляхамі праўды і справядлівасці. Неўзабаве тваім Імем будуць названыя вуліцы ў розных гарадах нашай краіны, па якіх табе давялося прайсці, а людзі будуць прыносіць кветкі да выбітага ў золаце твайго Прозвішча. Нашчадкі будуць ганарыцца тым, што ў нашым народзе нараджаюцца такія Людзі, як ты. Так, як і ты ўсё жыццё ганарыўся сваім Народам, яго лепшымі дочкамі і сынамі.

Ты і сам згадваеш пра веліч свайго народа ў гэтым лісце. Ты сцвярджаеш: «...Гэта натхняе! Гэта абуджае ў нас усё самае светлае і дае надзею, што мы выканаем тое, што нам наканавана лёсам – мы Пераможам!...».

І яшчэ ты самаахвярна напісаў: «...Ведаеш, шаноўны сябра, у параўнанні з гэтым лёсавызначальным працэсам маё становішча зараз не мае істотнага значэння»...

Дарагі сябра. Гэтыя словы ўсё гавораць пра цябе. Свет, які ад іх зыходзіць, застаўся тут. А ты пайшоў у іншы Свет, куды некалі прыйдуць усе. Там няма канкрэтнага адрасу, як на Зямлі. Таму гэты ліст я адпраўляю табе праз сваю любімую газету. Яна заўсёды выходзіла па-беларуску, таму ўпэўнены, што ты і Адтуль заўважыш і яе, і гэты ліст.

Заканчваю так, як і ты заканчваў кожны свой ліст да мяне. Думаю, што і не толькі да мяне. Словамі – «Жыве Беларусь!!!»

З павагай да цябе,

**Віктар САЗОНАЎ**

# Пра небяспечную кнігу

**...У жыхаркі Калодзішчаў канфіскавалі кнігу Святланы Алексіевіч. Удумайцеся толькі: у XXI стагоддзі ў цэнтры Еўропы ў беларускі канфіскуюць кнігу нобелеўскай лаўрэаткі! Яшчэ троху, і на вуліцах пачнуць паліць небяспечныя кнігі.**

Жыхарку Калодзішчаў затрымалі па дарозе на працу. І разам з ёй паехалі для правядзенняператрусу, падчас якога ў яе канфіскавалі тэхніку і тэхніку яе мужа.Ператрус праводзілі з той нагоды, што нібыта жанчына развешвала бел-чырвона-белыя стужкі на дрэвах. Дома ў жанчыны канфіскавалі знойдзеныя бел-чырвона-белыя стужкі. А таксама кнігу Святланы Алексіевіч...

А цяпер пытанне: дзе логіка? Добра. Былі дзесьці там на вуліцы стужкі. Але ж не кнігі там віселі. А калі нават і кнігі. І калі гэта нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч стала забароненай у Беларусі? Ці цяпер дома можна мець толькі кнігі Чаргінца?

У Беларусі былі выпадкі, калі канфіскоўвалі сцягі іншых краін, паколькі яны мелі чырвоную і белую афарбоўку, калі арыштоўвалі за тое, што на балконе ляжала скрыня з-пад тэлевізара белага і чырвонага колераў. У Мінску нават судзілі жанчын, якія чыталі кнігі па-беларуску ў электрычцы. Але каб дома канфіскавалі кнігу нобелеўскага лаўрэата – такое ўпершыню...

Кожны раз пасля пэўных падзей думаеш, што горш не бывае. А потым глядзіш і разумееш, што, аказваецца, бывае.

**Юлія СІВЕЦ**

Аляксей РАГУЛЯ

# Сваім — пра сваё

## Штрыхі да літаратурнага партрэта Янкі НЁМАНСКАГА

**Быў час, калі пра кожнага выдатнага дзеяча беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя было прынята гаварыць: належыць да пакалення, народжанага Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй, якая адкрыла перад ім шырокія ідэйныя і творчыя гарызонты.**

Містыфікаваная формула прыадкрывала нейкую магчымасць пасмяротнай рэабілітацыі ахвяраў бальшавіцкага тэрору, вінаватых хіба толькі ў тым, што яны былі таленавітымі і актыўнымі дзеячамі нацыянальнага адраджэння.

Такім быў і вучоны, дзяржаўны дзеяч Іван Андрэевіч Пятровіч — пісьменнік Янка Нёманскі (нарадзіўся 12 красавіка 1890 года, расстраляны 30 кастрычніка 1937-га). Нарадзіўся ён у Шчорсах (Навагрудчына) у сялянскай сям'і. Маці памерла вельмі рана, гадаваўся і рос Янка пад апекай бацькі і дзеда. Сялянская праца, народная мараль і этыка сфармавалі яго светапогляд, умацавалі прыродны віталізм і прагу жыццядзеяння на карысць сабе і людзям.

Янка Нёманскі пачынаў мастацкае даследаванне з пазіцый "крытычнага аптымізму" — з ацэнкі сацыятворчага патэнцыялу беларускага "дна". Такая пазіцыя выключала магчымасць харызматычнай ідэалізацыі бальшавіцкіх камісараў. Служба ў Чырвонай Арміі і ў дзяржаўных установах забяспечыла пісьменніка веданнем, неабходным для таго, каб паказаць нежыццёвасць і ненатуральнасць рэвалюцыянарысцкай ідэалогіі, маральны крах яе носьбітаў, каб вызначыць арыенціры гуманітарнай адукацыі і асветніцкай працы...

Янка Нёманскі ішоў у літаратары побач з тымі, хто выкрываў імперскія байкі пра няздатнасць беларускай нацыі да самастойнага палітычнага жыцця. Ён паказваў працэс фарміравання палітычнага лідэра ў нетрах чорнага бяздоння, у якое беларускі народ быў кінуты няпрошанымі апекунамі. Адначасова ён выкрываў "тутэйшых" — пярэваратняў і прыслужнікаў, якія забяспечваюць уладатрымальнікам панаванне над народам, выконваючы функцыі панскіх гайдукоў і цівуной.

Праблема нацыянальна-этнічнай кансалідацыі беларусаў вырашаецца ў трагедыйным каноне ў апавяданьні "Рамэа і Джульета на Беларусі". Ясь і Алеся пераканалі сваіх бацькоў, што прыналежнасць да розных канфесіяў не з'яўляецца перашкодай для шлюбу закаханых. Аднак на заручынах, у момант, здавалася, вышэйшага паразумення паміж бакамі раптоўны выбух узаемнай нянавісці стаў развязкай ідыліі і завязкай трагедыі.

Ідэалагічная сутычка імперскіх сілаў Захаду і Усходу на беларускай прасторы ў пачатку XX ст. вылілася ў крываву бойню. Яе вынікам была Рыжская дамова 1921 года. Праведзеная без удзелу беларусаў, яна разарвала



Бацькаўшчыну на дзве часткі. Заходняя стала Крэсамі Усходнімі адроджанай на імперскі манер Рэчы Паспалітай Польскай, а Усходняй Беларусі бальшавікі вымушаны былі надаць статус саюзнай рэспублікі. Лёс народа вырашалі людзі прышлыя, чужыя. Пад прыкрыццём дэмакратычнага вэлюму пераможцы імкліва будавалі дыктатарскія рэжымы. Афіцыйная ідэалогія ў абодвух выпадках прадугледжвала ліквідацыю беларускай культуры.

Сітуацыя "на зломе" яскрава адлюстраваная ў апавяданнях Янкі Нёманскага 1923 года "Дэзерцір" і "Маці". У 1930-м кніга прозы Янкі Нёманскага выйшла на рускай мове ў Ленінградзе. Яе загаловак дакладна адлюстроўвае сутнасць зместу: "На изломе". Празаік быў адным з пачынальнікаў метаду "крытычнага аптымізму" ў беларускай літаратуры XX стагоддзя, адным з заснавальнікаў беларускага суровага стылю.

У апавяданні "Дэзерцір" ён паказаў, што беларускаму народу нясуць пагібель і бальшавікі, і пілсудчыкі. Народ у творы — гэта салдаты двух батальёнаў Чырвонай Арміі і сяляне беларускай вёскі, захопленай легіянерамі. Галодныя і абмарожаныя салдаты ў ранішнім змроку былі кінуты ў атаку. Сустрэтыя кулямётным і мінамётным агнём белых, яны ў большасці сваёй засталіся ляжаць расшкуматаныя на скрываўленым снезе. Перад атакай камандзір узвода вучыў, што "перамога той, хто не толькі зможа свайго супраціўніка, але і пакорыць гэтыя прыродныя ўмовы". Салдацкія пытанні, як іх перамагчы, "калі ў такі мароз мы ходзім у брызентавых шынялях ды гамашах", як стралець, "калі на дваццаціградусным марозе ў мяне рукі голыя", — засталіся без адказу. Не было адказу і на галоўнае пытанне: "Вайна? Дзеля чаго яна?"...

...Васіль Каляда быў на фронце з часу нямецкай вайны. Ён не бачыў сэнсу ні ў войнах, ні ў рэвалюцыях. Яго мужыцкі ідэал — гэта толькі трызненне ў паўсне пра каня, луг, сена, жонку Кацярыну, малога сына Юзіка. Васіль стаў дэзерцірам і нарэшце дайшоў да сваёй вёскі, якую захапілі польскія легіянеры. Адзін з іх стаў гаспадаром у Васілёвай хаце. Спаласаваная шампаламі Кацярына "страціла ўсякую надзею": "Толькі дзеля Юзіка я засталася жывою і не налажыла на сябе рук". Апошняе слова ў спрэчцы было за сякерай: "і пакуль жаўнер справіўся ўстаць, яна сваім вастрыём глыбока ўрэзалася яму ў голаў...". Цяпер Васіль ведаў, дзеля чаго ён ідзе ваяваць: "Спагнаць помсту!". Калі ж ён вярнуўся пасля выгнання палякаў, то замест хаты ўбачыў папялішча. Пра жонку і сына Васілю сказала праўду суседка: пасля катаванняў іх застрэлілі, хату падпалілі. Васіль пасля гэтага страціў цікавасць да жыцця: "Апошняя іскарка, астатні праменьчык у душы Васіля затухлі. У жыцці яго не асталося больш ніякага пачуцця, апроч прагнасці да помсты"...

Янка Нёманскі з першых крокаў у літаратуры адчуваў неабходнасць самастойнага выбару: белетрызаваная ілюстрацыя догмы ці разгортванне і развіццё ідэі на аснове аналізу праблемы агульначалавечай значымасці. Такой была для яго праблема-ідэя станаўлення беларускай нацыі ў якасці суб'екта гісторыі, рух з цемры да святла. Паэтыка яго апавяданняў пабудавана на аснове высвечвання і выхоплівання з цемры асобных фігур і лёсаў, якія ў сваю чаргу і фарміруюць ідэю: прычынай чалавечай трагедыі ў Беларусі з'яўляецца адсутнасць сваёй інтэлігенцыі, маральна і інтэлектуальна падрыхтаванай да выканання свайго абавязку — кіраўнічай дзейнасці ў розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця.

Новыя аспекты народнай тэмы вымагалі і новай структуры. Матыў змагання за сцверджанне свайго права на годнае жыццё дыктаваў патрэбу ў культурным героі. Янка Нёманскі не мог і не хацеў карыстацца сурагатамі ды ідэалагічнымі шаблонамі. Не парушаючы логікі ідэі станаўлення, пісьменнік выводзіць нас за межы "простага перайманія існай рэчаіснасці" і плаўна пераключае стыль сацыяльна-бытавога пісьма ў напалову казачную нарацыю. Беларуская казка ў гэтым сэнсе валодае неацэнным вопытам. Менавіта на гэтым напрамку з'явілася ў беларускай прозе галерэя мадыфікацыяў Удовіных Сына і Разумнай Дачкі: Сцёпка, Аленка, Сымон, Ганна, Міколка-паравоз... Сярод іх і юны шукальнік праўды Тодар Базылёнак, сын удавы Агаты з аднайменнага апавядання Янкі Нёманскага.

**Творчая інтэлігенцыя павінна стварыць духоўны грунт нацыянальнай кансалідацыі — зрабіць здабыткам грамадскай свядомасці гістарычны вопыт нацыі. Абавязак палітычнай інтэлігенцыі — стварэнне сацыяльных умоў, неабходных для мэтанакіраванай асветніцкай працы**

Раман "Драпежнікі" (1928–1930), калі меркаваць па эпічным размаху яго структуры, мог быць пачаткам вялікай хронікі народнага быцця. Ён стаў раманам-папярэджаннем аб немінучай катастрофе на тым шляху, які выбралі бальшавікі. Праблема "свайго" чалавека, такая трагічна напружаная ў прозе Васіля Быкава, у творчасці Янкі Нёманскага трактуецца ўжо як трагічная памылка выбару. Пісьменнік напрыканцы 20-х гадоў даводзіў грамадскасці логікай мастацкага сінтэзу неабходнасць выхавання сваёй, патрыятычна арыентаванай палітычнай інтэлігенцыі. Яе прызначэнне не ў тым, каб камандаваць ці даваць устаноўкі. Творчая інтэлігенцыя павінна стварыць духоўны грунт нацыянальнай кансалідацыі — зрабіць здабыткам грамадскай свядомасці гістарычны вопыт нацыі. Абавязак палітычнай інтэлігенцыі — стварэнне сацыяльных умоў, неабходных для мэтанакіраванай асветніцкай працы. У другой палове XIX стагоддзя ў беларускай, польскай і рускай літаратурах значнае месца займаюць матывы дэградацыі і вырадження пануючых класаў. Ідэалы герояў 1863 года былі забытыя, спаланізаванае вяльможнае панства пагадзілася са стратай свайго ўплывовага становішча ў былой Рэчы Паспалітай. Клопат пра кар'еру, пра ўласныя фабрыкі і даходы з маёнткаў быў на першым месцы. У ахвяру была прынесеная мова, годнасць, гонар, мараль і народ.

Янка Нёманскі паказвае маральнае выраджэнне арыстакратыі. Яго цікавіць найперш духоўная культура. У рамане першае знаёмства з персанажамі пачынаецца з апісання архітэктурнага стылю будынкаў, інтэр'еру і літаратуры, якой яны цікавяцца. Новае пакаленне Друцкіх і Ляскоўскіх аддае перавагу Пшыбышэўскаму і Арцыбашаву, іх прыхільнасці да маральнай эклектыкі і свабоды ад культурнага табуіравання. Малады гаспадар Ляскаўцаў і князёўна шалёна шукаюць вострых адчуванняў і забыцця, не забываючы пры гэтым пра грошы. "Я шукала ў вас не мужа, а мужчыну," — так гучыць прызнанне князёўны. Не хавае цынізму і партнёр: "Ну дык мне патрэбны князёўскі лес, патрэбен Росаш з усімі яго цацкамі". Спустошанне краю, спустошанне чалавечых душ — так можна характарызаваць вынік гаспадарання Ляскоўскіх, Друцкіх і Ліўшыцаў на зямлі, дзе два стагоддзі назад дзейнасць выдатных асветнікаў вызначыла кірунак інтэлектуальнага пошуку не толькі выхадцам з паваітовай ці засцянковай шляхты, але і людзям "простага стану". Менавіта дзейнасць асветнікаў абудзіла рамантыкаў, якія адкрылі свету духоўны скарб — характво "людзей і кветак над Нёманам" (Эліза Ажэшка).

Адарванасць ад нацыянальнага вызваленчага руху, адсутнасць выразных арыентацыяў стала прычынай духоўнага краху юнай Зосі. Заўсёды чулая да пакалечаных і наогул абяздоленых рабочых з гуты Ляскоўскага, яна мроіла пра невядомае ёй прыгожае жыццё ў вялікіх гарадах і не змагла вызначыцца да канца ў адносінах з сястрой Ляскоўскага Ядзяй, з якой вучыліся ў Мінскай гімназіі. Выкшталцоная ж паненка пастаралася дапамагчы брату ператварыць настаўніцкую дачушку і заадно сваю сяброўку ў наложніцу, якую Стась Ляскоўскі абразіў і літаральна з балю выгнаў у марозную цемень...

Гадаваны галечай у беларускай вёсцы Гаўрыла Росяк "рвануўся" да расійскай сацыял-дэмакратыі. Перанасычаная лексікай клопату пра светлую будучыню працоўных, бальшавіцкая прапаганда адводзіла пралетарыяту ролю сусветнага гегемона. Росяк стаў рабочым-металістам, потым — майстрам, дысцыплінаваным партыйцам, паліткатаржанінам. На будаўніцтве паперні пана Ляскоўскага ён быў ужо Паўлам Зыкавым. Тут ён мог нейкі час прабыць самім сабою — абачлівым і ўдумлівым беларусам. Не адчуваючы ціску партыйнай дысцыпліны, Росяк-Зыкаў у складанай сітуацыі знаходзіў пераканаўчыя довады, каб спыніць падпольшчыкаў з "пахмурным тварам", якія заўсёды патрабуюць толькі "рашучых крокаў". Іх не цікавіць, чым напярэдадні зімы закончыцца для рабочых нявыхад на работу і вулічная дэманстрацыя.

Зусім інакшы выгляд мае Зыкаў, калі ён выконвае партыйнае заданне і патрабуе ад актывістаў зараз жа арганізаваць забастоўку гарбароў з майстэрняў Імрота на Ляхаўцы. "Жорстка-насмешлівая", здзеклівая манера зносінаў з таварышамі, якія, рызыкуючы сабой і сям'ёй, хаваюць Зыкава ад жандараў, — гэта стыль партыйнага жыцця камуністаў. Бальшавіцкая тэхналогія ломкі чалавека, паказвае Янка Нёманскі, была ўдасканаленая яшчэ да кастрычніцкага перавароту. Уся атмасфера паседжання бальшавіцкай ячэйкі прасякнутая духам нежыцці... На асуджаных без віны на катаргу бацьку і сына Кавальчыкаў партыйны лідэр не лічыў патрэбным звяртаць увагу. Зыкава ж выкінулі на вуліцу ў рукі жандараў. Выкінулі, як Ляскоўскі выкінуў Зоську...

Містыка бальшавіцкага "знаку бяды" ў святле праўды веку паўстае ў рамане "Драпежнікі" Янкі Нёманскага як адна з найбольш злавесных канцэпцый "жыцця дзеля смерці": "и как один умрём в борьбе за это". За партыйную дыктатуру, як паказаў час.

У прозе Янкі Нёманскага абагульнены вопыт крытычнага асэнсавання беларускага шляху да пачатку XX-га стагоддзя. Пісьменнік пераканаўча паказаў, як на змену драпежнікам з п'явачнымі губамі ідуць магільшчыкі з тонкімі касцістымі пальцамі. У такой сітуацыі асабліва востра адчуваецца патрэба ў лідэрах, кроўна блізкіх народу, разумных і дасведчаных...

**Друкуецца ў скароце**

# Будучыня нарадзілася

## Вершы з праекта wir.by

***

Кацярына ГЛУХОЎСКАЯ

*Выламаныя дзверы,*
*Дзверы, выбітыя з нагі.*
*Адзначаю ў памяці,*
*Здымаю з петляў агі-*
*ды,*
*Ды*
*Пятляю па сходах,*
*Па гіпакампавай лесвіцы*
*Ўніз.*
*Дзверы, што мы пакінулі*
*Для суседзяў і мінакоў,*
*Іх адчаю адчыненымі,*
*Чыімі*
*Будуць?*
*У чый дом вядуць?*
*У чый сад,*
*Валадарства бязмежнае?*
*Чыю бяду*
*Хаваюць у прыцемках,*
*Чые кветкі*
*Бароняць ад цемры*
*На двух нагах,*
*На сотнях*
*Гумовых ног?*
*Кажуць, на чорных соднях*
*Пінаюць нашыя сэрцы,*
*Ступаюць на снежнаягаднік,*
*Слухаюць лускат іх.*
*Кажуць, што там звяры*
*Апрануліся ў людзі,*
*Выйшлі з сябе.*
*Выйшлі за межы*
*Закона — і чалавечага,*
*І не.*
*Бачу, муры растаюць*
*І растуць*
*Стагоддзямі.*
*Бачу, знаходзяцца*
*Людзі і дзверы*
*Зламаныя і адкрытыя.*
*Вочная, не на веру,*
*Нязмерная*
*Розніца паміж імі.*

**14 жніўня 2020**

### Калі ласка

Галіна СІЎЧАНКА

*«Калі ласка, біце!*
*Біце мяне па нырках,*
*у вачніцах маіх гасіце свае недапалкі,*
*кулямі,*
*кулямі*
*рабіце мне ў целе дзіркі*
*і — куды вам захочацца! —*
*ўстаўце палкі.*
*Калі ласка, зламайце мне шыю,*
*пальцы,*
*пазваночнік зламайце, ногі...*
*Спыніце сэрца.*
*Электрычнасць пусціце ў мозг*
*праз даўгое джальца,*
*дайце мне захлынуцца крывёй*
*ад удару берцам!*
*Калі ласка...*
*пастаўце, пастаўце мяне на калені*
*ля бетоннай сцяны,*
*ля бяздоннай разрытай ямы.*
*Так, свабода — гэта нявольніцтва,*
*рай — глумленне!*
*Задушыце абрыдлы голас*
*смуроднай плямы,*
*калі ласка!..»*
*— ты ў пекле будзеш прасіць расплаты,*
*і твайму невыноснаму болю*
*канца не будзе,*
*і ніхто не кране,*
*не кіне цябе за краты,*
*бо ў пекле — запомні, пагань! —*
*таксама Людзі!*

**18 жніўня 2020**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

***

Артур КАМАРОЎСКІ

*твая самая чаканая цяжарнасць*
*напрыканцы лета*
*пасярод Еўропы*
*мы чакалі*
*калі адыдуць воды*
*гладзілі твой вялікі жывот*
*сваімі маленькімі рукамі*
*захіналі ў вялікія сцягі*
*слухалі*
*як унутры варушыцца будучыня*
*і мкнецца ў цяпер*
*мы баяліся*
*што яна будзе кволай*
*што будзе нягеглай*
*і яе не возьмуць у садок*
*яна не пойдзе ў школу*
*як іншыя дзеці Еўропы*
*што чакае яе замужжа*
*і нялюбы муж*
*такі як наш бацька*
*што яна*
*самая малодшая ў нашай сям'і*
*ніколі не зведае шчасця й любові*
*тым вечарам неба —*
*наша бабка-павітуха —*
*надзела чырвонае з белым*
*каб узяць твой боль*
*самыя цяжкія твае роды*
*ты плакала*
*губляла прытомнасць*
*ачуньвала*
*але нараджала будучыню*
*мы стаялі вакол*
*усе твае дзеці*
*а бацька ў шаленстве хапаў нас*
*збіваў*
*і кідаў у турмы*
*ён хацеў і далей валодаць табой*
*мы трымаліся*
*трымалі твае вялікія рукі*
*чакалі*
*і жнівеньскім вечарам*
*будучыня нарадзілася жывой*
*і закрычыла*

**19 жніўня 2020**

### Інструкцыя па размазванні чалавека

Крысціна БАНДУРЫНА

*Ваш галоўны інструмент —*
*гэта страх.*
*Страх болю мацнейшы*
*за сам боль.*
*Калі вы кіруеце іх страхам,*
*вы кіруеце імі.*
*Адбярыце ў іх голас,*
*прымусьце заткнуцца.*
*Калі крычаць — біце. Біце мацней*
*за іх крыкі.*
*Цемра, чорная ўніформа,*
*інфармацыйная блакада,*
*засады ў дварах, выбухі, кулі,*
*дэзінфармацыя, раскол,*
*парады спецтэхнікі,*
*сінякі, пераломы, ЧМТ,*
*добра б і пару жмуроў —*
*але не болей,*
*потым не супакоіце,*
*што-небудзь «выпадковае»:*
*самаробная граната,*
*сардэчная недастатковасць, суіцыд.*
*Чым болей страху,*
*тым больш цішыні.*
*Брась усіх.*
*«Стакан», «баня», расцяжка, карцар,*
*выпраўленчая праца з дручкамі —*
*навучыце іх любіць радзіму правільна.*
*Страх болю мацнейшы за сам боль.*
*Кожны гіпатэтычны ўдар*
*больш балючы*
*за рэальны.*
*Тэлефоны, тэлеграмы, каналы,*
*іх сапліўыя перапіскі з мамкамі,*
*сувязь з арганізатарамі...*
*Трымайце іх голымі,*
*палкі з гандонамі напагатове,*
*калі вы...бваюцца —*
*пускайце ў ход.*
*Аніводная сука потым не выйдзе.*
*Ніякай дапамогі. Ніякай літасці.*
*Яны нас не пашкадуюць.*
*Кіньце ім, як сабакам,*
*кавалак хлеба на ўсіх,*
*каб перагрызліся.*
*Піць таксама не давайце.*
*І трое сутак без парашы —*
*пагля дзім тады*
*на абасраных кароў.*
*А калі выпускаеце —*
*квітанцыю ў зубы:*
*хай плацяць*
*за сваю свабоду,*
*калі яна была ім патрэбная*
*такой.*

**20 жніўня 2020**

***

Наста КУДАСАВА

*Тут кожны баіцца прызнацца,*
*што страціў кагосьці,*
*што больш немагчыма без жаху*
*ступаць па зямлі:*
*сасновыя шышкі*
*трашчаць пад нагамі,*
*як косці,*
*як берцы забойцаў, чарнеюць*
*у травах камлі.*
*А ў небе — нябесныя сотні,*
*нябесныя шэсці...*
*А з неба скрозь слёзы,*
*абняўшы нябесны штурвал,*
*глядзіць ашалелы ад роспачы*
*лётчык Акрэсцін:*
*«Усё*
*пазабыта.*
*Нікога*
*не*
*ўратаваў».*

**20 жніўня 2020**

***

Вольга ГРОНСКАЯ

*Голас —*
*парваны ў пыл разам з тонкай паперай,*
*сарваны болем і немым крыкам,*
*вырваны з горла дубінкай ка́та,*
*ператвораны ў галашэнне,*
*у сіні роспіс на голай спіне —*
*можа вярнуцца.*
*Калі ты падымаешся па прыступках*
*уласнага страху*
*співаць пра Пагоню,*
*калі надзяваеш Пагоню на грудзі*
*і гуляеш па горадзе,*
*пагоні не баючыся.*
*Голас вяртаецца*
*ў мове тваіх фотаздымкаў,*
*у словах на ватмане,*
*гуках ахрыплых клаксонаў,*
*у хвілінах маўчання.*
*У запараным кубку гарбаты —*
*для таго, хто гаворыць.*
*Голас вяртаецца*
*новым і моцным,*
*глыбокім і цвёрдым,*
*дарослым,*
*сапраўдным*
*і болей не будзе ламацца.*
*Адчуванне гонару,*
*пачуццё годнасці,*
*прага праўды і справядлівасці —*
*найлепшыя ў свеце*
*фаніятры і*
*пастаноўшчыкі*
*Голасу.*

**24 жніўня 2020**

***

Даша БЯЛЬКЕВІЧ

*б'юцца ў вокны галінкі дрэваў*
*зрабі стрэлы*
*птушкі дзюбай драпаюць шкло*
*бяры пяро*
*коціцца ў ногі чорны каменьчык*
*вастры наканечнік*
*слухай, я кепска страляю з лука*
*божа, кожны робіць тое, што можа*
*мы разам шукаем дарогу,*
*якая вядзе ўгару*
*у хвіліны маўчання нараджаюцца ворагі*
*я гавару*

***

Ігар КУЛІКОЎ

*насуперак ночы насустрач світанню*
*праз прошласць шчытоў*
*як туман цераз тын*
*мы выйдзем — выходзім —*
*з самоты й адчаю*
*на вольны прастор дзе ніхто не адзін*
*дзе небам валошак заліты далёчы*
*і тысячы сонцаў расой на траве*
*як ветраз распраўлены будучым плечы*
*і ў сэрцах нястомных*
*жыве Беларусь*
*жыве*

# Мама



Уладзімір СЦЯПАН

### Раніца

Бярозы за вакном нерухомы. І крумкач на вершаліне нерухомы, як нежывы. Неба нізкае, дождж усё збіраецца-збіраецца, ды не насмельваецца пайсці. Вусцішна.

З кухні ціха падыходжу да мамінага пакоя, спыняюся ў дзвярах і гляжу на яе твар, потым на сурвэткі на крэсле, на грабеньчык, акуляры, стары тэлефон, на шклянку з вадой, потым зноў на твар і ад яго, слізгануўшы позіркам па гадзінніку, на вялікае вакно — светлае, ранішняе... Сённяшняя ноч прайшла спакойна.

Мама расплюшчвае вочы, здзіўляецца і палохаецца, калі бача мяне ў дзвярах. Я разгублена ўсміхаюся і не ведаю, што сказаць.

— Гэта дзень, сынок?

— Дзень... — адказваю ўпэўнена.

Яна паказвае рукой на сцяну супраць ложка. Там гадзіннік.

— Бяз чвэрці восем. — Кажу, бо думаю, што яе, як заўсёды, цікавіць час.

— Яны прыходзілі, ты не бойся, прысядзь, не стой...

— Хто мог прыходзіць, мы адны, дзеры на замку, нікога тут не было і быць не магло.

— Яны адтуль выйшлі, са сцяны... Цёмныя, высокія такія. Адзін трохі меншы. Я спужалася. Сціснулася ўся ў камяк, а коўдру не магу насунуць... Яны маўчаць і бліжэй падыходзяць. Да самага ложка... Глядзяць і кажуць, каб я збіралася і не баялася. А я сабе думаю, як я з імі пайду, я ж у памперсе, не апранутая... Сорамна...

— Мужчыны, мама?

— Я і не зразумела, хто яны такія. Цёмныя і смяюцца ціхенька...

Падсоўваю да ложка крэсла, сядаю і спрабую ўсміхацца. Хачу ўзяць яе за руку, а яна яе выторгвае, хавае пад коўдру.

— Прыснілася табе абы што... Не думай... Дзень на двары. Снедаць будзем, таблеткі піць... Што прыгатаваць?

— Я, сынок, так даўно жыву, што ўсе свае сны ведаю, не па адным разе сніла... А ты кажаш — сон!

Падымаюся з ложка, падыходжу да сцяны, ляпаю па ёй далонню.

— Не можна з гэтай сцяны выйсці, мама! Бетон!

— Я падумала, ночку, што калі пайду з імі, то ты раніцай глянеш, а мяне няма... Ложак ёсць, а мяне няма... Спужацца можаш.

— Аўсянку ці амлет?

— Што хочаш...

Калі рабіў амлет, за вакном пайшоў снег. Яйка выслізнула з пальцаў. Упала і не пабілася.

### Дзень

Сонечна... У кухні ўсё блішчыць, і старыя рэчы выглядаюць, як новыя. А посуд: талеркі, белыя каструлі, кубкі, лыжкі, відэльцы, шкло — зіхцяць так, што даводзіцца мружыцца.

За вакном, з пятага паверха, відаць далёка: прыватныя дамы і агароды, шаша, чыгунка, высокае неба з белымі аблокамі. На некаторых агародах — блакітна-белы дым. Гаспадары парадкуюць свае соткі, паляць мінулагодняе смецце, абрэзанае галлё.

Думаю пра апавяданне, якое не магу дапісаць, але не злуюся сам на сябе, бо занадта добрае надвор'е, а бярозы, асветленныя красавіцкім сонцам, выглядаюць святочна. Хутка, яшчэ колькі дзён — і рудое галлё зробіцца купарсона-зялёным.

Пераношу маму на кухню. Уладкоўваю на цяжкае крэсла побач з жоўтым сервантам. Хачу, каб і яна парадавалася яркаму сонцу, цівуканню птушак, смачным пахам ежы, якая гатуецца на вымытай пліце... А яшчэ думаю пра апавяданне і пра тое, што буду за мамай падглядаць, слухаць за кожным яе рухам, поглядам, лавіць словы і развагі пра жыццё.

Але яна глядзіць у вакно без цікаўнасці.

— Бачыш, дзеці са школы ідуць па дарозе, — кажу ёй.

— Няхай сабе ідуць.

Паварочваю крэсла, і яна не бачыць сонечнага краявіда. Шчоўкаю кнопкамі, кручу тумблер, і пральная машына пачынае вуркатаць, шумець, і за круглым вакенцам радасна круціцца ў белай пене рознакаляровыя апранахі. Гляджу на радасны рух і вясёлае вуркатанне.

— Доўга яна яшчэ будзе шумець? — Мама паказвае пальцам на белую машыну.

— Паўгадзіны.

— А што так доўга?

— Пакуль намочыць, пакруціць, зноў намочыць, а потым адцісне і спыніцца... Дастану і на балконе павешу — там будзе сонца, і да вечара ўсё пасохне.

— Суп пасаліў? Пасалі...

Салю суп і пачынаю шкадаваць, што прынёс яе на кухню, што выцягнуў са звыклага... Думаў убачыць яе радасць ад усяго гэтага сонечнага, вясёлага, смачнага, шумнага... Спадзяваўся, што ўсё гэта палепшыць яе настрой.

— А які сёння дзень?

— Аўторак.

— Паска скора?

— Трохі меней, чым праз тры тыдні, а што?

— Трэба будзе яйкі пафарбаваць, каб па адным на кожную магілку. Купі, і няхай ляжаць у лядоўні, а то потым... А суп накрый, няхай пастаіць, а то бульба будзе цвёрдая... Занясі мяне туды. — Сказала неяк абыякава і паглядзела на дзверы свайго пакоя.

Перанёс, пасадзіў на ложак і ўздыхнуў.

— Адпачні. — Паляпала па ложку.

Сеў. Маўчым. Думаю, што праз гадзіну трэба палудняваць, а я пакуль не ўсё прыгатаваў, што кампот забыў пасаладзіць.

— Ма, што-небудзь хочаш?

— Хачу... — Адказвае хутка, як чакала майго пытання.

— Ну?

— Давай разам памром, чуеш?

— ?

— Мы з табой добра пажылі... Чуеш?

— Што ты прыдумала... Што ты гаворыш? Я ж твой сын.

— Сын, я ведаю...

— У мяне ж дачка яшчэ маладая, жонка... Мама, што ўсё гэта? Пра што ты?

— Дачка вялікая, не прападуць яны без цябе...

— Ой... Давай пакладу, паляжы, а то гаворыш абы-што...

Доўга стаю перад вакном, гляджу на аблокі, на белы надпіс упоперак дарогі, добра бачныя тры апошнія літары "ОЛА", а дзве першыя "ШК", амаль сцёрліся коламі машын. Пахне кампотам, але яго салодкі летні водар мяне раздражняе.

### Вечар

На клавіятуру ашчадна свеціць маленькая лямпачка. У кватэры цёмна і ціха, нават вусцішна. Спяшаюся, падбіраю словы, быццам выкалупваю, злуюся... У вячэрняй сутонлівай цішыні чуваць кожны гук. Мама ўздыхае, неразборліва мармыча нешта, а потым ясна і насцярожана, амаль спалохана:

— Сынок, Вова, ты дома?!

— Тут, а дзе мне быць, — адказваю, запальваю святло, іду да яе ў пакой.

— Што ты там робіш?

— Працую. Пішу...

— Чытаеш... А што ты пішаш ноччу? Колькі часу? Дзе мае акуляры, не бачу.

— Палова на дванаццатую... Спі! — прашу, ці амаль загадваю і незадаволена ўздыхаю.

— Сядзь тут, раскажы, што ты пішаш, пра што?

— Ой... Пра цябе пішу. — Сказаў і тут жа пашкадаваў, падумаў, што трэба было схлусіць, пра работу што-небудзь расказаць.

Мама насцярожылася, вусны падціснула, рука пачала намацваць акуляры, потым уздзяваць. Павялічаныя шклом вочы злосна, мне так падалося, бліснулі.

— Пра мяне... А што ты пра мяне ведаеш?...

— Пішу пра тое, як мы тут з табой гаруем, як я цябе кармлю, мыю... Пра рознае пішу, а што — нельга?

— Ты толькі не пішы, што бацька твой піў дужа і павесіцца хацеў, а я не дала яму і вяроўку забрала, забіць яго хацела... А ён плакаў-плакаў, як дзіцёнак... Не будзеш гэта пісаць? Напішы, што я ўсё жыццё работала, аж семдзесят восем гадоў работала...

— А чаго ён плакаў?

— Спужаўся...

Трохі памаўчала, акуляры зняла, папрасіла пакласці да месца і пачала расказваць, як памерла яе матка. Памерла ад ціфа, на печы. І дзеці: Вольга, Шура, Надзя і яна, — усе на печы спалі, убачылі, што маці не дыхае, пабеглі на канюшню, каб сказаць бацьку і спытаць, што цяпер рабіць і што ім есці... Бо матка не паспела нічога згатаваць... Напішы, што мой партрэт на прахадной завода вісеў і мне прэміі давалі, а калі ногі пачалі балець, то адпраўдялі ў санаторый — у Сочы, у Сакі, у, забылася, як той горад завецца, — у Анапу...

— Напішу і пра Анапу.

— Што ты тут сядзіш... Ідзі!

— Пісаць?

— Спаць ідзі... А я таблеткі піла? Ідзі... Святло патушы.

Вяртаюся ў свой пакой. Сядаю да стала. Рукі на клавіятуры, але я цяпер не ведаю, пра што пісаць.

# Яго малодшы брат

Мы сустрэліся пасля працоўнага дня, побач з былой «Журавінкай», на беразе Свіслачы і стукнуліся кулакамі — павіталіся. Позірк майго даўняга знаёмага быў не вельмі вясёлы. Ён здзёр белую маску, схаваў у кішэнь і паспрабаваў усміхнуцца, але і тут атрымалася не вельмі.

Мы няспешна рушылі ўздоўж ракі.

— Ты сядзеў калі-небудзь за кратамі, цябе арыштоўвалі? — спытаў ён і зірнуў мне ў твар.

— Было неяк, у войску... Завялі на гаўптвахту, але раніцай выпусцілі... А чаго пытаеш?

— А я пражыў сорак тры гады і ніколі не сядзеў у каталажцы, нават не магу згадаць, каб на вуліцы дакументы міліцыя праверыла...

— Гэта «на раз» можна выправіць.

— Уяўляеш, мой малодшы брат... ты яго ведаеш, ты яго бачыў, памятаеш Андрэя?

— Памятаю, ён мяне тады ў шахматы тройчы «зрабіў»... Яму гадоў восем было. Вундэркінд! Што з ім?

— Жывы-здаровы, але за год яго тройчы арыштоўвалі... Ты не здзіўляешся?

— Не.

За мостам грала музыка. Маладзён стаяў перад мікрафонам і спяваў нешта лірычнае і незнаёмае. Моладзь сядзела на зялёным адхоне, слухала, некаторыя падпявалі, парачкі абдымаліся-цалаваліся, смяяліся. Зразумела. Цёплы вечар, прыгожая рака. Любімы горад. Траецкае прадмесце. Шматлюднасць. Адлюстраванні. Калі-нікалі хрушч праляціць. Быццам усё, як заўсёды, толькі размова не вясёлая...

— Андрэй малодшы, а таму і ўся ўвага і любоў яму. Мы насіліся з ім, як з пісанай торбай. Пяці не было, а ён чытаў. Кніжкі — любімыя цацкі. Дачытаўся. У школе па тры разы на год на розныя алімпіяды ездзіў — і, самае галоўнае, перамагаў... Мы з сястрой малодшым братам ганарыліся. Спадзяваліся, што ў яго ёсць усё тое, чаго нам Бог не даў. Здольнасці неверагодныя, а да таго і шанцуе заўсёды...

— Памятаю. Ты хваліўся, дыпломы паказваў...

— У гэты панядзелак ездзілі ў Жодзіна яго сустракаць. Мама не паехала, сказала, што слёзы скончыліся, бацька хацеў з ёй застацца, каб калі што якое, ну сам разумееш... Але мама не пагадзілася, сказала, што і без яго святочны стол збярэ, і з намі яго выправіла. Ён, мы з сястрой і Маша — дзяўчына Андрэя (яны больш за год разам жывуць на здымнай кватэры). Паехалі на маёй машыне. Трывожна. Маўчым. У Мінску навальніца, а за горадам сонца, неба чорна-сіняе і вясёлка... Палі рапсавыя жоўтыя-жоўтыя, трава зялёная — прыгажосць... Атрымалася, што не толькі мы, а яшчэ яго сябры-таварышы на трох машынах да турмы прыехалі. Наш бацька, калі гэта пабачыў — не стрымаўся, слязу пусціў... Ай, што тут казаць, я і сам вочы пачаў церці... Дзве гадзіны чакалі абармота, на сцены і калючыя вароты глядзець надакучыла, а яго ўсё няма...

Злева ад крытага катка моладзь весялілася, гуляла ў валейбол, каталася на скейтах, роварах, насілася на самакатах. Калі нам пад ногі прыляцеў мячык, то мой таварыш падхапіў яго і злобна шпурнуў дзяўчыне ў шортах, якая засмялася і паціснула плячыма.

— Адны за кратамі, а другія скачуць, як быццам усё добра... Як быццам не тут жывуць, а на іншай планеце! — сказаў і спахмурнеў. — Андрэй выйшаў нечакана, адразу пасля нейкіх людзей, якія, відаць, там працуюць — перасменка была. Выйшаў і стаіць, торба ў руках. Высокі, худы... Маша яго заўважыла і першай пазнала. Закрычала, пабегла, і мы за ёй. Андрэй разгубіўся, лыпае, спрабуе засмяяцца... Мне падалося, што не вытрымае — заплача, як дзіцёнак. Тут, каля машын, усе схамянуліся, кінуліся яго карміць. Навезлі ўсяго рознага... А ён адмаўляецца, кажа што там, у камеры, хлопцы засталіся, што там было добра, што і папера, і сурвэткі, і мыла — усё ў іх было... Адно што на вуліцу за трыццаць дзён ні разу не вывелі... Ты сабе не ўяўляеш, як мне захацелася яму ўрэзаць! З усяе моцы. Каб аж зубы павыляталі... У цябе няма цыгарэты?

— Ты ж не курыш.

— Сем гадоў не курыў, а калі яго другі раз судзілі і далі дваццаць сутак, то не вытрымаў...

— Няма ў мяне цыгарэт, ты ж ведаеш... А як Андрэя ў палітыку занесла, ён жа ўсім гэтым, здаецца не цікавіўся?

— Ведаеш, ён — праграміст. Добра зарабляў. І Маша такая ж, яны з ліцэя знаёмыя... Вандравалі — лёталі-ездзілі куды хацелі. Карацей, жылі сабе і нам на радасць. Кіно да рання маглі з сябрамі глядзець, музыку слухаць... А потым, мінулым летам, брат запісаўся назіральнікам на выбары. Я тады здзівіўся, падумаў, што гэта ўсё фігня нейкая, што няма чым заняцца чалавеку... Мы нават не спрачаліся з ім. Ён сядзеў на тых выбарах, нешта сабе пазначаў у натацніку, моўчкі падлічваў, а потым пачаў спрачацца са старшынёй камісіі. Не сварыўся, а спрачаўся і даводзіў, што лічбы не супадаюць. Выклікалі міліцыю. Андрэй паспрабаваў тлумачыць, але дзе там...

— А што яго сяброўка думае? — спытаў я і спыніўся, пачаў дзівіцца, як рыбак выцягвае бліскучую плотачку.

— Што яна можа думаць... Ёй няма калі думаць — яна валанцёрыць, грошы зарабляе... Слухай, ты б пагаварыў з ім. Нас ён не слухае: ні мяне, ні бацьку, ні сястру... Яны ж з яго могуць інваліда зрабіць...

Мы вярнуліся да былой «Журавінкі», дзе стаяла машына майго сябра, развіталіся. Праз тры дні ён мне патэлефанаваў і сказаў, што Андрэй і Маша сабралі заплечнікі і з'ехалі з Беларусі. Паляцелі ў Грузію, адтуль у Варшаву. Мне падалося, што ён сказаў гэта з палёгкай.

# Уваскрашэнне маланкі



Марыя БАДЗЕЙ

***

*Такі востры край,*
*Што з паветра растуць*
*крыжы і дзядоўнік,*
*Касцёлы будуюць,*
*Каб хаваць зброю,*
*Дзеці гуляюць касцямі*
*Прайграных паўстанняў.*
*Край забытых дзвярэй*
*і забітых шыбаў,*
*Дысгармоніі рытмаў целаў*
*І музыкі дрэў.*

*Пад смыкам птушыным*
*Дрыжаць палі*
*нібы пад пальцамі па спіне,*
*Мочка вуха рыфмуецца з вуснамі,*
*Як «сонца» з «бясконца»,*
*І каханне, што ўваходзіць у чалавека,*
*Як п'яны ў паліто,*
*Праз белы шум памяці,*
*Праз белы бэз, што раве ў галаве,*
*Прарываюцца галасы нашага болю,*
*Бег*
*па сератанінавым коле,*
*Рух*
*па маршрутах солі,*
*Страх*
*перагарэць першым.*
*Няўжо застаецца толькі горкае?*
*Няўжо без горкага кроў закісае*
*І сэрца падае,*
*Як памідор у гарачы пясок,*
*Сочыцца залатым семем,*
*Прыгадвае:*
*Калі крычыш —*
*Не забывайся рабіць паўзы.*

*Я чалавек на балоце тваім*
*І ведаю:*
*Там, дзе хаваюць стралу,*
*Уваскрашаюць маланкі.*

***

*Краіна — гравюра, выразаная*
*чыгункамі.*
*Прысмак жалеза,*
*Адценні шкла,*
*Ад ценю ўцякае цягнік.*
*Шампанскае снежных лясоў!*
*Гэта зіма Брэйгелем намаляваная*
*Паверх ксілаграфіі сухімі іголкамі.*

*Зямлі сцюдзёная патэльня,*
*Гарачы блін,*
*што паволі спаўзае за далягляд,*
*І гарады паміж шахам і патам,*
*Дзе электрычнасць губляе*
*свае мандарыны.*

*Сінія прыцемкі, сонныя злодзеі*
*З ледзяным лязом за голенем*
*З лесу вылазяць, палоняць палі,*
*праглынаюць дарогі.*
*З вуснаў іх дзьме, з вачэй сочыць,*
*з рук зорамі пахне,*
*Так халадзее*

*І дзень застывае у студзень.*

***

*Студзень:*
*Сто дзён*
*Мне даставаць лёд са студняў,*
*Штоноч,*
*Стогнучы,*
*Нам засынаць у чоўнах*
*І сэрцы, бы вёдры,*
*Адно з аднаго цягнуць,*
*Каб напіцца.*

***

*Вецце свеціцца белым*
*У свеце зялёным,*
*Вецер усім загібелым*
*Шапоча пра клёны,*
*Пра арабіны і сосны,*
*І чэзнуць праклёны,*
*Цяжар так невыносны*
*Падае ніц.*

*Дрэвы ў сон адамкне*
*Трывогі крыніца,*
*Створаць з яе люстэрка*
*Яблыні грому —*
*Так завостранай гэтай любові*
*Да страты скарыцца,*
*Так*
*Маім навальніцам*
*З усёй быстрыні*
*З нябёсаў — у строму.*

***

*Бэз пахне блюзам,*
*джаз — язмінам.*
*Таката хрушчоў*
*Лёт апякае аб жырандолі*
*каштанаў.*
*Рэ мажор у тваіх валасах.*
*Крычыш.*

*Гары, чаромха, белым полымем!*

***

*Першы дзень жніўня.*
*Вада са студні*
*Колеру белага вінаграду.*
*Віно з агрэсту*
*ад уласных шэптаў*
*Стае п'янлівым,*
*Ад гаворкі ў цемры*
*сабе самому*
*Салодкае стаецца садкім.*
*Досыць трывог.*
*Увішны Бог*
*Вішнёвай косткай*
*упалюе горыч —*
*Ар'ергард смаку,*
*І тады*
*Свет праглыне*
*ўсю даўкасць арабін,*
*Глыбіню колеру і крык пладоў,*
*Якія ўжо з'явіліся з паветра.*



Фота www.dzedzich.org

***

*Шчодры вячор, святы вячор*
*У срэбры зорных крыг.*
*Ноч на плячах,*
*І спеў яе*
*Аж запірае дых.*
*Сіпяць вятры, і ты сіпіш,*
*Шапочуць травы:*
*што не спіш?*
*І зорка свеціць услых,*
*Уверх!*
*Да хмар!*
*Дрэў гнуткі рух:*
*Маленне чары.*
*Чары рук*
*На лоб гарачы.*
*Нарачы*
*Усё словам. Новыя ключы*
*Скрыпічныя:*
*стан нотны — дождж.*
*На цені ніцыя галін*
*Мелодыя — агні ялін —*
*З нябёс сцякае ўначы,*
*І ноч дрыжыць, бы нож*

*Над сэрцам вепрука.*
*Рука*
*Лье кроў цуркам у чорны снег,*
*Над вепруком саломы смех,*
*Смалілі — пахі білі з ног,*
*І пара з місаў, поўны рог,*
*І ціха плакаў Бог.*

*Духмень у хаце: хвоя, печ,*
*Да слова кожнага ёсць рэч,*
*Цвікі, ягнятка, яйка, трус*
*Йшчэ абяцаюцца быццю.*
*Каноплі клалі ў куццю*
*І сена пад абрус.*

*Мяло ў Евангеллі палёў,*
*Мароз куў цішу, а галлё*
*Пылала срэбрам,*
*І быццё*
*Паліла зрэб'е.*
*З рэбраў дрэў*
*Плялі кашы гаспадары,*
*У жніўні каб насіць дары,*
*Глядзелі, як агонь гарэў,*
*Увівалі вогненную ніць,*
*Каб музыку насіць.*

*Выходзім з кола на прастор*
*Да зор, і сцежкі збоч.*
*Такое дзіўнае жыццё,*
*Дзе снег ідзе ўсю ноч.*
*Вятрыскі ўзорнае шыццё —*
*Пасціўся і гавеў,*
*Між стрэх з аблокамі гібеў*
*І зоркі слухаў спеў.*

***

*Ад хмараў вінаграду*
*цёмна ў хаце,*
*Словападзенне жніўня*
*выспявае*
*У гарачым пыле.*
*Па-над дахамі спявае*
*Залаты певень,*
*Коміны клюе.*

*Месяц-манарх*
*уплятае пасмы сонца*
*У косы цыбулі.*
*Бульба ў баразнах*
*Бярэ ў разлік раты*
*і волкасць склепу.*
*Трывога траў*
*І дзіўны дрэў давер.*

*Нічога яўлена ўжо*
*не будзе.*
*Усё названа.*
*У ваду хлеб кідай.*
*У горле яблык болю*
*пракаўтнецца.*
*Даўкім вінам*
*Напоіць месяц-мніх.*

***

*Хто есць цвілы хлеб —*
*перуноў не баіцца.*
*У кожным арэху па маланцы,*
*У кожным рэху па ліхаманцы,*
*Слівы, залевай зламаныя,*
*Рабінавай роспаччу*
*Ночы на мяжы.*
*Вецце маланак раве,*
*Дрэвы ў шыбы рвуцца.*

*Вятры выціраюць твары*
*ў люстэрках.*
*Гістэрыя назваў,*
*Вязьмо імёнаў,*
*Словаспады ў вострыя травы,*
*Марнатраўныя сны*
*Да сваіх вешчуноў вяртаюцца.*

*Хата ля лесу,*
*і сабака брэша на дзверы.*

**Verbum**

*О, дзеясловы вербаў,*
*Сваім узмашыстым «verde!»*
*Вы адчыняеце дзверы,*
*І я давяраю: «даруй».*

*Рэдактар спёкі і злівы*
*Выправіць словы на слівы,*
*Абдымкі стануцца дымам —*
*Цяпер абярнуцца куды нам?*

*Сэрца — катом у студні*
*Раве, пакуль не патоне,*
*Я ў вёдрах тваёй пяшчоты*
*Зусім захлынуся:*
*Даруй.*

***

*Мёд фарбаў, задуха,*
*Далоні кветак і пах*
*гэтых далоняў.*
*Языком па прожылках:*
*Новымі словамі*
*Смак старых лёсаў.*

*На скуры ў кахання пагоны,*
*Пярсцёнак з каронай*
*на пальцы,*
*У кішэні ў злодзея сонца*
*Са сплецення майго.*

*Медзь колераў,*
*крышталь паветра,*
*Сухая кроў дрэў.*
*Кулакі пладоў*
*Вобзем,*
*Аб клетку грудную,*
*У сценку.*
*— Хто там?*
*— Гэта сэрца ў шыбу.*
*— Не адчыняй.*

# Калені



Дар'я ВЯЧЭРКА

**Я люблю свае калені.**

Калі я была маленькай дзяўчынкай, мае калені заставаліся цэлымі. Яны любілі ровар і ролікі, домікі на дрэве і скакалку. Ніводнай плямачкі ці шнарыка. Мае калені былі светлыя і гладкія. Іх калегі, каленкі іншых дзяцей, фарбаваліся ў смешны зялёны колер ці муміяваліся ў белы бінт.

У мяне прыгожае цела:

1. Вочы колеру цвілі і трошкі марской хвалі;
2. Акуратныя вушы, якія не тырчаць, нібы радыёталеркі;
3. Доўгія худыя пальцы з авальнымі пазногтямі;
4. Круты выгін спіны паміж лапаткамі і копчыкам, які павінен быць у прыгожанькіх дзяўчатак і надае майму целу тыгрычнасць і газельнасць.

Але самыя вабныя застаюцца калені.

Яны круглыя, калі сяджу, калі правая нага зверху налягае на левую, далікатна абдымае яе. Калі ўстаю, яны роўныя, прамыя, не высоўваюцца, як сук. Яны любяць мяккую тканіну спадніцы, цёплыя, часцей гарачыя мужчынскія рукі. На іх утульна дома сядзіць котка, а за дзвярыма кватэры — торба ці заплечнік.

Калені гордыя. Таму я ніколі не стану на калені, што б там ні было.

Летам калені бачаць навакольны сусвет. Яны нагрэтыя сонцам, бурыя ад сонца, падобныя да сонца. Дзве сястры, два маленькія сонцы, якія не схаваюцца за гарызонт.

Калені смяюцца з “высокіх” адносінаў мезенца і тумбачкі, з чырвонага загарэлага носа і танюткіх залатых валасоў, што ні заплесці ў касу, ні расчасаць, ні сабраць у хвост.

На калені глядзелі зацікаўленыя хлопцы, правае калена аблізваў сабака, левае калена стаяла спераду на фотаздымку. Вялікі абцас не змог захаваць раўнавагу, яго сусед па другую нагу збег кудысьці, два круглыя сонцы стукнуліся ілбамі і разам пацалавалі асфальт...

Пачаўся смутак. Дзве сонечныя сястры з разбітымі, але ўсё ж мілымі тварамі былі зацяснутыя ў джынсавую камеру, на іх рот наляпілі маску-пластыр, каб не крычалі ад крыўды. “Дагуляліся” — думалі яны.

Праз джынсавыя муры не было відаць летняга наваколля. Зніклі закаханыя мужчыны, страціліся торбы, заплечнікі і котка. “Шчасця няма” — пакутавалі яны.

Хоць бы дзірка! Хоць бы спадніца была карацейшая! Дык не.

Навакольны сусвет не пазнае мяне, загорнутую ў шматлікія пласты адзення. Зрок шукае два сонцы, якія больш не зззяюць. Гарачая рука спыняецца раней, чым дасягне калена. Котка і торба — побач з сіня-шэрай турмой, дзе сядзяць абвінаваныя ў нічым два круглыя гладкія сонцы.

Пройдзе час, канвой здыме маскі, і сонечныя сёстры зноўку адчуюць свабоду.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (178) | 25 чэрвеня 2021 | № 24 (732) Новы час

# Ідал

## З «Інтымнай хронікі часоў міжвер'я»



Галіна БАГДАНАВА

Разамлелы за дзень спёкі колкі хвойнічак пацягнуўся, няспешна, лянотна крануў, паказытаў сваім няроўным, іглістым ценем раку і, стомлены, сцішыўся ў чаканні прахалоды. Бліскалі срэбнымі маністамі вербы, з палёгкаю ўздыхаў, пазяхаў стаптаны рупным сенакосам поплаў. Яшчэ пару гадзін, і вось ужо дачакаліся — наплывае, рассыпаецца росным бісерам туман. Мякчэе, разнявольваецца мурог, нават глеба. Лёгкі вэлюм туману спавівае, ахінае кожную травінку, кожную красачку, пад яго мяккім дотыкам аджывае павялае ад гарачыні пер'е аеру, сцішваецца, уплятаючы ў даўгакосыя водарасці жаўтароцікі-гарлачыкі і жамчужныя лілеі, рака. Вы хоць калі заспелі, заўважылі тое імгненне, калі ападае раса, калі пачынаецца вечар?..

Усё наўкола запавольвае дыханне, млее ў чаканні прахалоды, у чаканні адпачынку. Толькі рачныя хвалі, хоць ніхто ж іх, нават вецер, не прыспешвае, не даюць сабе перадыху. І ажно голаў вядзе ад рухомае гэтае плыні. Сонца ўсё яшчэ цягнецца, мякка кранае, цалуе зямлю. Ніяк не нацешацца адно адным. Трава, узбярэжныя вербы яшчэ трымцяць, сцінаюцца пад дотыкам сонечных промняў. І рака нястомна ўплятае мігатлівыя бліскаўкі ў свой жывы плывучы ўзор, які імкліва, дрыготкімі хвалямі перацякае на лілеі, гарлачыкі, густы аер, на адзін, другі бераг, на срэбныя вербы, залатыя, звонкія хвоі, вышэй, вышэй, — да самага неба… А спавітыя сонечным, жывым люстэркавым мігценнем рачных блікаў галінкі ўжо трымцяць у чаканні новага дотыку. Яны трымцяць у чаканні цяпла і вільгаці. Усё наўкола яшчэ такое жывое, рухомае. Толькі вось гара. Змрочная, быццам засланая аксамітам, зялёная гара на тым беразе, за поплавам, як стаяла, так і стаіць нерухома. Яна, суровая і ўнурыстая, быццам адасобілася ад усяго свету. Да яе не дацякаюць ні вечаровыя цені, ні сонечныя блікі, ні рачныя люстраванні. Яна цешыцца і ніяк не можа нацешыцца сваёй уласнай самасцю. Прыглядзьцеся, гэта ж ад яе, ад зялёнай гары, наплывае, ахутвае ўсё наўкола вечаровы туман. Быццам расчыніў нехта там куфар і вымае, сцеле ўсцяж, да самага даляглядý, густы вэлюм… Яна, тая гара, заваражвала. Але Любава, што хацела крыху паплаваць, змыць дзённы пыл і стому, перавяла позірк на сонца. Прымружылася. Нябеснае святло сцялася, выцягнулася крыжам. Расплюшчы вочы, і вось яно зноў разнявалілася, расцяклося, жывымі блікамі заткала ўсё наваколле. Усё, апроч той, парослай хвойнікам, маладым ельнікам непадступнай туманавай гары, ад якой наплывае вечаровы туман, што расою ападае на травы і кветкі. Дзіўна, гэтая гара быццам супрацьстаіць Сонцу…



Фота www.histmuseum.com

— Я прашу цябе, Сонца, я малю, пакуль не ахінуў, не сцёр цябе з неба туман, выслухай мяне, памажы. Я сцякаю пяшчотаю, я больш не магу жыць, я прагну любові. Я хачу, дай сілы мне, у рэшце рэшт, пераадолець гэтую немую ліхаманку, гэтае нетаймоўнае трымценне душы і цела. Я хачу быць каханаю, я кахаю і хачу быць каханаю. Сёння, Сонца! Прашу цябе, наталі маю смагу, наталі!

Любчык бачыў, чуў… Ён выйшаў з-за дрэваў, калі яна толькі пачала распранацца, і стаіўся, замёр. Вочы сталі бы шкляныя. Не заплюшчыць. Не адвесці. Усярэдзіне ўсё запульсавала, затрымцела, сцялася. Мляўкі туман. Не варухнуцца. Нарэшце ён пракаўтнуў, правёў рукою па пульсуючых, напружаных, гарачых скронях, паспрабаваў прыгладзіць вусы, заблытаўся ў сваёй густой, кучаравай чупрыне. Любава, гэта яна, Любава, плыве, адплывае на той бераг. Павярнулася б хоць на імгненне, патанула ў бяздонні закаханых вачэй…

Ён ішоў на рэчку, каб змыць пот, ды што там, хоць бы апрытомнець пасля гарачага, пыльнага сенакосу. Пасля смерці бацькі сенакос, як і ўся гаспадарка, толькі на ім, старэйшым. Ён ішоў ні пра што не думаючы. А тут, на табе, яна, Любава! Ва ўсёй сваёй непераадольнай чароўнай вабнасці. Сёння ён яе, здаецца, ужо бачыў краем вока, калі яна прыносіла свайму бацьку абед на поплаў. Аддала спарышы і не прысела нават, пайшла, бы растала ў лесе. Яна заўжды так: і з'яўляецца, і сыходзіць ціха-ціхенька, незаўважна, бы сплывае, адлятае, як аблачынка… Была малая, дурэлі, разам у пяску корпаліся, за косы ён яе цягаў, а яна яго за чупрыну, баранчыкам яго дражніла. Схаваецца за плот і язык паказвае: «Любчык- баранчык! Бэ-э!». Хлопцы ўвесь час яго падбівалі: «Ды дай ты ёй хоць раз як след, каб адчапілася!». А ён, хоць яму і крыўдна было за тое яе «бэ-э-э!», толькі рукою махаў: ну дражніцца, дык дражніцца. Што яму да таго. Ён ведаў, што ў ягады ды грыбы з Любавай цікавей, чым з кім, было хадзіць. Яна ўсе зёлкі, усе кветкі ведала, галасы птушыныя пераймала. Дзе які грыб, дзе якая ягада, бы на нюх, адчувала. Яны раней за ўсіх падымаліся і ўсе месцы грыбныя абыходзілі. Здаралася, што яшчэ да абеду па два кашы баравікоў рэзалі. Ажно разгубліваліся: а як жа дацягнуць кашы тыя? Налаўчыліся. Спачатку адзін кош удваіх падцягнуць, потым — другі, за ім — трэці, чацвёрты, так, па чарзе перастаўляючы, і да вёскі дабіраліся. І ўсё ім у радасць, весела неяк, проста было. А цяпер, як на дзеўку яна брацца стала, што з ім робіцца, сам не ведае… Не тое што падысці, пагаварыць, зірнуць не асмельваецца. Змянілася яна, пахарашэла. Толькі ў яе ўсё тыя ж агеньчыкі гарэзныя, зялёныя скачуць. Хмельна яму ад тых агеньчыкаў і ад усмешкі яе таксама хмельна робіцца…

Не зводзячы з яе вачэй — яна плыла, і лёгкія, лебядзіныя ўсплёскі яе гнуткіх рук-крылаў быццам клікалі яго за сабою, Любчык скінуў, паклаў сваё адзенне побач з Любавіным, пацалаваў свой нацельны крыжык і вырваўся з павуціння вечаровых ценяў-блікаў, узляцеў, плёхнуўся ў ваду. Аддаўся цёплым, лагодным хвалям.

Любава нічога не пачула. Яна ўжо амаль даплыла, але выходзіць не спяшалася, адганяючы слізкія водарасці, паспрабавала выбраць сабе лілеі. Тут яны былі найбуйнейшыя. А вось гэтыя гарлачыкі, яшчэ нядаўна яркія, ужо адцвілі. Любчык дагнаў яе, калі яна яшчэ была ў вадзе, зачапіўся за сцябло, даў нырца і, не зважаючы на Любавін віск, на руках вынес яе на бераг.

Любава крутнула галавою, і закручаная каронай каса вільготнаю змейкай каўзанулася ледзь не да зямлі. Любчык пахіснуўся, але не, утрымаўся, асцярожна дапамог стаць Любаве на траву, ужо амаль сухую. Сам сеў побач.

Дзіўна, Любава, здаецца, толькі цяпер заўважыла, што яна зусім без нічога, голая, а побач Любчык. Яна зарužавела, паспрабавала лілеямі захінуцца. Толькі ценем, хіба сваім ценем кветкі ахоўвалі яе юнае цела. Адзенне на тым беразе. Дык хай бы там, на тым беразе, разам з ім засталіся і сорам, і гэтая іхняя заўсёдная, непераадольная насцярожанасць, як бы нават нацятасць… Вось жа яшчэ нічога адно аднаму не сказалі, толькі ўсміхнуліся, а яны ўжо разам, нарэшце разам. Вечнасцю падалося гэтае адно-адзінае імгненне. Вуснамі кранула свае жамчужныя лілеі, хацела пакласці іх на траву… Ды засмяялася няроўна, звонка. Свайго смеху ён, Любчык, не чуў, вушы заклала. Кроў пульсавала ў скронях і закладала вушы. Толькі па ўсім целе нейкая дзікунская сутарга, і глуха стукнула сэрца. Цяпер гаварылі, спрачаліся, сплеценыя ў жывую рухомую плынь целы. Вада сцякала. Цяпло вільгаці. І трава, кветкі. Ды што там, нават поплаў, бераг, рэчка, уся зямля ўгінаецца, плыве пад лёгкім цяжарам іхняй бяздоннасці. Яны ўздымаюцца да нябёсаў і зноў падаюць у бездань. Арэлі, чароўныя, зямныя арэлі вечнасці. Яшчэ, яшчэ… Уплеценыя ў мурог краскі-бліскаўкі шэпчуць нешта, казычуць у самае вуха. Аер хмеліць, ён такі вільготны, мяккі і хмеліць да самазабыцця. Вось зараз, чуеце, зараз цвыркуны-конікі зацінькаюць, як людзі… Не, гэта яны зараз ператворацца ў цвыркуноў, у казюрак і заблытаюцца, растануць у гэтым мурагу, у гэтай пяшчотнай, мяккай, шаўковай траве… Любава адвярнулася, пацягнулася і ўжо адныіі вуснамі прыпала да рассыпаных па траве росных, усё яшчэ поўных вільгаці ганарлівак-лілеяў. Не, яна ўсё ж вып'е, сцалуе гэтую расу. Так піць хочацца… Любчык пацягнуўся ўслед за ёю і зноў натрапіў на вусны — пругкія, вільготныя, нястомныя…

— У мяне сёння будзе не вянок, а карона. Я спляту яе з гэтых лілеяў.

Яе бессаромныя, яшчэ вільготныя зеленаватыя вочы поўніліся пяшчотай і шчасцем. Так, яна была шчаслівая. Любчык заплюшчыўся, адкінуўся на траву. Мяккая дрымота расцякалася па стамлёнай, знясіленай зямлі…

— І яшчэ мы сёння з табою сходзім на Зялёную гару. Адна я баюся, а з табою, з табою мне нішто не страшна. З табою мне цяпер нішто не страшна, — сказала, шапнула Любава.

А ён, ён спужаўся, перажагнаўся:

— На… Перунову гару? Ды ты што? Кажуць, яна заклятая.

А Любава дапляла сваю карону і ўстала:

— А мой бацька ходзіць туды. І бабуля хадзіла. Раней усе з нашае вёскі туды хадзілі.

— Пачакай, — збянтэжыўся Любчык. — Давай хоць не сёння… Сёння ж якраз Купалле. Кажуць, што злыдні ўсе сёння вылазяць… І Святар у царкве казаў, што нячыста сёння…

— Нічога, — усміхнулася Любава і рашуча пайшла да Перуновай гары. — Вернемся — разам з усімі ў рэчцы адмыемся.

Перасільваючы сябе, з неахвотаю, Любчык крануўся ўслед. Сонца ўжо схавалася за Перуновай гарой, тут, на поплаве, не відаць было ўжо яго. Але яны падымаліся вышэй і вышэй, і там, унізе, усё патанала ў ружовым тумане. Ён хацеў не адстаць, а Любава вавёркаю слізгала між дрэваў, між хвоек, не пераводзячы дых. Колкаяігліца ападала на плечы, уядалася ў ногі. А шышкі, колькі тут было шышак! А яна ўсё ўверх і вышэй, вышэй, туды, дзе яшчэ відаць сонца. На хаду адламала папараці сабе і яму — адганяць камарэчу, і зноў знікла, трэба зноў яе даганяць. Толькі выйшлі з ляснога сырога паўзмроку, туды, дзе яшчэ цяплела сонца, як нечакана Любава зноў штурханула за елку. На асветленым апошнім, не сляпучым, мякка-ружовым, нават не святлом ужо, а толькі ягонымі хвалямі, плынню ўзлеску, там, куды яны толькі што, запыханыя, ледзь не выбеглі, хтосьці быў.

І гэты хтосьці — мужчына, якога Любчык яшчэ не разгледзеў, яшчэ не пазнаў, маліўся, гучна маліўся, укленчыўшы, самому Перуну.

— Пярун усёмагутны, бог наш святы! Ты апякуеш мяне з самага маленства. Маці мая табе біла паклоны, і я табе да смерці маліцца буду. Памажы мне…

Любава гэты мяккі, глухі, хрыплаваты голас пазнала б з усіх. Любчык прыгледзеўся. Моцная, крыху ссутуленая спіна, сівыя валасы, чорная барада.

— Гэта мой бацька, — шапнула Любава і збянтэжылася.

Падумаць страшна, што б было, каб яны вось зараз, так, голыя, са смехам, як беглі, так і выскачылі б перад ім.

— Каваль? — усё яшчэ не верачы, перапытаў Любчык.

І Любава адчула, што сорамна ёй не столькі за сябе і Любчыка, голых, колькі за свайго бацьку. Хоць і апранууты ён, у сарочцы ж, у штанах і з… крыжыкам, а… Здаецца, усё ўсярэдзіне сціскаецца, бо падгледзелі, пачулі яны нешта вельмі саромнае, што няможна было, не трэба было ім чуць.

Бацька згінаўся да самае зямлі, потым уздымаўся і гаварыў, гаварыў:

— Пярун усёмагутны, уладар наш вечны, дапамажы мне, дапамажы мне заўтра выкаваць тое, што замовіў мне сам наш Князь… Кайданы для Волата, якога ён паланіў. Маці казала мне, наказвала, што ніколі і ні для каго не павінен я кавацьзброю. Але ж кайданы — не зброя. Я пастаўлю на іх твой, Перуноў, знак, тваю маланку пастаўлю. А ты ўжо памажы выкаваць такія кайданы, каб ніхто, нават Волат, не змог іх разарваць. Сёння мы ўсе будзем святкаваць Купалу. Будзем слáвіць Лёлю і цябе, усёмагутны. Ты наш галоўны абаронца. На вогнішчах спалім нячыстае, усё брыдкае. І будзем спяваць, будзем гуляць і любіцца. І я, чуеш, і я ахвярую табе сёння любоў, насалоду сваю. Я ахвярую табе ўсяго сябе. Толькі памажы, чуеш, памажы!

Забыццё. Утрапенне… Бацька схіліўся і застыў. За ўсхліпамі было не разабраць слоў. Любчык перахрысціўся. Любава, не падымаючы на яго вачэй, толькі закусіла губу.

Нарэшце Каваль прыўзняўся, устаў з каленяў і, не азіраючыся, пайшоў, пакрочыў з гары.

Любава з Любчыкам дачакаліся, пакуль ён схаваўся ў ельніку, вызірнулі, агледзеліся, падышлі бліжэй. З-за елак ім было не відаць, а цяпер… Вось ён, той, каму Каваль біў паклоны. Пярун, былы іхні ідал. Але ж гэты свежы, жоўценькі, быццам яго зусім нядаўна выразалі. Смалою пахне. Жывіцаю. Вочы-цвікі, чорныя, стылыя, яшчэ не заржавелі. Ружовы, сонечны вечаровы туман утвараў над ім лёгкі прамяністы німб.

— Чуў я, — усё яшчэ шэптам загаварыў Любчык, — што тут, на гэтай гары, і даўней быў Пярун. Але ж яго, здаецца, разам з іншымі пусцілі па рацэ. А гэты як навенькі.

У ружовым з сонечным водсветам тумане дрэва набывала адценне жывой чалавечай плоці. Хто ж гэта наноў выразаў Перуна? Ім з Любчыкам ён быў усяго да пояса. Любава міжволі правяла далонёй па божай галоўцы. І на дотык адчула: уверсе драўляныя валасы як бы раздвойваюцца, а на макаўцы, на цемечку — жывая ямінка з дзірачкай... Ззаду валасы акуратна закругляліся, загіналіся і крыху адставалі ад шыі, якой увогуле і не было, яна злівалася з Перуновымі плячыма, усім ягоным роўным, акруглым целам. Які ён гладзенькі, цёплы, поўны дзівоснае зямное сілы...

— Глядзі, Любчык, — сказала Любава. — Глядзі, ён нічога табе не нагадвае?

Яна зірнула на яго так, што Любчык засаромеўся.

— Разумееш, пра што я кажу? — Любава апусціла вочы.

— Не грашы... — шэптам вымавіў Любчык.

Ну як яна можа, як не баіцца вось так казаць пра хай сабе і адвергнутага ўжо, але ж бога! Але цяпер, цяпер і ён, як і Любава, пэўна ж, не зможа пазбыцца гэтага прывіду...

Ідал сапраўды нагадваў жывую мужчынскую плоць...

Назад яны не беглі, а ішлі. І Любчык, сам сябе ратуючы, бо ўсё глыбей і глыбей засмоктвала яго багна ўжо не лёгкага, а нейкага важкага, гнятлівага пачуцця, не падымаючы вачэй, раптам загаварыў пра тое, пра што не варта было, пра што і не наважваўся ніколі раней:

— А ты, Любава, пэўна, і праўда, як усе нашыя хлопцы кажуць, крыху чараўніца. Яны кажуць, што ты не такая, як усе, што цябе баяцца трэба. А я вось... Ты сёння звабіла мяне. Зачаравала... І бабка ж твая Траўніца-чараўніца. І бацька вось да Перуна ходзіць, і ты...

— Але ж раней, зусім жа нядаўна і твае бацькі, і дзяды нашыя, усе людзі раней Перуну маліліся. А бабуля мая, яна ж усіх, цябе таксама лячыла. Памятаеш, як гадзюка цябе ўджаліла? Ты ж да яе пайшоў. Кажаш, баяцца мяне ўсе... Кажаш, зачаравала. Мулка табе са мною? — І яна, як крылом, узмахнула рукою. Страпянуліся, зазвінелі бранзалеты. — Не трымаю я цябе. Бяжы, уцякай. Усім, усім раскажы, якая я. Каб яшчэ болей баяліся. Што ж стаіш? Уцякай!

— Не, — Любчык ухапіў яе за руку. — Даруй. Я сам не ведаю, што кажу. Лепш пайшлі хутчэй, пайшлі адсюль. Сонца садзіцца. Туман. Камары заядуць.

— Села. Закацілася маё сонца, — неяк бязвольна, зусім ціха вымавіла Любава...

Раптам ім стала знобка, да дрыжыкаў. Адсюль, з гары, было відаць, што за рэчкаю, на тым беразе, ужо запалілі вогнішчы. Купалле...

Яны пабеглі, каб хоць крыху сагрэцца. Па колкай ігліцы, скрозь ельнік, скрозь хвойнік, туды, да поплаву, да рэчкі. Удзень вада была жаданаю прахалодай, а цяпер сагрэла, як цёплы, парны сырадой. Вогненныя іскрынкі калыхаліся ў



Фота www.yesbelarus.com

небе побач з зоркамі. Месяц на імгненне вылузнуўся, выслізнуў з туману, правёў па вадзе пасак. Бяскроўны, бледны, не тое, што жывыя, гаманкія вогнішчы...

Плылі, плылі, а потым Любава зняла, пусціла ў змрок, у туман па месячным следзе свой вянок, сваю лілейную карону. І перавярнулася, легла на спіну, аддалася вадзе. Любчык таксама перастаў грэбці. Туман апаў. І там, у вышыні побач з месяцам, зайгралі буйныя, ясныя зоркі. Яны былі так блізка! Здавалася, працягні руку, і яны твае. Ніякага кошыка не хопіць, каб пазбіраць іх усе. Ды і ці збіраў іх калі хто. Яны самі выбіраюць, каму паказацца, перад кім упасці, каму прынесці ўдачу, а каму бяду, смерць... І зоркі, як людзі, таксама любяць купацца ў гэтай цёплай, як сырадой, вадзе. Гайдаюцца на хвалях, самі сабою любуюцца... Кветкі, гарлачыкі і нават лілеі, як толькі не стала сонца, адразу заплюшчыліся, сцялі свае пялёсткі... А зоркі вось плывуць, цешацца... Ноч — гэта іхняя пара. І месяц плавае між іх, усміхаецца.

Любчык вобмацкам адшукаў Любавіну руку. Што б там ні было, а цяпер яны разам. Сёння яны ўпершыню спазналі, што такое быць разам, яны спазналі бязважкасць, глыбіню, яны спазналі бяздонне... Ля берага іх ніхто не заўважыў. Там было шмат такіх, як яны, закаханых.

Хлопцы, дзяўчаты, якіх без адзення не пазнаць, скакалі, пырскалі адно на аднаго вадою. Вянкі саслізгвалі з дзявочых галовак, плылі, плылі ўслед за тымі, якія дзяўчаты пускалі наўмысна, каб пагадаць, паваражыць, хто ж з іх першаю выйдзе замуж. Вяночкі адплывалі. Хвалі, мяккая плынь неслі іх уперад, туды, дзе растала ў змроку і Любавіна лілейная карона. Тут, пры беразе, зоркі не плылі, не спачывалі, а танчылі, скакалі, карагодзілі разам з усімі. І зноў падскоквалі, ці выпадкова, ці наўмысна наколваліся на вострыя месячныя ражкі і плакалі, стагналі ад насалоды...

Любава з Любчыкам, крыху прыстояўшы, разам, трымаючыся за рукі, выйшлі з вады. Ніхто не звяртаў на іх увагі. Адзенне ляжала там, дзе паклалі. Яны моўчкі, перамагаючы дрыжыкі, ажно зубы пачыналі стукаць, апрануліся і пайшлі грэцца да вогнішча. Тут, на беразе, было халадней, чым у вадзе... Працягнулі рукі да агню і толькі тады заўважылі, што ля вогнішча побач з імі нікога няма. Можна было падумаць, што нехта спецыяльна расклаў гэты агонь для іх дваіх. Над вогнішчам на жэрдцы было замацавана старое кола — знак сонца. Кола не вытрымала, упала, і вогненныя языкі пераўтварылі яго ў сапраўднае сонца...

Сёння, на Купалле, і сонца, і зямля ў самай сіле, у самым росквіце... Не дарма ж менавіта ў гэтую пару усе траўніцы, і Любавіна бабуля таксама, назапашваюць зёлкі. Заўтра, і паслязаўтра, і потым, амаль да самых Калядаў, дзень пачне меншаць, а ноч будзе адкусваць, глытаць, з'ядаць святло.

Зёлкі сёння ў сіле, але ж і нячысцікі на Купалле баль правяць. Што хочаш могуць утварыць. Як на арэлях, як на шалях сёння дабро вялікае і шкода немалая. Лепш, калі шалі ўраўнаважацца. Калі ўсё як ёсць будзе. Бо пасля вялікай радасці чакай бяды. Але ж і бяда — шлях да вялікае радасці...

— Калі я быў малы, — раптам успомніў Любчык, — не спалася мне нешта на Купалле. У акно вылез аднойчы — і на рэчку. А там хлопцы, вунь з таго ўзгорка якраз вогненныя колы пускалі. Колаў многа, і ўсе коцяцца, адно за адным, адно за адным. А я малы ж быў. Спужаўся, падумаў, што гэта сонца з неба ўпала і рассыпалася. Прыбег дамоў, маму збудзіў, плачу: сонца няма, дзень больш ніколі не вернецца. Ведаеш, што мне мама тады сказала? «Ты не бойся, зараз хлопцы ўсе маленькія сонейкі збяруць і зноў у адно вялікае іх злепяць, а раніцай на дах залезуць і да неба цвікамі прыб'юць». Я заснуў тады. А зранку ўсё хадзіў і прыглядаўся, у каго рукі апечаныя. Разумеў жа, што сонца гарачае і той, хто яго да неба прыбіваў, апячэцца мог.

Любава слухала і не асабліва ўдумвалася ў тое, што гаварыў Любчык. Ёй было соладка слухаць ягоны глыбокі, сцішаны голас, проста слухаць і глядзець, як імкліва ўспыхваюць у ягоных вачах вогненныя блікі...

— Кажуць, што калі сёння знойдзеш у лесе кветку папараці, — яшчэ больш сцішыўшы голас, прамовіў Любчык, — яна якраз да поўначы мусіць раскрыцца, дык вось, калі сёння ў лесе знойдзеш тую кветку і сарвеш яе, дык усіх звяроў, птушак разумець зможаш. І жыць будзеш вечна.

— А нашто жыць вечна? — задумліва спытала Любава. — Сумна. Усе паўміраюць, а ты жыві. Вось сам уяві, каб я састарэла, памерла, а ты жыць застаўся. Ты б без мяне якую іншую пакахаў, любіўся б з ёю, потым жаніўся. Дзеці б у вас нарадзіліся. Без мяне.

— Ну жыць, як жыць, а звяроў ці там птушак я б хацеў разумець. Пра што яны там між сабою гамоняць. Уяўляеш, ідзеш сабе па лесе, а пугач табе з дрэва: «Дзень добры!».

— «Вечар добры!», а не «дзень добры!», — папраўліла Любава, — удзень жа пугач спіць.

— А потым: «Як здароўе?» — пытаецца. А я яму: «Дзякуй, добра. А ці не бачыш ты, даражэнькі, дзе паблізу грыбоў ці там ягад?»

— Ну насмяшыў! Ты ўночы па грыбы пойдзеш? А мой бацька па бабулінай вучобе без усякай папараці і звяроў, і птушак, і нават дрэвы разумець можа. Яны ўсе, і нават кветкі, падказваюць яму і калі дождж будзе, і калі сухмень. Ён і да завеі ўзімку заўсёды загадзя рыхтуецца. Спытаюся ў яго: «А хто табе сказаў, што завея будзе?», а ён: «Жучка набрахала»...

Яны загаварыліся і не пачулі, не заўважылі, што ў іх за спінаю сталіся, стаяць і слухаць іх два незнаёмыя хлопцы. Адзін кучаравы, з тоўстымі натапыранымі вуснамі і нізкім пукатым ілбом. А другі — рыжавусы, вастраносы, вяртлявы. Баран і Ліс. Хутка ў вёсцы ўсе дазнаюцца, што іх так завуць. І ніхто нават не здагадаецца, што яшчэ нядаўна яны былі звярамі, жывёламі, што яшчэ нядаўна яны не ўмелі не толькі гаварыць, але і хадзіць на задніх лапах...

Дзяўчаты падбеглі, як былі, голыя, пацягнулі Любаву дараблядь саламяную ляльку, якую хацелі пад раніцу спаліць ці пусціць па вадзе. А Любчык разам з хлопцамі пайшоў скакаць цераз вогнішча. Яны наўмысна выбралі самае вялікае, каб выпрабаваць свае сілы, каб ачысціцца. Нехта падштурхнуў да агню і Барана з Лісам, але тыя толькі незадаволена зафыркалі і адскочылі ўбок, схаваліся, расталі ў гушчары.

Пад раніцу, калі пачынала ўжо віднець, калі наскакаліся ўдосталь і па рацэ ўслед за дзявочымі вянкамі паплыла саламяная лялька, калі пачыналі ўжо разыходзіцца, Любава з Любчыкам вярнуліся да свайго вогнішча — цяпер ужо да маўклівай шэрай гурбачкі попелу. Можа, агонь і праўда перадаў сваю моц сонцу? Ужо ружавее. Знобка. Трывожна і знобка. І целу, і душы трывожна і знобка. Пагрэцца б. Але ж сонца яшчэ толькі падымаецца з-за лесу. А зноў збіраць ламачча, раскладаць агонь няма ні ахвоты, ні сілы. Проста тут лёг бы ды заснуў, але дамоў трэба. За касу — і на поплаў. Касі каса — пакуль раса, раса далоў — касец дамоў.

І раптам... Любава з Любчыкам ад нечаканасці ажно здрыгануліся. Раптам з ельніку, з кустоў з рогатам, з усхліпамі выкаціўся аднарукі бажавільны Саўка. Як заўсёды, у кажуху, аблавушцы. Яны злякнуліся, адскочылі. А ён ціха-ціхенька падышоў, прысеў ля былога вогнішча і, прыкладўшы да вуснаў палец, маўляў, «ціха», пачаў... Ды так ясна, без усхліпаў, па-людску:

— А я, ведайце, знайшоў яе, папараць-кветку. Летась. Я не басаножь, я ў лапціках быў... Яна такая маленькая, ружовенькая. І красуе, цвіце ўсяго адну хвіліначку... Я і не прыкмеціў яе, і не рваў. Яна сама да мяне прыхінулася. Іду па лесе, цёмна, хоць вока выкалі. І раптам чую: сава на дрэве вухкае, а я... я разумею, пра што яна вухкае! «Ой, надакучыла ж мне на гольцы сядзець! Палётаю трохі, а то крылы замлелі». А далей — болей... Мроіцца мне пачало... Рознае... Мроіцца, што праз гады, тут, на гэтым самым месцы, дамы вырастуць. Ды такія высокія, вышэй за гэтыя хвоі. І з каменю, усе дамы не з дрэва, а з каменю... А людзей у тых дамах... як мурашак. І па небе людзі лётаюць, і пад зямлёю людзі поўзаюць... Ажно млосна мне стала ад тых відаў. Сеў я пад яліну, вось пад гэтую самую яліну сеў, думаю, дай пераабуюся. Як бы муляе нешта. Ну і вытрусіў тую кветачку. Кволенькую, ружовенькую. Яшчэ падумаў, во макрыца нейкая трапіла і муляе. А як толькі вытрусіў я тую макрыцу, папараць-кветку значыць, то і мроіва, віды тыя зніклі. І звяроў-птушак разумець я перастаў. Сава вярнулася, вухкае ў мяне над галавою, як бы просіць чаго, а я ўжо яе не разумею. Тут толькі дайшло да мяне, што не макрыцу, не травінку, папараць-кветку вытрусіў! Кінуўся шукаць. А яна ўжо знікла. Віднець пачало, ну яна і знікла.

Сеў Саўка да астылага вогнішча, уздыхнуў. Важка. Горка. Попел, цёплы яшчэ, у рукі ўзяў, перасыпае і ўсё ўздыхае, уздыхае. А потым як заплача. З адчаем.

— Гэта Зюзя. Зюзя! Усё ён. І кветачку тую ён у мяне ўкраў. І агонь ён ваш агонь патушыў. Як убярэцца ў сілу, то і сонца затушыць. Вось пабачыце, убярэцца ў сілу — сонца затушыць. Сёння любяцца ўсе. Толькі мяне, толькі Саўку беднага ніхто не любіць. Ніхто!

Любава не вытрымала, падсела, пагладзіла Саўку па галаве. А Любчык толькі перахрысціўся. Дамоў, трэба было хутчэй вяртацца дамоў!

Услед за імі, сонныя, пасунуліся і Баран з Лісам. Абжывацца на новым месцы. Людзьмі. Сярод людзей.

Сонца ўстала. А Саўка ўсё сядзеў і перасыпаў мёртвы шэры попел. Са жменькі ў жменьку. Са жменькі ў жменьку. Развейваў па свеце горкае сваё шчасце...

# Мост у неба



Катарына ЛАЎМЕЛЬ

Катарына Лаўмель — мастацкі псеўданім Катажыны Назарук — польскай паэтэсы, культурнай аніматаркі і філолага. Аўтарка зборнікаў вершаў: «Жонка Бедуіна» (2011), «Шэпт і космас» (2014), «Антураж» (2019). Удзельніца шматлікіх сустрэч творцаў, літаратурных польскіх і міжнародных фэстаў. Сяброўка Гданьскага клуба паэтаў і літаратурнай групы «Na Krechę». Жыве ў Партугаліі.

## На скалах Алгарве

*мы дыхаем — глыбока*
*дзікасць ветру гэта крылы*
*і мары ўжо не проста хваля*
*я дазваляю акіяну і табе несці сябе*
*без карты без компаса*
*і ніякага кампрамісу буя*

*мы больш не лічым*
*ліхтарыкаў у небе —*
*нават для загубленых чаек*
*ноч не чужая*
*мы плывем з трыумфам*
*развітага ветразя*
*запіхнутыя ў ранішні туман*

*за скаламі думкі круцяць віры*
*зашмат вуглякіслага газу —*
*эколагі паўтораць за намі*
*(без літасці)*
*што гэты агонь як пажар*
*шалёна іскрыцца*
*ў нашых сэрцах*

***І нашто...*** *гэтыя ад'езды*
*для пошукаў прасторы*
*і лабірынты першапачатковай*
*велічыні космасу*
*цішыня, якая — калі нараджаецца —*
*гудзе*
*дэцыбелы бярэ сабе на службу*

*і пустыя хвіліны*
*змаўляюцца ў маёй галаве*
*супраць палёгкам*
*і бестурботнасцям*
*дэ-факта — ты задумшчык*
*супраць сябе*
*верыш што яны не твае*
*а проста з тэлебачання*
*а хапіла б толькі*
*павярнуць назад*
*зазірнуць гэтым страхапудам*
*у зрэнкі*
*памятаць што кожны канец*
*гэта пакамечаны пачатак*

*ты жывеш у пачуцці*
*што Бермудскі трохкутнік*
*выпусціў са жмені*
*вераб'я і лебедзя — тваіх херувімаў*

## Партугальскія мульгерэс*

*маюць асалоду*
*ад сонца ў кавярнях Алгарве*
*і ў варшаўскіх Лазенках сівавалосая*
*корміць галубоў*
*спакойная і далікатная*
*для рытуальных птушыных раніц*
*прабегла паўмарафон*
*больш не адчувае выбуху гневу*
*не дагледжвае шнараў*
*з кожным годам усё цяжэй*
*прыліпае да зямлі*
*усмешка з якой цалуе матылёў*
*павінна быць часткай календара —*
*не прытвараецца —*
*прыгажэ з кожнай маршчынай*
*памятае што найцяжэй дараваць*

* Па-партугальску — жанчыны.

## На выбарчым плакаце

*пустая размова лопае*
*як мыльная бурбалка*
*хай яе напоўняць словы —*
*апількі*
*маляўнічая мякаць ад Фабрыкі Сноў*
*перапынак пакаяння скончыўся*
*і разлічванне на лягчэйшыя дні*
*няхай словы не гучаць нема*
*туга штурхае верш да немаўчання*
*бо добрае слова перад сном*
*спакушае*
*як плюшавая падушка*

*у людзей з плакатаў*
*ад пастаянных усмешак*
*апускаюцца шчокі*
*павекі*
*вусны*

## Хвіліны-сутнасці

*у нашым Асгардзе пакой*
*пахне зялёнай гарбатай і табой*
*думкі паддаюцца аўры*
*моманту быцця*
*эфемерда некалькі гадзін*
*зачаравана ў кадрах фатаграфій*

*кожны раз калі ты*
*як дождж і свежасць акіяна*
*распускаеш мае эмоцыі*
*дасягаючы да ядра*
*стукаеш да колішняй Афрадыты*
*каб пазычыць солі жарсці*
*альбо зачароўваеш яе*
*ў боль чарговай тугі*

*расчэсваю валасы*
*упарадкоўваю свае пачуцці*
*краплю цела*
*задыхаючы-павабным*
*водарам Белай Жамчужыны*

*ты здымаеш яго*
*вельмі хутка як стрынгі*
*часам з грубым рэверсам усмешкі*
*я паглынаю цябе*
*і мігценне моманту*
*найбольш прагная*
*вінных вечароў і раніц*
*кранаю вуснамі спіну*
*і сцёгны як Гея камякі зямлі*
*разгортваю чарговыя пласты*
*ў пошуках скарбаў*
*цалуючы ў тое*
*што за небасхілам*

*Фрыг з усмешкай тчэ хмары*

## Жонка Бедуіна

*Згорбленая*
*Сумная*
*Сухая*
*Жонка Бедуіна*
*без слова падае ваду*
*для абмыцця ног*

*Для яе*
*апошні кавалачак бараніны*
*глыток вады з бруднай біклагі*
*Без права адмовіцца*
*без волі да жыцця*
*без волі на адмаўленне*
*што яна шчаслівая*

*Колькі разоў*
*ты бываеш жонкай*
*і колькі разоў*
*ты жонка Бедуіна?*

## Акушэрка

*Яе скрываўленыя рукі*
*прымаюць жыццё*
*ад прыязнай*
*дзевяць месяцаў маткі*
*яна першая кранае дзіця вачыма*
*пераразае пупавіну залежнасці*
*і захоплівае яго*



Фота www.ruchron.com

*ў свет двухногіх істот*
*якіх называюць людзьмі*
*вяртае да маці*
*прагнай пачуццяў*
*плён выспеўшы ў ёй*
*на працягу некалькіх месяцаў*
*малюсенькі вузельчык*
*загорнуты ў тэтру*
*Кахання*
*альбо праблем*
*па крыку дзіцяці*
*распазнае яго алфавіт*
*эмоцый*
*вопытная акушэрка*
*шпітальная сувязная з прыродай*
*штодзённа сілкуецца ўсмешкай*
*з радасцю маладых мам*

## Мост у неба

*Ёсць месцы*
*да якіх ты ідзеш толькі адзін*
*без запісу аб нараджэнні*
*без страхавой кніжкі*
*крэдытных картаў*
*пасярэдніцтва святара.*
*У закавулках сумлення*
*улік поспехаў і страт.*
*І тады я сартую эмоцыі.*
*Я буду каталагізаваць*
*ворагаў маіх дзяцей*
*даючы ім пароль: небяспечныя.*
*Падмацуюся апошняй*
*стравай думак*
*што не растаптала па дарозе*
*ні адной божай кароўкі*
*нікога не заразіла*
*вірусам подласці.*
*Гэтай спражкай сашпілю*
*сваё зямное жыццё.*

*Я пачну вязаць свой мост*
*да нябёсаў*
*ніткамі забытых падзей*

## Дрэсіраваныя думкі

*паўсталі*
*дрэсіраваныя на працягу*
*многіх гадоў*
*размешчаны раўнамерна*
*на галаве*
*як форма салдата*
*твае ратвейлеры*
*чорныя пажыральнікі аптымізму*
*што просяць на дзвюх нагах*
*яшчэ*
*не ведаючы, што такое гонар*

*існавалі каб кусаць раўці*
*нюхаць сляды радасці*
*і кусаць яе за лыткі*
*пераадольваючы*
*бар'еры цярпення*
*не ведаючы*
*што гэта такое —*
*асалода і спакой*

*сёння адмовіліся ад ежы*
*захварэлі ад перанасычанасці*
*нездаровым харчаваннем*

*сышлі*
*на працяглы шпацыр з сумам*
*і песімізмам*

*маліцеся...*
*каб зніклі бясследна*

## Паведамленне самому сабе

*Цяпер настаў час*
*запісу электроннай пошты*
*сваім думкам.*
*Лаканічныя выказванні*
*націсне дагледжаная рука*
*нячулымі літарамі алфавіту.*
*Штучныя ўтварэнні*
*з трыццаці трох літар*
*усё больш і больш таямнічыя*
*і чужыя сучасным,*
*як Міцкевіч.*

*Пошта-гутарка*
*з адлюстраваннем,*
*пошта-лісты,*
*атрыманыя ў спешцы,*
*пошта-пачуцці —*
*аголеныя з сакрэтаў паперы,*
*музыкі разарваных канвертаў,*
*тонкасці часу на чытанне*
*ў цішыні,*
*з самім сабой у самоце.*

*Разбураныя жорсткасцю*
*пастуквання пальцамі*
*па клавіятуры*
*бесцырымоннасці.*
*Аголеныя ад самарэфлексіі,*
*хуткія непаслядоўныя тэмы,*
*як прыгожая дзяўчына*
*ў квяцістай сукенцы*
*і мары пра каханне,*
*могуць выклікаць*
*невылечны неўроз.*

*У гуку істэрыі разрываных*
*думак*
*кінутыя ў скрынку,*
*як выкарыстаныя інструменты*
*і падвергнутыя ўтылізацыі,*
*матэрыялізуюцца,*
*як попел у труне,*
*стануць шэрымі ў падсвядомасці.*
*Непатрэбнымі.*

*Калі адабралі ў іх душу*
*і сэнс існавання*
*ўсур'ёз.*

**З польскай мовы пераклала Міра ЛУКША**

# «Літоўскія крэчаты» на полі Куліковым: Андрэй Полацкі і Дзмітрый Бранскі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
Мікола БАГАДЗЯЖ

**8 верасня 1380 года, адбылася праслаўленая Кулікоўская бітва, героямі якой сталі таксама князі з Вялікага Княства Літоўскага Андрэй і Дзмітрый Альгердавічы. Цяжка не пабачыць Боскай волі ў тым, што прыйшлі яны ў рускую гісторыю менавіта тады, калі іх чакалі. Смелыя, адчайныя, не ўтаймаваныя татарскім бізуном, не разбэшчаныя татарскім ярлыком. Менавіта яны былі патрэбны ў дапамогу князю Дзмітрыю Іванавічу, каб весці за сабой на татар рускія палкі.**

Князь Андрэй, самы старэйшы з Альгердавых сыноў, які пры нарадженні атрымаў язычніцкае імя Вігунт, з'явіўся на свет у 1325 годзе. Маці яго была праваслаўная князёўна Марыя Віцебская. І яна выхоўвала сына ў павазе да хрысціянства. Аднак акунуцца ў хрысцільную купель княжычу давялося толькі ў 1342 годзе. У той год разам са сваім бацькам Вігунт спыніў нашэсце крыжакоў на пскоўскія землі. Удзячныя пскавічы прапанавалі Вігунту застацца княжыць у Пскове. Альгерд дабраславіў на княжанне сына і дазволіў яму дзеля гэтага хрысціцца. Але Вігунт-Андрэй прасядзеў у Пскове нядоўга. Ён пакінуў свайго намесніка і выехаў на Беларусь дапамагаць бацьку і дзядзьку свайму Кейстуту ў іх барацьбе з крыжаносцамі. Пскавічы чакалі свайго князя доўгіх шэсць гадоў. У 1348 годзе намеснік Андрэя, Юрый Вітавіч, загінуў у бітве, і пскоўскае веча пастанавіла абвясціць Андрэю пра свой недавер.

«Табе было, князь, самому сядзець у Пскове на княжанні, а намеснікам Пскова не трымаць. Калі ж табе няўгодна сядзець у нас, у іншым месцы княжыш, то намеснікаў тваіх не хочам»…

Пасля Альгердавай смерці ў 1377 годзе Андрэй як старэйшы сын прэтэндаваў на вялікакняжскі сталец. Ваяры Вялікага Княства Літоўскага палюбілі Андрэя за яго адвагу і непахіснасць. Беларускія падданыя бачылі ў старэйшым сыне хрысталюбівай Марыі Віцебскай абаронцу праваслаўя і таму хацелі бачыць яго сваім гаспадаром. Але паводле Альгердавага тэстаменту ўлада мусіла дастацца малодшаму Андрэеваму брату, сыну другой Альгердавай жонкі Ульяны Ягайлу. Андрэй адмовіўся прысягаць новаму гасудару і пачаў самачынна называць сябе вялікім князем Літоўскім. Але сіл адстойваць свае правы зброяй у яго не было. Пазбавіўшыся па волі Ягайлы і Полацка, і іншых сваіх гарадоў, рушыў Андрэй са сваёй вернай дружынай ў Пскоў. З пакаяннем і клятвамі.

І прынялі яго пскавічы, якія ўвесь гэты час з вялікай цікавасцю назіралі за ратнымі подзвігамі Альгердавіча. І сям'я князя, якую прывёз ён з сабой у Пскоў, усім спадабалася. Набожная добрая княгіня, трое цудоўных княжат, Міхаіл, Сямён ды Іван… Адну толькі ўмову паставілі князю гараджане. Ён мусіў прасіць дазволу на пскоўскае княжанне ў вялікага князя Маскоўскага. Гэта было нялёгка. Бо ў мінулым некалькі разоў, пасланы бацькам сваім Альгердам, ваяваў Андрэй рускія гарады. Дапамагла выгнанцу знайсці паразуменне з Дзмітрыем Іванавічам сястра Алена Альгердаўна, якая была замужам за стрыечным братам вялікага князя Маскоўскага Уладзімірам Серпухоўскім. Андрэй атрымаў пскоўскае княжанне.

А ўжо ў наступным 1378 годзе ён разам з маскоўскімі рацямі прымаў удзел у бітве з татарамі на рацэ Вожы. Гэта была неглабальная, але пераможная бітва. Першая, выйграная рускімі князямі ў татар. У ёй рускае войска ўпершыню выкарыстала тактыку засадных палкоў, якую ўжо шырока прымяняла войска Вялікага Княства Літоўскага ў барацьбе з крыжаносцамі. Гэта дае права меркаваць, што стратэгію бітвы распрацаваў менавіта князь Андрэй.

Безумоўна, такая паслуга павінна была быць адзначана. І вось у 1379 годзе разам з маскоўскімі рацямі Андрэй Альгердавіч вяртаецца на землі Вялікага Княства Літоўскага і вяртае сабе Полацак. У часе пахода лёс зводзіць яго з родным братам Карыбутам-Дзмітрыем Альгердавічам, які атрымаў ад Ягайлы Трубчэўск, Старадуб і Бранск, што раней належалі Андрэю.

Варта было чакаць, што браты сыйдуцца ў смяротным паядынку. Але Дзмітрый хлебам-соллю сустрэў Андрэя. Аказваецца, ён таксама быў незадаволены панаваннем Ягайлы. І таму паспяшаўся прысягнуць як васал Дзмітрыю Маскоўскаму. Трубчэўск, Старадуб і Бранск перайшлі пад уладу Маскоўскага княства. А Дзмітрыю Альгердавічу быў дадзены ва ўдзел Пераяслаў-Залескі. І Андрэй, які пры дапамозе вялікага князя Маскоўскага зноў стаў князем полацкім і пскоўскім, не выказаў сваёй нязгоды. Тым больш, што ў Маскве ўжо ішла падрыхтоўка вялікай бойкі з татарамі…

8 верасня 1380 года на Кулікоўскім полі сышліся лепшыя сілы Русі і Залатой Арды. 100-тысячнаму войску хана Мамая супрацьстаяла 36-тысячная руская раць. Русь выставіла супраць Арды 24 цяжкаўзброенныя палкі і каля 12 тысяч конных віцязяў.


Двубой Перасвета з Чалубеем. Карціна М. Авілава

Згодна з рускай воінскай традыцыяй у цэнтры стаў вялікі полк, па баках ад яго — палкі правай і левай рукі. Андрэй Альгердавіч са сваім двухтысячным войскам палачан і пскавічоў узначаліў правы фланг. Першымі ардынцаў павінны былі сустрэць конны вартавы полк князя Дзмітрыя Друцкага і перадавы полк. За асноўнымі сіламі знаходзілася бранская конніца рэзервовага палка пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Альгердавіча. Але галоўная хітрасць, козыр Дзмітрыя Іванавіча быў прыхаваны за левым флангам вялікай раці, у Зялёнай Дуброве, паміж рачулкай Смолкай і Донам. Тут знаходзіўся засадны полк, які ўзначальвалі князь Уладзімір Серпухоўскі і яшчэ адзін збеглы з Літвы князь Дзмітрый Карыятавіч Баброк Валынскі.

Перад самай бітвай, не згаворваючыся, браты Альгердавічы прапанавалі вялікаму князю Маскоўскаму перайсці праз Дон і спаліць масты, каб у ратнікаў не было спакусы адступіць з поля боя. «Калі будзем тут, слабым будзе воінства, — растлумачыў сваю пазіцыю Андрэй Полацкі, — калі ж на іншы бок Дона пяройдзем, моцным і мужным будзе». І вялікі князь паслухаўся мудрай парады. Дзмітрый Маскоўскі перадаў свае княжскія даспехі аднаму з баяраў, узброіўся як просты воін і стаў у шэраг простых ратнікаў.

Паводле падання, спачатку сышліся ў двубоі віцязь-манах Свята-Троіцкай абіцелі Перасвет і татарскі батыр Чалубей. Яны абодва загінулі. Аднак Чалубей зваліўся з каня, а Перасвет утрымаўся.

Ну а далей, як і задумаў вялікі князь Дзмітрый, ардынцы вымушаны былі атакаваць у лоб рускія войскі. Удар аказаўся страшным. Пачаў «прагібацца» вялікі полк, полк левай рукі — адступаць. Распавядалі, што кроў лілася, як вада, на дзесяць вёрст, коні не маглі ступаць па трупах…

Дзмітрый Альгердавіч павёў на падмогу сваю конніцу. Але татары ўсё ж такі прарваліся ў тыл рускіх войск і сталі акружаць вялікі полк. Уладзімір Серпухоўскі, вымушаны бяздзейнічаць са сваім засадным палком, горасна наракаў Дзмітрыю Баброку Валынскаму: «Ці доўга нам тут стаяць? Якая з нас карысць? Глядзі, ужо ўсе хрысціянскія палкі ляжаць мёртвыя». Але Баброк Валынскі адказваў, што яшчэ нельга выходзіць з засады, таму што вецер дзьме проста ў твар русічам. Праз пэўны час вецер перамяніўся. «Цяпер час!» — сказаў Баброк, і засадны полк кінуўся на татар.

Гэты ўдар вырашыў зыход бітвы. Татар ахапіла паніка. Полк правай рукі Андрэя Полацкага і рэшткі вялікага палка перайшлі ў наступ. Ардынцы былі разбітыя!

З вялікай славай вярнуліся пераможцы ў сем'і свае. А князя Дзмітрыя Іванавіча пасля гэтай перамогі сталі называць Дзмітрыем Данскім.

А ў 1387 годзе Маскву асадзіў татарскі хан Тахтамыш. Праз тры дні ён узяў горад і ператварыў яго ў пажарышча. Дзмітрый Іванавіч плакаў на развалінах Масквы і пахаваў забітых на ўласныя грошы. Атрымаўшы сур'ёзную кантузію на полі Куліковым, Дзмітрый Данскі памёр ад яе вынікаў у 1389 годзе.

Уладзімір Серпухоўскі адмовіўся ад сваіх правоў на Маскоўскі сталец на карысць сына Дзмітрыя Данскога Васілія І.

Лёс Андрэя Альгердавіча склаўся драматычна. Кулікоўская бітва праславіла яго і выклікала чорную зайздрасць Ягайлы. Тым больш, што сам Ягайла збіраўся далучыцца да Мамая, але не паспеў прывесці войска на поле бою.

**Удар аказаўся страшным. Пачаў «прагібацца» вялікі полк, полк левай рукі — адступаць. Распавядалі, што кроў лілася, як вада, на дзесяць вёрст, коні не маглі ступаць па трупах…**

Даведаўшыся пра тое, што Ягайла згадзіўся стаць польскім каралём, далучыць Вялікае Княства Літоўскае да Польшчы і садзейнічаць распаўсюджванню каталіцтва на праваслаўных землях Беларусі, Андрэй вярнуўся на радзіму і, зноў абвясціўшы сябе вялікім князем Літоўскім, павёў барацьбу за правы адзінаверцаў. Але пацярпеў паражэнне і некалькі гадоў правёў у цямніцы. Слава князя была такой вялікай, што Ягайла не рашыўся яго забіць.

Толькі ў 1394 годзе дзякуючы просьбе Вітаўта праслаўлены вязень быў вызвалены. Некаторы час Андрэй служыў князю Вітаўту, які паручыўся за яго. А потым, у 1399 годзе, вымушаны быў прыняць удзел у няўдалым паходзе Вітаўта на Арду. Князю Андрэю было ўжо семдзесят пяць гадоў. Ён прагнуў спакою, ціхага, малітоўнага заканчэння жыцця. Але Вітаўт настойваў, каб герой Кулікоўскай бітвы ў гэтым паходзе быў побач з ім. На рацэ Ворскле князь Андрэй біўся ў першых шэрагах з воінствам хана Цемір-Кутлука. І загінуў, затрымліваючы татар, каб даць магчымасць рэшткам раці Вітаўта адысці з поля боя.

Там жа, ля водаў крывавай Ворсклы, скончыўся жыццёвы шлях князя Дзмітрыя Альгердавіча. Як і князю Андрэю, яму давялося зведаць цяжкасці заключання на радзіме. Пасля пераможнай Кулікоўскай бітвы Дзмітрый Альгердавіч атрымаў у дадатак да сваіх земляў Ноўгарад-Северскі. Аднак, за год да смерці Дзмітрыя Данскога, вырашыў прынесці васальную прысягу Ягайлу, які стаў польскім каралём. Пэўна, Дзмітрый Альгердавіч спадзяваўся на атрыманне з Ягайлавых рук намесніцтва ў землях Вялікага Княства Літоўскага. Аднак, намеснікам стаў другі ягоны брат па бацьку Скіргайла Альгердавіч. У 1391 годзе тэўтонскі грасмейстар Мальбарг заняў Гродна і Ліду. Скіргайла заклікаў Дзмітрыя Альгердавіча ісці супраць нахабнага крыжаносца. Ім удалася вызваліць захопленыя гарады, і Дзмітрый атрымаў у княжанне Ліду. Аднак ужо ў 1392 годзе яго выгнаў адтуль грасмейстар Руменгейм.

Першая жонка Дзмітрыя Альгердавіча памерла, ён ажаніўся ў другі раз з разанскай князёўнай Анастасіяй Алегаўнай, якая нарадзіла яму сына Фёдара і дачку Алену. Але дарэмна разлічваў на дапамогу родзічаў жонкі ў вырашэнні асабістых праблем князь Дзмітрый. Ліда была чарговы раз вызвалена, але без удзела князя Дзмітрыя. І Ягайла аддаў яе ва ўладанне Вітаўту.

А пасля Вітаўт стаў і Вялікім князем Літоўскім. І ён вылучыў Дзмітрыю ў княжанне Наваградак. Не згадзіўся з гэтым горды Альгердавіч. Пайшоў адваёўваць сабе страчаную Ліду. Але быў разбіты і патрапіў у палон. Павініўся, адкупіўся, атрымаў волю. У 1393 годзе зноў княжыў у Ноўгарад-Северскім, адмовіўшыся плаціць Вітаўту даніну, бо «Ноўгарад-Северскі заўжды Маскоўскай вотчынай быў». Аднак не далі Вітаўт і Ягайла забыцца дзёрзкаму родзічу пра васальную прысягу. Быў ён зноў паланёны і кінуты ў віленскую цямніцу. Вітаўт вярнуў яму волю толькі дзеля таго, каб выкарыстаць воінскія здольнасці князя Дзмітрыя ў баі з татарамі. Разам з сынамі, Іванам і Андрэем, прыйшоў Дзмітрый Альгердавіч пад сцягамі Вітаўта на Ворсклу. Усе трое засталіся ляжаць на полі бою мёртвымі…

Жыццё — праходзіць, слава — ззяе праз стагоддзі пуцяводнай зоркай. Героі загінулі, але засталіся назаўжды ў памяці нашай, дзякуючы пяру летапісца і яркім радкам славутай сярэднявечнай паэмы «Задоншчына»: «Сыны Літвы храбрыя, крэчаты ў ратны час і палкаводцы праслаўленыя, пад гукі труб іх спавівалі, пад шлемамі песцілі, з вострага мяча ўспоеныя ў Літоўскай зямлі»…

# Літаратура, падарожжы і медыцына: загадкавая гісторыя Саламеі Пільштыновай

Марыя КОМЛІК

**Пра Саламею Пільштынову (яна ж Русецкая, Гальпірава, Макоўская) мы праз амаль трыста гадоў пасля яе смерці ведаем толькі тое, што яна сама дазволіла нам ведаць.**

Ніхто так і не можа здагадацца, адкуль і калі яна з'явілася і куды знікла.

Саламея Пільштынова нарадзілася каля 1718 года (дакладная дата невядомая) у Навагрудку, атрымала даволі сціплую адукацыю і з дзяцінства цікавілася стральбой. Маладой дзяўчынай выйшла замуж за лекара Якуба Гальпіра, разам з якім у хуткім часе пераехала ў Стамбул. Саламея, авантурная і няўрымслівая ад прыроды, пачала дапамагаць мужу ў працы і хутка сама навучылася лекаваць спачатку хваробы вачэй, а пазней і ўнутраных органаў, што прынесла ёй вялікую папулярнасць і не аднойчы выратоўвала жыццё.




Узнікае пытанне: як у абсалютна патрыярхальнай мусульманскай краіне ў XVIII стагоддзі іншаземка атрымала афіцыйны дазвол займацца лекарскай практыкай нароўні з мужчынамі? Адказ просты: па мусульманскіх звычаях мужчына, нават лекар, не мог наведваць гарэмы, а прававерныя мусульманкі не мелі права лекаваць мужчын. Саламея ж як прадстаўніца іншай рэлігіі магла свабодна працаваць з любымі пацыентамі.

Нягледзячы на адносную верацярпімасць у краіне, іншаземцам працаваць у вялікіх гарадах часам было небяспечна. Аднойчы да Саламеі прыйшлі два янычары, пераапранутыя ў жаночае адзенне і захінутыя чадрой, і папрасілі лекарку пайсці з імі да хворай маці ў суседні раён горада, нават збіраліся аплаціць дарогу. Саламея адмовілася, бо на двары ўжо чакаў вазок, каб везці яе да іншага пацыента. У гэты момант падышла жанчына, што жыла побач, жонка лекара-яўрэя Эбеулу, і пачала распавядаць пра свой досвед у лячэнні хвароб, якога Саламеі нібыта не ставала, і згадзілася дапамагчы янычарам. Паводле турэцкай традыцыі, апрануўшы самыя дарагія ўпрыгожанні, жанчына паехала разам з салдатамі. Пазней яе знайшлі забітай і без каштоўнасцяў.

Саламеі часта даводзілася граць ролю своеасаблівай міс Марпл і самастойна шукаць выйсце з заблытаных жыццёвых сітуацый, абапіраючыся выключна на ўласны розум, уважлівасць да дэталяў і непераможнае жаданне данесці да людзей праўду (так, як яна яе разумела). Так, аднойчы, калі яе муж лячыў аднаго вельмі важнага і заможнага чалавека, той неўзабаве памёр. Сям'я памерлага збіралася ісці да султана з патрабаваннем пакараць лекара смерцю. Саламея з дапамогай грашовай кампенсацыі ўгаварыла сваякоў не спяшацца з рашэннем. Выйграўшы час, Саламея высветліла, што пры прыгатаванні лекаў прысутнічаў канкурэнт яе мужа — доктар Фансека. Не жадаючы трапіць у рукі турэцкага суда, аднаго з самых жорсткіх і прынцыповых у свеце, доктар згадзіўся выплочваць кампенсацыю замест Гальпіра і з'ехаў з краіны.

Авантуры, небяспечныя і часам неверагодныя, суправаджалі Саламею і за межамі Асманскай імперыі. Акрамя роднай Рэчы Паспалітай, яна наведвала еўрапейскія краіны і Расію. Пасля заўчаснай смерці Якуба Гальпіра Саламея некаторы час працавала пры двары Міхала Казіміра Рыбанькі і Францішкі Уршулі Радзівіл. Пазней лекарка пераехала ў Расійскую імперыю, дзе сябравала з Ганнай Іванаўнай — імператрыцай з дынастыі Раманавых.

У той час быў папулярны даволі спецыфічны спосаб заробку — перапродаж ваеннапалонных. Аднойчы Саламея сустрэла пяцярых аўстрыйцаў, паланёных туркамі, выкупіла іх і даслала кожнай з пяці сем'яў ліст, у якім запэўніла, што палонныя знаходзяцца ў добрых умовах і змогуць вярнуцца на радзіму, калі іх родныя дашлюць пэўную суму грошай. Лёс мае добрае пачуццё гумару: чатыры сям'і заплацілі выкуп, а вось пяты палонны — Юзаф Фартунат дэ Пільштын (Піхельштэйн) — напэўна, быў не вельмі патрэбны сваякам, бо так і застаўся з Саламеяй і ў хуткім часе стаў яе другім мужам. Пазней наша авантурыстка цяжарная выправіцца праз Альпы ў Вену, каб знайсці бацькоў мужа, і, як можна здагадацца, абавязкова іх знойдзе.

Сваё багатае на здарэнні і цуды жыццё Саламея Русецкая апісала ў мемуарна-прыгодніцкім рамане, які ў лепшых традыцыях эпохі барока мае доўгую і прыгожую назву: «Пададзенае свету рэха заняткаў, падарожжа і жыцця майго авантураў на чэсць і хвалу П[ану] Богу, у Святой Тройцы Адзінаму, і Найсвяцейшай Маці Хрыста, Пана майго, і ўсім святым». Рукапіс твора, які цяпер знаходзіцца ў Кракаве, суправаджаецца прадмовай «Да ласкавага чытача», у якой аўтарка паведамляе цікавыя падрабязнасці пра напісанне твора:

«... хіба што дзеля таго, каб іншыя, якія ведалі мяне, не дакаралі, што я [...] усе мае тысячовыя пацехі пакінула, а сама адна ў чужы край без усялякае дапамогі і пацехі выправілася, каб жыць і памерці ў Бозе ў тым краі. Вось таму і хачу ў гэтай маёй кніжачцы паказаць пуціны майго жыцця і пакутаў. Крыўды, пагарды ад мужоў, дзяцей, і блізкіх, і лёкаяў маіх — яны выгналі мяне з Айчыны маёй, дык мілей мне тут жыць, у гэтай пустэльні, у спакоі, у ласцы Божай, чым у Польшчы».

Захавалася таксама прысвячэнне Людвіцы Патоцкай, жонцы вялікага гетмана Кароны Юзафа Патоцкага, падпісанае аўтаркай — Рэгінай Саламеяй Макоўскай. З тэксту прысвячэння вынікае, што яснавяльможная Пані і Дабрадзейка (так да яе звяртаецца Саламея) планавала выступіць мецэнаткай і дапамагчы з публікацыяй твора. Аднак з невядомых прычын рукапіс, на жаль, заставаўся ненадрукаваным цягам двухсот гадоў.

Мемуары абрываюцца ледзь не на паўслове, і нам застаецца толькі здагадвацца, чаму так адбылося. Можа, аўтарка вырашыла больш не распавядаць пра сваё жыццё? Ці, як марыла, паехала вандраваць у Палесціну, а дзённік так і застаўся ляжаць на стале? Ці, дапісаўшы апошнія словы, лекарка адправілася ў падарожжа, якое не мае ні пачатку, ні завяршэння?

А можа, уся гэтая гісторыя — толькі фантазія, што ўзнікла ў галаве вандроўнага палкоўніка артылерыі Іаана дэ Вітэ, сярод запісаў якога і быў знойдзены твор?

# Вечнасці не праміну́ць



Наапет КУЧАК

Наапе́т Куча́к — армянскі паэт XVI стагоддзя. Адзін з першых армянскіх ашугаў (паэтаў-песняроў). Нарадзіўся ў паселішчы Хараконіс, каля Вана (на ўсходзе Турцыі). Дакладныя даты нараджэння і смерці невядомыя (памёр прыкладна ў 1592 годзе).

Пісаў айрэны — песні-чатырохрадкоўі пра каханне і чалавечае быццё.

* * *

*Маю мілосць берагла*
*Ты — й навокал зелень была.*
*Наўкола быў снег і лёд,*
*калі ад мяне ты сышла.*
*Як вернешся ты сюды,*
*табе стану морам святла,*
*бы сонца сагрэю цябе,*
*панішчу ўсе сцюжы датла.*

* * *

*Быў я з тых птушанят,*
*што з зямлі не бралі прагна зярнят.*
*Каб кахання сілкі*
*абысці, я ў неба мкнуў наўздагад.*
*Ды па моры мілосць*
*тут і там іх расставіла шмат.*
*Іншых — лапкі ў сілках,*
*я ж увесь там — і выберуся наўрад.*

* * *

*Каханне ў сэрцы маім —*
*дрыготка ў асеннім лісці.*
*Слязам праліцца з мяне —*
*бы ўвесну залеве прайсці.*
*Пакуль я ўсё ж пры жыцці,*
*у дом свой, малю я, пусці!*
*Як жыць без ласкі тваёй?*
*Скажы ж, да каго мне пайсці!?*

* * *

*Учора на двор зірнуў:*
*вялі там дзяўчыну адну.*
*Відаць, спакусілі яе —*
*грашыма ці то праз ману.*
*Мілосць хай гарыць агнём,*
*якой вызначаюць цану.*
*Каханне належыць браць,*
*як спелую садавіну.*

* * *

*Калі ты здольная, ноч —*
*як год, гэткай доўгаю будзь.*
*Каханая вось прыйшла —*
*і вечнасці не праміну́ць.*
*О ранак, промні святла,*
*хай нашай гульні не саб'юць:*
*калі яны свет зальюць,*
*хай ростані не прынясуць.*

* * *

*Нібы храм, твае грудкі:*
*мае шмат лампад, бялюткі...*
*Стану ў ім званаром*
*ютраняў пасля пабудкі,*
*буду там ля лампад...*
*— Лепш сыдзі, бо ходзяць чуткі:*
*храм ахутае змрок,*
*бо ты легкадумны й хуткі.*

* * *

*Чорныя бровы ў цябе,*
*чорныя пасмы ля скроні.*
*Бог пакарае, калі*
*ўночы не прыйдзеш ты сёння.*
*Прыйдзеш — шчака да шчакі,*
*ноч правядзём у бяссонні:*
*нават дыханне тваё*
*будзе трымаць у палоне.*

* * *

*Свой пэндзаль узяў мастак —*
*пісаў ейны твар і, як*
*ён бровы ўзнаўляў — няўзнак*
*быў страціў прытомнасць, бядак.*
*Хто твор мастака пазнаў,*
*захоплены быў. Як, аднак,*
*я Боскі твор пакахаў —*
*пляткарылі людзі ўсяляк.*

* * *

*На золку было чуваць,*
*як унізе вада цурчыць,*
*а голас яе, як плынь,*
*так працягваў міла цячы...*
*Нягеглы той сярод нас,*
*хто, каб жарсць сваю зберагчы,*
*пацалаваўшыся раз,*
*чакае наступнай начы.*

**Пераклаў з армянскай мовы**
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

# «Беларусалім. Сэрца святла»

## Як пісалася гэтая кніга?

Гэтай вясной Павел Севярынец атрымаў сем гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Падчас шматдзённага судовага працэсу ён прынцыпова маўчаў. Толькі ў сам дзень абвяшчэння прысуду, калі ў будынак урэшце пусцілі журналістаў і сваякоў, «завёў» залу, стоячы за кратамі: «Верым! Можам! Пераможам!».

Маўчаў ён і да суда, адмаўляючыся даваць паказанні на допытах. А калі ў яго запатрабавалі адказу, то заявіў: «Я ўжо ўсё сказаў у сваіх кнігах».

Кніг у Паўла, і праўда, шмат. Галоўная з іх — «Беларусалім». Тры часткі рамана, у якім зло і дабро змагаюцца за Беларусь і ў сэрцах саміх беларусаў. Павел пісаў гэтую кнігу пятнаццаць гадоў, з 2005-га па 2020-ы.

Зрэшты, яна магла да нас і не дайсці.

Умовы, у якіх ствараўся раман, былі самыя розныя: СІЗА КДБ; «хімія» ў Малым Сітна, дзе Павел адбываў першае пакаранне; затым, праз некалькі гадоў, — «хімія» ў Купліне. Вядома, усё пісалася ад рукі, на аркушах паперы, у адным асобніку. Аднойчы, пры чарговым ператрусе, увесь чарнавік рамана — сотні старонак — канфіскавалі. Здавалася, кніга згубленая. Але, пасля міжнароднага заступніцтва, улады ўсё-такі вярнулі рукапіс.

Другі раз канфіскоўвалі, калі Павел сядзеў на Акрэсціна. «Рукапіс забралі, нягледзячы на мае пратэсты, — пісаў Павел у заяве ў Генеральную Пракуратуру. — У той жа дзень я напісаў заяву на імя начальніка ЦІП, якую перадаў дзяжурнаму на праверцы. Адказу на сваю заяву я так і не атрымаў. Больш таго, на наступнай праверцы супрацоўнікі ЦІП дэманстратыўна раскідалі аркушы белай паперы з маіх рэчаў па ўсёй камеры і патапталіся па іх ботамі».




Аддалі канфіскат (цалкам нечакана) толькі падчас наступнай Паўлавай адсідкі.

Другая частка рамана «Беларусалім», якая называецца «Сэрца святла», была надрукаваная ў чэрвені 2020 г. Прэзентацыя прайшла без аўтара. На той час Павел ужо амаль месяц як знаходзіўся ў турме.

## Пра што «Беларусалім»?

Перадусім гэты раман — пра беларусаў і іх гістарычнае пакліканне. Хрысціянскае бачанне свету мае на ўвазе, што гэты свет не бессэнсоўны. Ён — рацыянальны. Усё, што створана, створана для нечага, мае мэту, і ва ўсім ёсць сэнс. Праз свой раман Павел асэнсоўвае пакліканне беларускага народа і дзеліцца разуменнем гэтага паклікання.

Яшчэ гэта кніга пра закаханасць у Бога і пяшчотную любоў да Беларусі. «Закаханасць у Бога?» — здзівіцца хтосьці. Так. Гарачая, эмацыйная закаханасць, што прыходзіць да любога чалавека, які перажывае «сустрэчу з Богам». Кожны вернік ведае, што патлумачыць гэты стан настолькі ж складана, як патлумачыць, што такое першае каханне таму, хто ніколі ні ў каго не закахаўся.

«Беларусалім» — кніга пра тое, якой бы Павел хацеў бачыць беларускую рэвалюцыю духу, нацыянальнае і хрысціянскае абуджэнне народа. Пра тое, якімі шляхамі да нас можа прыйсці перамога. Зрэшты, шлях толькі адзін, падабаецца гэта каму ці не. Без следавання гэтым шляхам усё, што робіць чалавецтва, заўсёды, без выключэнняў, пераўтваралася ў вычварэнне.

## Чым раман адметны?

Бываюць кнігі, якія пішуцца «па гарачых слядах». А гэтая напісаная яшчэ да таго, як самі сляды з'явіліся.

Натоўпы людзей у светлых вопратках і чорнае адзенне карнікаў; званы́ катэдральнага касцёла, які вітае шматтысячнае шэсце пад БЧБ; дваровыя мерапрыемствы; сутычкі з АМОНам; катаванні зняволеных і смерць у турэмных камерах; канспірацыя, ліхтарыкі (у кнізе — свечкі) у вечаровых вокнах дамоў; слова «беларусы», якое вучыць Еўропа. Актыўны ўдзел царквы ва ўсім Беларуху. Вялікія гарады і маленькія мястэчкі абуджаюцца. Лідары гэтага абуджэння, каб пазбегчы арышту, вымушаны эміграваць у Вільню... Усё, што мы перажылі са жніўня 2020-га, — у кнізе, якая выйшла ў чэрвені 2020-га.

Павел у сваім лісце з Валадаркі пісаў мне, што для яго самога гэта быў раман-адкрыццё. «Карціны, якія ажываюць — гэта не "вылічанае" прадбачанне: улетку-увосені 2020 мяне самога агаламшылі дзясяткі супадзенняў».

Пішучы, аўтар глядзеў у сэрца народа. Прычым народ для яго — не проста «насельнікі Рэспублікі Беларусь», а нашмат шырэй: усе тыя, хто жыў тут ад пачатку пісьменнасці і дзяржаўнасці.

Падзеі ў рамане — гэта перапляценне евангельскай гісторыі з гісторыяй Беларусі. І цячэнне гэтай гісторыі мацнейшае за саміх герояў. Кожны з іх застаецца вольным у сваім асабістым выбары, ад кожнага з іх залежыць, што яны абяруць: Святло альбо Цемру. Героі вызначаюць ходу кніжнага наратыву. Але ніхто і нішто не можа змяніць ходу наратыву гістарычнага. Над усім ёсць Бог, і Ён — адзіны сапраўдны творца гісторыі.

## Чаму «Беларусалім» трэба прачытаць?

Вось тры пункты (вядома, іх больш), якія я адзначыў для сябе:

1. Кніга, якая не пакідае раўнадушнай. Яе будуць альбо ганіць, альбо хваліць. Прамаўчаць пра яе вельмі складана.
2. Надзвычай якасная, жывая мастацкая проза.
3. Раман натхняе задумацца пра Бога.

За першую кнігу Паўла Севярынца некаторыя крытыкавалі, што надта ўжо там выразна ўсё падзеленае на чорнае і белае. Маўляў, у жыцці так не бывае, павінна быць і пяцьдзясят адценняў шэрага. Наш час, які абвастрыў кантрасты, паказвае, што на гістарычных пераломах, калі святло ззяе асабліва зырка, шэрае знікае.

## Чаго чакаць далей?

Перадусім, чакаем вызвалення Паўла Севярынца з турмы.

Пасля гэтага — выхаду трэцяй, фінальнай часткі «Беларусаліму». Яна ўжо дапісаная. На «Валадарцы» аўтар увесь апошні год працаваў над рэдактурай тэкста.

Чакаем, безумоўна, што прыйдуць перамены.

Чакаем, што раман будуць чытаць, і гэтыя перамены стануць больш трывалымі.

І зусім не без падстаў чакаем, што гэты раман у нашай нацыянальнай літаратуры застанецца вельмі надоўга. А можа, і на столькі часу, колькі беларуская літаратура будзе існаваць.

**Аляксей ШЭІН**

# Пра «прынца» яўрэйскай паэзіі

**М. А. Шэпелевіч, Б. Е. Ерузаліма «"Я сердцем солнца пью нектар". Лейб Найдус. К 130-летию со дня рождения гродненского поэта» (Гродна: ЮрСаПрынт, 2021. — 284 с.)**

Заўсёды радасна, калі ў Горадні выходзіць новая кніга. Гэта сведчыць пра тое, што мясцовы літаратурны працэс жыве. І асабліва значна, калі праз яго адбываецца сувязь мінулых эпох з сучаснасцю.

Мы жывём у складаны і цяжкі час: вакол, не гледзячы на вонкавую весцень і поспех, багата болю і гора. Краіна праходзіць праз пакутлівы перыяд перамен. У айчыннай гісторыі ўжо былі падобныя старонкі, калі шматлікія войны, як чорныя навалы, пракатвалі па зямлі, руйнуючы жыццё цэлых пакаленняў. Але сціхалі страшныя грымоты і вяртаўся мір пад блакіт крывіцкіх нябёсаў, і толькі вечная памяць захоўвала для нашчадкаў незабыўны боль тых гаротных падзей.

І літаратура — верная сястра чалавецтва, таксама праходзіла праз свой росквіт і заняпад. Загараліся новыя імёны, пісаліся шчырыя творы... і знікалі ў бездані часу, каб застацца там назаўсёды ці нечакана з'явіцца праз стагоддзі і стаць цудоўным адкрыццём для ўсіх аматараў высокага слова.

Калі ў шаноўнага чытача ўзнікне прага здзейсніць вандроўку ў тую сумную даўніну, варта зайсці ў выдавецтва «ЮрСаПрынт» на колішняй Брыгіцкай і ўзяць з паліцы кнігу, прысвечаную творчасці гарадзенскага паэта Лейбы Найдуса. Вы ўбачыце якасны друк, арыгінальны дызайн, архіўныя фотаздымкі і, галоўнае, светлыя ўспаміны пра паэта яго блізкіх і сяброў, крытычныя эсэ, артыкулы і пераклады вершаў на чатыры мовы тагачаснага Памежжа.

Над выданнем працавала цэлая плеяда таленавітых аўтараў і ўкладальнікаў: Марына Шэпелевіч, Беньямін Ерузалім, Эсфір Кірзнер, Альжбета Кеда, Ісроэл Някрасаў, Анатоль Брусевіч, Павел Салаўёў, Андрэй Ціхаміраў і іншыя.

Імя Лейба Найдуса было амаль забытым на Радзіме, зрэдку хто з гарадзенцаў мог адказаць, у чый гонар названая маленькая вуліца ў цэнтры горада. Ідыш, на якой пісаў паэт, знікла, і ва ўсім Наднямонні не засталося ніводнага носьбіта гэтай мовы, дарэчы, адной з дзяржаўных мову былой Беларускай Савецкай Рэспублікі.

І вось імя і творчасць «прынца яўрэйскай паэзіі», як называе Лейба Найдуса украінская паэтка Валерыя Багуслаўская, вяртаецца з небыцця.

Анатоль Брусевіч у эсэ «Пра месца Лейба Найдуса ў беларускай культурнай прасторы» параўноўвае маштаб яго таленту з Максімам Багдановічам. Пакінем за Брусевічам права на яго параўнанні, бо спадар Анатоль і сам знатны паэт з дасведчаным густам. Пагодзімся з тым, што, безумоўна, трагічнасць лёсу яднае гэтых двух заўчасна памерлых маладых творцаў.

«Яго вершы спалілі фашысты, а магілу знішчылі камуністы», — піша пра Лейба Найдуса Андрэй Адляніцкі. Нагадаем, што з магілай Максіма Багдановіча, на жаль, таксама не ўсё зразумела.

Ад сябе выдзелім са зместу два творы. Гэта ўспаміны пляменніцы паэта Алены Найдус, што акунаюць нас у ціхае жыццё яўрэйскіх мястэчак і нагадваюць прозу Шалом-Алейхэма. І яшчэ гісторыя сямі перакладаў Брусевіча — важны артыкул для ўсіх знаўцаў паэзіі, дзе імя Лейба Найдуса стаіць побач з імёнамі Віславы Шымборскай, Івана Франко і Аляксандра Блока.

Адразу пасля выхаду кнігі ў Свята-Пакроўскім кафедральным саборы адбылася адна з яе прэзентацый, дзе акрамя многіх выступоўцаў удзельнічаў сямейны дуэт гарадзенскіх бардаў — Паўла і Таццяны Салаўёвых. Спадар Павел і сам




прычыніўся да выдання кнігі ў якасці перакладчыка, а Таццяна спявала песні на вершы Лейба Найдуса не толькі ў перакладах, але нават і на ідыш.

А імя паэта жыве, пакуль чытаюць яго вершы.

P. S. Хто-небудзь з амерыканскай дыяспары, калі ёсць такая магчымасць, пазнаёмце «караля рок-музыкі» і лаўрэата Нобелеўскай прэміі Боба Дылана, бацькі́ якога паходзілі з адэскіх і літоўскіх яўрэяў, з творчасцю «прынца» Лейба Найдуса. Можа, паважаны мэтр напіша некалькі новых хітоў?

**Павел КАСПЯРОВІЧ**

# Дар'я Ліс: «У кожнага ёсць тое, што перашкаджае па жыцці»

**Паэтка і празаік Дар'я Ліс — чалавек, які моцна любіць жыццё. На гэта яе натхняе роднае Залессе з сядзібай Агінскага. І хоць Дар'я хварэе на спінальную мышачную атрафію (СМА), бар'еры яна ўспрымае не як перашкоды, а як асаблівыя ўмовы яе жыцця. Інваліднасць не замінае ёй займацца творчасцю, журналістыкай і дапамагаць іншым беларусам з такім жа дыягназам.**



***— Дар'я, Залессе — гэта месца вашай сілы?***

— Напэўна, немагчыма жыць у Залессі і не пісаць — карціны або тэксты, любіць кветкі і дрэвы... Так, гэта маё месца сілы. Ды, напэўна, кожны можа сказаць так пра сваю радзіму... Але сюжэты, звязаныя з Агінскім, заўсёды крочаць недзе побач.

***— Як пачалі пісаць? Як прыйшлі ў журналістыку?***

— Калі я вучылася ў школе, то любіла выпісваць і чытаць розныя дзіцячыя выданні. А ў 5 ці 6 класе напісала экалагічную заценку ў газету «Раніца»: мяне ўразіў забруджаны лес каля школы. Мяне надрукавалі. Пасля гэтага я стала туды пісаць, удзельнічаць у юнкараўскіх конкурсах. Таццяна Рокаш, карэспандэнтка газеты, прыехала. Пасля пэўны час я друкавалася ў «Новай газеце Смаргоні», пакуль яе не зачынілі-забаранілі, супрацоўнічала з газетай «Свободные новости». Мы пасябравалі з Аляксандрам Уліцёнкам, які сказаў, што ў мяне радыйны голас і мне трэба паспрабаваць сябе на радыё. Так, я паспрабавала працаваць на Радыё «Рацыя», у мяне атрымалася: працую там і дагэтуль.

***— А якую адукацыю атрымалі?***

— Я паступіла і скончыла БДПУ. І ведаеце, чаму? Бо там быў ліфт (смяецца). На журфаку БДУ мяне адгаварылі да іх паступаць: сказалі, маўляў, хай дзяўчынка атрымае добрую спецыялізацыю, а пасля сабе піша на здароўе. Пасля я адкрыла дапаможнік для абітурыента і разгубілася: варыянтаў шмат, а калі пачынала «ісці ў разведку», то аказвалася, што ці завочнага аддзялення няма, ці вучыцца можна было толькі платна... Гэта быў 1999 год. У выніку паступіла на факультэт беларускай філалогіі і культуры ў БДПУ імя Максіма Танка. Хаця, на цяперашні розум, я паспрабавала б паступіць у БДУ. Але не магу сказаць, што вучыцца мне было кепска. Акрамя мяне на курсе быў яшчэ адзін вазочнік. Аднак для мяне цяжка было ездзіць у Мінск. За ўвесь час, напэўна, толькі аднойчы была на лекцыі. У асноўным ездзіла на іспыты і дні завочніка.

***— Ці заўсёды атрымлівалася спакойна казаць пра сваю інваліднасць, як гэта робіце цяпер?***

— Ведаеце, з узростам нейкія комплексы пераадольваюцца: пачынаеш успрымаць хваробу як частку сябе. Хвароба — гэта проста ўмовы, у якіх ты вымушаны жыць. Канечне, калі была б магчымасць, я б адмовілася ад такіх умоў. Я люблю вандраваць і займацца журналістыкай. А хвароба, якая звязана з цягліцамі, замінае перасоўвацца. Некалі я жартавала, што хачу ўзяць інтэрв'ю ў людзей, да якіх цяжка дабрацца на інвалідным вазку... Але, магчыма, калі б я адмовілася ад інваліднасці, то ў жыцці прыйшло б нешта больш страшнае. І я не ўпэўнена, што гатова была б заплаціць такі кошт. У кожнага з нас ёсць тое, што перашкаджае нам па жыцці. Але калі мы ад гэтага адмовімся, то з'явіцца нешта больш цяжкае, з чым мы не зможам справіцца.

***— Але вынікае, што ўсё адно комплексы былі. Як атрымалася іх пераадолець?***

— Напэўна, гэта здарылася тады, калі я пазнаёмілася з людзьмі з падобным захворваннем, якія жывуць паўнавартасным жыццём. Памятаю, я вучылася ў 11 класе, і тады ў мяне яшчэ не было электравазка. Я напісала ў газету ліст з просьбай аб дапамозе. Адразу скажу, што спонсар не знайшоўся. Але я пазнаёмілася з Сяргеем са СМА, які стаў для мяне прыкладам. Ён вучыўся на механіка-матэматычным факультэце, працаваў спартыўным аглядальнікам у газеце, нават катаўся на электраскутары! Я тады пабачыла, што ўсё магчыма. Не баюся казаць пра інваліднасць яшчэ і таму, што гэта своеасаблівы элемент піяру магчымага лячэння для СМА-пацыентаў. Я з'яўляюся актыўным сябрам арганізацыі «Геном». «Геном» — гэта грамадскае аб'яднанне, якое дапамагае людзям з нярвова-цяглічнымі захворваннямі. У ёй я займаюся тэмай дарослых пацыентаў. Мы прасоўваем магчымасці лячэння ў Беларусі, бо на сёння ў нас такой магчымасці няма.

***— Якія крокі робіце для гэтага?***

— Сёння, калі ты дарослы СМА-пацыент, то твой адзіны шлях — эміграцыя. Але гэта цяжка. За намі нашы сем'і. Калі я з'еду за мяжу, то змагу атрымаць тэрапію. Я думаю пра гэта як пра патэнцыйную магчымасць. Аднак я не магу патрабаваць ад сваіх бацькоў кінуць усё — і паехаць са мной. А адна я не паеду, бо не спраўлюся... Цяпер мы чакаем, ці будзе прынята Міністэрствам аховы здароўя еўрапейская гуманітарная праграма і каго на яе возьмуць. Напрыклад, у Расіі спачатку ўзялі дзетак, а пасля дарослых. Праз год праграма сканчваецца, і дзяржаўны бюджэт павінен аплаціць тэрапію. Вы ведаеце, што наш бюджэт не схільны за гэта плаціць, у яго чамусьці іншыя праекты, хаця, у прынцыпе, усё вырашальна. Ёсць пацыенты, якім тэрапія жыццёва неабходна. Я хачу, каб гэтая тэрапія была і ў Беларусі.

***— Вы з вялікай павагай кажаце пра сваіх бацькоў. Пэўна, у часы, калі вы нарадзіліся, ім давялося вельмі цяжка...***

— Так, ім было цяжка. Тады інфармацыі не было, інтэрнэту — таксама. Яны паспрабавалі ўсё, што маглі. Вазілі мяне па дактарах па многіх рэспубліках былога СССР. Яны, як і я, перфекцыяністы, таму лічылі, што трэба зрабіць усё, што магчыма. Яны ж не ведалі, што гэтая хвароба не лечыцца... Зараз думаю, што лепш яны б зэканомілі гэтыя грошы, і мы час ад часу б ездзілі на мора... Пасля было наступнае пакаленне бацькоў і дзяцей, у якіх ужо быў інтэрнэт, і яны ведалі, што СМА не лечыцца. А цяпер ужо іншае пакаленне, якое ведае, што СМА можна вылечыць, толькі не ў нашай краіне. Я не ведаю, што лепш: хворае дзіця і немагчымасць яго вылечыць ці веданне, што за пару сотняў кіламетраў гэта цудоўна лечыцца, а ты нічога не можаш зрабіць... Або ты застаешся тут, а дзіця праз некалькі гадоў сядзе ў вазок, або ты з'едзеш у Польшчу, будзеш цяжка працаваць, але тваё дзіцё будзе атрымліваць тэрапію. Мне падаецца, што заўсёды лепш, калі ёсць выбар.

***— Заценкі вы пісалі яшчэ ў школе. А вершы?***

— Напэўна, вершы я пачала пісаць у студэнцтве, калі закахалася.

***— Як з іх «атрымаўся» зборнік?***

— Пасля «Плошчы» ў 2006 годзе ў мяне з'явілася філасофска-грамадзянская нізка вершаў. Спачатку яна трапіла ў газету «Наша Ніва». Мясцовыя праваабаронцы тады пазнаёмілі мяне з Аляксандрам Мілінкевічам. Ён нечакана прыехаў у Смаргонь і заехаў да нас у Залессе. Мы паразмаўлялі, і ён прапанаваў выдаць кнігу. Так выйшаў мой зборнік «Вершы і песні Свабоды». Наогул, той год быў вельмі адказным... Мне зрабілі аперацыю на спіне, з'явілася праца на Радыё «Рацыя», выйшла кніга «Вясновы джаз». Атрымаўся такі сапраўдны штуршок да пераменаў пасля некалькіх гадоў застою.

***— Што для вас пісьменніцтва?***

— Проза і паэзія — гэта спосаб выказаць думкі. Гэта тое, што я люблю рабіць і раблю. Калі ў галаву прыходзяць нейкія сюжэты, то іх трэба ўвасобіць. Калі ты адкідваеш гэтыя сюжэты, пасля кінуць цябе ўжо яны. Са мной так здаралася. Калі нейкая гісторыя «стукне» ў галаву, пажадана зачапіцца за яе і апрацаваць. Ты адкладваеш на потым, бо ў цябе нейкія справы, зараблянне грошай, што таксама важна... Але потым ідэя можа знікнуць.

***— Ці стаў выхад кніг для вас стымулам пісаць далей і больш?***

— На жаль, не. Я сышла ў іншыя актыўнасці. Я — шалі, мне цяжка выбраць: хапаюся за рознае, а сіл на ўсё не хапае. Я займалася мясцовым грамадскім актывізмам, супрацоўнічала з фондам «Паўночныя Афіны», выдавала бюлетэнь «Залеская талака» і займалася сайтам zalesse.by... Але пасля жніўня 2020 года зноў пачала пісаць вершы. За апошнія гады падзбіралася шмат падзей, якія выліваюцца ў вершы. Гэта проста думкі на паперы, тое, што я адчуваю. Я досыць цяжка перажыла эмацыйна 2006 і 2010 гады і сёлета не хацела «ўлазіць» ва ўсё гэта... У мяне не было на гэта сіл. І ўсё ж не ўтрымала дыстанцыю...

***— У вас жыве своеасаблівы правільны боль, які не паралізуе, а штурхае да дзейнасці...***

— Па-рознаму здараецца... Гэта ж эмацыйная арэлі.

***— Сярод аднавяскоўцаў вы — адна, хто адчувае навакольны свет падобным чынам?***

— Я сама не магу зразумець, па шчырасці. Мне падаецца, што цяпер дайшло да многіх людзей. Аднак усё адно ёсць людзі, якія маюць інтэрнэт і выпісваюць незалежную прэсу, а ёсць тыя, хто, маючы столькі магчымасцяў, усё адно глядзіць дзяржаўнае тэлебачанне...

***— А Залессе наогул мае безбар'ернае асяроддзе?***

— У нас ёсць крамы, ніводнай — безбар'ернай. Але і так не хаджу па крамах, бо люблю анлайн-шопінг, асабліва падчас кавіду. У нас свой дом. Я магу шпацыраваць на электравазку па Залессі, пахадзіць па маёнтку, хоць пандус там не вельмі зручны... Ёсць інтэрнэт, ды і я, напэўна, прывыкла ўжо працаваць дома. Часам хочацца паехаць у Смаргонь у кавярню — у нас ёсць сярод іх некалькі безбар'ерных. Аўтобусы ад нас ходзяць часта, але на вазку на іх не зойдзеш, бо там прыступкі... Так і атрымліваецца, што быццам ёсць магчымасць, і быццам яе няма.

***— Ці ёсць нейкія бар'еры, якія перашкаджаюць займацца творчасцю?***

— Лянота, хіба (смяецца). У кожнага чалавека ёсць лянота, якую яму трэба пераадольваць, калі ён задумаў цікавы праект. Калі ў мяне баліць спіна, то няма настрою нешта рабіць. Наогул, СМА — гэта тая хвароба, пры якой цягліцы лепш працаваць не будуць. Канечне, ёсць пагаршэнні. Калі прымаць лекі, то прынамсі можаш быць упэўненым, што не трапіш на штучную вентыляцыю лёгкіх і захаваеш тыя рухі, што маеш. У многіх нашых дарослых СМА-пацыентаў ёсць дзеці: гэта здарова — бачыць, як яны растуць... Мяне абмяжоўвае тое, што я жыву ў вёсцы і ў нас недастаткова развіты транспарт у Беларусі, што я не магу ўзяць — і самастойна сесці на цягнік і прыехаць у Мінск... Ёсць бар'еры, якія не магу пераадолець. Я б хацела пажыць у нейкім горадзе пару месяцаў, зладзіць сабе творчую рэзідэнцыю... Але я разумею, што адна не спраўлюся. Я жыву з бацькамі, у якіх таксама праблемы і хваробы. Канечне, каб у мяне была магчымасць, я б хацела жыць самастойна і не навешваць на іх свае праблемы.

***— А што вас ратуе?***

— Сям'я, сябры, праца, кава, музыка, падарожжы, кнігі, мовы... І, напэўна, тое, што я люблю жыццё.

**Вікторыя ЧАПЛЕВА**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Беларускія клубы шукаюць, дзе ім гуляць еўракубкі

Сяргей КАЙКО

**«Ляці, голуб, — казаў галантарэйшчык Банасье ў старой камедыі пра мушкецёраў. — Ляці, а мы табе крылцы падрэжам».**

Нешта такое, сутнасна падобнае, адбываецца цяпер вакол беларускіх футбольных клубаў і іх хуткага выхаду на міжнародную арэну. Вось-вось ужо ім гуляць у еўракубках з рознымі цудоўнымі камандамі і з розных цудоўных краін, але як і дзе ім сустрэцца — гэта суцэльны галаўны боль. З лагістыкай бядота — супернікі проста не хочуць ляцець у нашу татальную стабільнасць. Дый не могуць, і мадэратары з УЕФА гэта разумеюць.

Прычыну вы ведаеце: паветраная прастора над Беларуссю закрытая, ні адзін самалёт з Захаду не праскочыць. Выйсце адно — шукаць альтэрнатыўныя прычалы за межамі Беларусі. І яны шукаюць, і варыянты ў прэсу ўжо памалу прасочваюцца. Прычым варыянты адчайныя і месцамі даволі экзатычныя.

Тыдзень таму ў «Беларусі спартыўнай» мы анансавалі менавіта такое развіццё падзей, і вось працэсы пайшлі. І ўсё гэта — наступствы той самай экстранай пасадкі «Боінга» Ryanair з ворагам-блогерам на борце.

### Хто, калі і з кім

Сёлета беларускі футбол дэлегуе ў еўракубкі чатыры клубы. Салігорскі «Шахцёр» мусіць згуляць у Лізе чэмпіёнаў, БАТЭ, жодзінскае «Тарпеда» і брэсцкае «Дынама» рыхтуюцца паспрабаваць на зуб прынцыпова новы турнір — Лігу канферэнцый.

Лёсаванне ў ЛЧ — найгалоўнейшым клубным спаборніцтве Еўропы — адбылося на мінулым тыдні, 15 чэрвеня. Апанентам «Шахцёра» ў першым кваліфікацыйным раўндзе стаў балгарскі «Лудагорац». Спачатку салігорцы накіруюцца ў госці — у Разград, дзе будуць даваць бой 6 ці 7 ліпеня. Затым, згодна з рэгламентам, павінен адбыцца візіт у адказ — роўна праз тыдзень, 13 альбо 14 ліпеня. Дзе пройдзе гэты матч, дагэтуль дакладна невядома.

У Лізе канферэнцый «запалкі цягнулі» 16 чэрвеня. Усе тры беларускія каманды распачнуць барацьбу з другога кваліфікацыйнага раўнда, але лёгка не будзе нікому. Так, жодзінскаму «Тарпеда» наканавана зведаць моц дацкага «Капенгагена», а брэсцкаму «Дынама» давядзецца патрапіць пад чэшскую «Вікторыю» з Пльзеня. Абодва супернікі — па еўракубкавых мерках, узроўню «вышэй за сярэдні» (як, дарэчы, і згаданы вышэй «Лудагорац»), аднак наконт спартыўнага складніку цяпер мала хто разважае. Ёсць справы больш сур'ёзныя.



БАТЭ: ад Барысава да Батумі — палёт нармальны. Але што далей?

Фота прэс-службы ФК БАТЭ

Матчы запланаваныя на 22 і 29 ліпеня. Стартуюць жодзінцы і брэстаўчане сінхронна на выездзе, а потым ім патрэбна сустракаць візаві з рушнікамі дома. Але дзе будзе той «дом» і якія будуць тыя рушнікі — зноў жа пакуль вялікі сакрэт для заўзятараў.

Крыху прасцей сітуацыя ў БАТЭ. Нібыта аддаўшы належнае магутнаму еўракубкаваму вопыту барысаўчан, жэрабя яму патрафіла — падсунула ў супернікі па тым жа другім раўндзе грузінскае «Дынама» з сонечнага Батумі. Даты гульняў тыя ж — 22 і 29 ліпеня — і вось тут з лагістыкай, здаецца, праблем не прадбачыцца.

Грузія — шчодрая краіна і надзвычай гасцінная. І хаця пазіцыянуе сябе прыхільніцай еўрапейскіх каштоўнасцяў, ад паветраных зносін з Беларуссю не адмовілася (прынамсі так было на момант напісання гэтых радкоў). Гэта значыць, што барысаўскія лагісты зробяць усё як звычайна: арандуюць чартар фірмы «Белавія» ў Грузію, а затым спакойна прымуць у госці прыязных генацвале, якія таксама прыляцяць прамым рэйсам.

Дзеля дакладнасці, канешне, варта нагадаць, што на шляху да БАТЭ батумскім дынамаўцам належыць яшчэ пераадолець першы раўнд. Але ж супернік там чыста сімвалічны — хлопцы з карлікавага сан-марынскага «Трэ Пенэ» — праблем з імі ў грузін не павінна ўзнікнуць.

У БАТЭ ж праблемы паўстануць непазбежна ў будучыні — калі яны з божай дапамогай перамогуць Батумі па суме двух гульняў. Там лёс з велізарнай верагоднасцю падкіне суперніка ўжо з «варожага» Захаду. І гамон — на «Белавія» надзея знікне.

### Тула не прымае

Дарожныя цяжкасці беларускіх клубаў, уласна, маюць два складнікі. Першы і больш лёгкі — як дабрацца на выязныя матчы? Другі і больш цяжкі — дзе знайсці прытулак, каб правесці там хатнія паядынкі?

Як дабрацца самім — тое падкажа любы турыст. Хочаш у Еўропу? То разглядай у якасці перавалачнага хабу альбо Маскву, альбо Стамбул — балазе, і туды, і туды «Белавія» лётае. А там ужо наймай кагосьці з мясцовых перавозчыкаў, і будзе табе шчасце. Хоць якое, але тваё.

Паводле логікі, можна разлічваць і на аэрапорты еўрасаюзаўскіх Вільні ці Варшавы. Пры ўмове, што да трапа прыйдзецца ехаць на аўтобусе. Здаецца, аніякіх санкцыйных перашкодаў для такога маршрута няма. Так што вузельчыкі неяк завяжуцца.

Аднак што рабіць з хатнімі гульнямі? Тут усё складаней, хаця рашэнне таксама ёсць. Зрэшты, знаходзяць яго беларускія еўракубкавыя эмісары не з першага разу, дый увогуле пакуль не знайшлі.

Напрыклад, спартыўныя журналісты-інсайдэры на мінулым тыдні семафорылі, што жодзінскае «Тарпеда» мела цвёрды намер зафрахтаваць для матча з «Капенгагенам» стадыён у Туле — мабыць, «Арсенал», дзе ў першынстве Расіі прымае сапернікаў мясцовы аднайменны клуб. Ну, можа, і нішто сабе варыянт, але абмяркоўваць яго ўжо бессэнсоўна. Пазней прыйшла інфармацыя, што ў Тулу са сваімі самаварамі жодзінцы не паедуць — там ім у прыёме адмовілі.

«Шахцёр», кажуць, хоча арандаваць для хатніх патрэб адзін са стадыёнаў Бялграда. Тэхнічна гэта нескладана — у сталіцы Сербіі футбольных арэн з міжнародным сертыфікатам ажно пяць. Іншая справа, што зноў умешваецца лагістыка. Ляцець салігорцам на Балканы, якія таксама закрылі сваё неба ад беларускіх авіякампаній, — прыкладна тое ж самае, што ляцець у Балгарыю да «Лудагорца». Кіруйся спачатку ў Стамбул альбо Маскву. Ну, ці майструй з Мінска напрамкі чартар якога-небудзь «Аэрафлота» — за дадатковую, канешне, плату.

Што думае наконт дамашняй гульні брэсцкае «Дынама», яно не афішуе, а інсайдаў няма. Напэўна, нешта думае — вывучае геаграфію за межамі ЕС ды Украіны, паглядвае на расійскія гарады альбо на рэльефы Закаўказзя...

### Грошы і сілы

Зрэшты, паўстаўшыя праблемы можна вырашыць — бо, як той казаў, няма такіх цяжкасцяў, якія мы б не маглі сабе стварыць, каб потым іх гераічна пераадолець. Аднак любое рашэнне тут патрабуе залішніх выдаткаў, і ў нашым выпадку гэта не толькі грошы.

Хаця, вядома, грошы ў першую чаргу. Бо дадатковыя пералёты, камандзіроўкі, гатэлі і арэнда чужых стадыёнаў балюча ўдараць па кішэнях прынамсі дзвюх каманд — небагатых «Дынама» і «Тарпеда». Зрэшты, не толькі БелАЗ, але і салігорскі «Беларуськалій» мяркуецца ўключыць у чарговы санкцыйны пакет, таму і наконт дабрабыту гарнякоў нельга быць упэўненым цалкам. Ну, але ж нічога: у самым адчайным выпадку можна ўзгадаць 90-я і адправіцца ў далёкае падарожжа непасрэдна на грэшнай зямлі — на аўтобусе. Колькі там ад Брэста да таго Пльзеня — нейкая тысяча кіламетраў. Чаму б не патрэсціся на кругласных еўрасаюзаўскіх калдобінах?..

А калі сур'ёзна, то на гэтых неспадзяваных ростанях беларускія футбалісты гарантавана пакінуць не толькі фінансы, але і сілы. Гадзіны фізічнага аднаўлення, гадзіны банальнага сну — усё гэта не дробязі ў кантэксце бягучага гульнявога календара.

Каляндар шчыльны, як малочны ранішні туман, — у ліпені ўдзельнікі еўракубкаў традыцыйна ўступяць у рэжым двух матчаў на тыдзень (чэмпіянат краіны ніхто не адмяняў, апошнія вынікі глядзіце ніжэй). Гэта і так складана для тыпова рахманага беларускага арганізму, а тут яшчэ трэба лётаць у самалёце сярод змрочных «санкцыйных» хмараў. Карацей, становішча складанае, і як бы так не сталася, што сёлетні еўракубкавы сезон у айчынных футбалістаў акажацца кароткім, як чэрвеньская ноч, і маркотным, як усё наша жыццё. Рызыкі вельмі высокія, і ўсе гэта выдатна разумеюць.

Спорт па-за палітыкай — казалі беларускія гульцы летась, хаваючыся ў бульбу ад рэчаіснасці. Ад гвалту, ад рэпрэсій, ад арыштаў сваіх калег і аднаклубнікаў. То вось такі камуфлет вам, хлопцы, у адказ. Такая неспадзяванчка, паводле закону жанру. Калі вы не цікавіцеся палітыкай, то яна вамі зацікавілася — і ўжо грукаецца ў дзверы цяжкім бумерангам.

### Чэмпіянат Беларусі

**13 ТУР. 17–19.06.** МІНСК — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 2:1 (295, Лопес, 1, 47 — В.Васільеў, 42, з пенальці).

НЁМАН (Гродна) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 2:2 (632; Грыбоўскі, 8, 63 — Жэрдзеў, 86, Паўлючык, 95+).

СЛУЦК — ШАХЦЁР (Салігорск) — 1:4 (1200; Альфрэд, 45 — Стасевіч, 50, Анціч, 62, Дарбо, 64, 76).

ДЫНАМА (Брэст) — СМАРГОНЬ — 2:2 (3098; Беленькі, 16, Сядзько, 63 — Бандарэнка, 7, 61).

ВІЦЕБСК — РУХ (Брэст) — 0:0 (1015).

ГОМЕЛЬ — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 2:0 (4100; Салавей, 13, А.Васільеў, 45).

ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — 2:0 (575; Габоўда, 28, Леановіч, 30).

ДЫНАМА (Мінск) — БАТЭ (Барысаў) — 0:2 (5880; Скавыш, 36, Міліч, 67).

**ТУР 14. 26.06.** Смаргонь — Гомель, Славія — Энергетык-БДУ, Шахцёр — Дынама Бр. 27.06. Іслач — Мінск, Рух — Слуцк, БАТЭ — Тарпеда-БелАЗ. 28.06. Спадарожнік — Віцебск, Нёман — Дынама Мн.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 13 | 13 | 0 | 0 | 31–6 | 39 |
| 2. | БАТЭ | 13 | 10 | 2 | 1 | 28–10 | 32 |
| 3. | Рух | 13 | 7 | 4 | 2 | 22–11 | 25 |
| 4. | Гомель | 13 | 7 | 3 | 3 | 27–13 | 24 |
| 5. | Дынама Мн. | 13 | 7 | 2 | 4 | 21–9 | 23 |
| 6. | Мінск | 13 | 5 | 4 | 4 | 19–22 | 19 |
| 7. | Віцебск | 13 | 4 | 7 | 2 | 14–8 | 19 |
| 8. | Дынама Бр. | 13 | 4 | 7 | 2 | 14–8 | 19 |
| 9. | Тарпеда-БелАЗ | 13 | 5 | 3 | 5 | 14–18 | 18 |
| 10. | Энергетык-БДУ | 13 | 4 | 3 | 6 | 15–16 | 15 |
| 11. | Іслач | 13 | 4 | 2 | 7 | 17–23 | 14 |
| 12. | Слуцк | 13 | 2 | 5 | 6 | 12–22 | 11 |
| 13. | Славія | 13 | 2 | 3 | 8 | 14–24 | 9 |
| 14. | Нёман | 13 | 1 | 5 | 7 | 10–20 | 8 |
| 15. | Смаргонь | 13 | 1 | 3 | 9 | 7–30 | 6 |
| 16. | Спадарожнік | 13 | 1 | 1 | 11 | 6–31 | 4 |

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Тэрміты супраць Нацбанку

Гледзячы па ўсім, мінулы ўік-энд афіцыёз Казахстана працаваў у асаблівым рэжыме. Усё з-за незвычайнага паведамлення, якое набыло шалёную папулярнасць.

У сацыяльных сетках і месенджарах казахі актыўна дзяліліся навіной, што «ў галоўным сховішчы Нацыянальнага банка Рэспублікі Казахстан тэрміты з'елі нядаўна надрукаваны наклад купюр нацыянальнай валюты ў памеры двух трыльёнаў тэнге».

Дзяржаўным медыя давялося даказваць, што насамрэч навіна была фэйкам. Сапраўды, першапачатковая інфармацыя пра тэрмітаў, якія атакуюць Нацбанк, з'явілася на прасторах аднаго сатырычнага акаўнта. У ім публікуюцца выдуманыя навіны і паведамленні, якія не прэтэндуюць на дакладнасць. Аднак чаму шараговыя грамадзяне калектыўна паверылі ў відавочны фэйк? Адзіны лагічны адказ — нізкая ацэнка народам кампетэнтнасці чыноўнікаў, якія сапраўды маглі дапусціць, каб тэрміты з'елі нацвалюту.

Дарэчы, гэта не першы фэйк, які масава тыражуюць казахі. Нядаўна ў мясцовых сетках распаўсюджвалася фота грузавога аўтамабіля з надпісам «Мабільны крэматорый». Некаторыя каментатары заяўлялі, што такое абсталяванне падрыхтавалі для тых, хто памрэ ў выніку вакцынацыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Скіфы ў горадзе!

Дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны Максім Бужанскі агучыў некаторыя фрагменты сцэнару правядзення ваеннага параду ў гонар 30-х угодкаў незалежнасці Украіны, які плануецца на 24 жніўня ў Кіеве.

На публікацыю звярнулі ўвагу з-за шэрагу арыгінальных ідэй арганізатараў мерапрыемства. У прыватнасці, яны вырашылі рэканструяваць усе слаўныя ваенныя старонкі гісторыі Украіны, пачынаючы з глыбокай старажытнасці. Таму, акрамя волатаў княжацкай дружыны, запарожскіх казакоў, салдат Украінскай паўстанцкай арміі і воінаў Чырвонай Арміі, па Хрэшчаціку 24 жніўня пройдуць... скіфы і сарматы. Гэтыя народы сапраўды нейкі час жылі на тэрыторыі, якая цяпер з'яўляецца Украінай. Зрэшты, тыя ж скіфы, магчыма, нават не пройдуць, а праедуць, паколькі яны выкарыстоўвалі баявыя калясніцы.

Натуральна, аматары жартаў тут жа запатрабавалі ад Зяленскага ў дадатак да скіфаў вывесці на парад атрад баявых сланоў. Аднак, падаецца, і без іх шоу 24 жніўня будзе вельмі запамінальным.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Экіпаж Challenger выжыў?

Шмат хто яшчэ памятае жудасную аварыю амерыканскага касмічнага карабля Challenger у студзені 1986 года. Шатл выбухнуў у паветры падчас запуску. І гэта бачылі ўсе прысутныя на касмадроме гледачы. Сярод іх было шмат родных і сяброў сямі астранаўтаў, якія фактычна загінулі на іх вачах.

І вось — новая версія тых падзей. Яе прапанаваў у сваёй новай кнізе даследчык Кевін Кук. Ён сцвярджае, што экіпаж Challenger, які знаходзіўся ў спецыяльнай капсуле, перажыў разбуральны выбух. Насуперак распаўсюджанай думцы, апарат не выбухнуў, а разбурыўся ў выніку няштатных аэрадынамічных перагрузак. Імгненнага выбуху ўсяго паліва таксама не адбылося. Таму капсула з людзьмі проста трапіла ў паветра і праз нейкі час рухнула ў Атлантычны акіян. Больш за тое, астранаўты да пачатку падзення яшчэ спрабавалі неяк ліквідаваць аварыю.

Натуральна, узнікае пытанне: што рабіла ў гэты час служба NASA? Адказу аўтар не дае, але ў любым выпадку яго кніга надасць імпульс шматлікім крытыкам афіцыйнай версіі аварыі Challenger. Апошнія носяцца з тэорыямі пра тое, што аварыя была штучна спланаваная. Напрыклад, у катастрофе, маўляў, былі зацікаўленыя ў адміністрацыі Рэйгана, дзе шукалі падставы, каб закрыць дарагую касмічную праграму па запуску шатлаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Галасуй за чалавека са стрэльбай!

У Расіі жыве 4 мільёны чалавек, у якіх ёсць зброя, прычым законная — для палявання, спорту, самаабароны. Напэўна, колькасць такіх людзей застаецца доўгі час стабільнай, але чамусьці толькі ў гэтым годзе яны задумаліся пра стварэнне сваёй палітструктуры.

У выніку ў Маскве адбыўся сход, на якім паўстала партыя «Узброены грамадзянін». Яе галоўная задача — «сумеснымі намаганнямі змяніць сітуацыю, якая склалася, ліквідаваць перакос ва ўспрыманні грамадзяніна са зброяй, пераадолець дыскрымінацыю супольнасці». Кажучы простымі словамі, аматарам зброі не падабаецца стаўленне да іх улады. Асабліва гэта тычыцца выпадкаў самаабароны з дапамогай зброі.

Так ці інакш, запуск партыі «Узброены грамадзянін» адбыўся, і яна нават мае намер прыняць удзел у восеньскіх думскіх выбарах. Для гэтага, праўда, трэба паспець стварыць аддзяленні на месцах. Але, як запэўніваюць у кіраўніцтве партыі, маркоўчы па масавасці парушэнняў правоў уладальнікаў зброі, з гэтым праблем не будзе.

**Паводле расійскай прэсы**



Фота www.news.mail.ru

# Як гартавалася сталь

*Алег НОВІКАЎ*

**«Сталёвай рэвалюцыяй» назваў выканаўца абавязкаў прэм'ер-міністра Арменіі Нікол Пашынян вынікі пазачарговых парламенцкіх выбараў 20 чэрвеня.**

Папярэдняй, як вядома, рэвалюцыяй у Арменіі была «аксамітная» ў 2018 годзе. Пры гэтым яна была такой жа раптоўнай і неспадзяванай для ўсіх, як і цяперашняя «сталёвая». Нагадаем, калі ў сакавіку 2018-га Нікол Пашынян анансаваў антыўрадавы марш на Ерэван пад назвай «Мой крок», ніхто ў самых смелых фантазіях не думаў, што пратэст выльецца ў сапраўдны Майдан і адхіленне ад улады карабахскага клана. Большасць палітолагаў чакалі ад акцыі Пашыняна нейкага невялікага перформансу.

Падобныя з'едлівыя каментары наконт перспектыў Пашыняна гучалі і напярэдадні апошняга галасавання па выбарах у парламент. Многім падавалася, што Арменія не даруе адміністрацыі Пашыняна паразы ў Нагорным Карабаху. Падпісанне Ерэванам пагадненняў 10 лістапада пра мір у Карабаху абсалютна ўсе палітычныя сілы Арменіі палічылі капітуляцыяй, пратэстоўцы ў той жа дзень уварваліся ў рэзідэнцыю прэм'ера ды абяцалі павесіць палітыка. Пазней яму давялося абвясціць пра адстаўку.

Прыкметнае расчараванне ў Пашыняне, дарэчы, фіксавалі напярэдадні выбараў сацыялагічныя канторы. У пачатку чэрвеня амерыканскі Інстытут Гэлапа рапартаваў, што за «Грамадзянскую дамову» Пашыняна гатовыя аддаць галасы толькі 25,2% выбаршчыкаў. Лідзіраваў у апытаннях блок «Арменія» — партыя рэваншу і прарасійскай арыентацыі, які ўзначальваў экс-прэзідэнт Роберт Качаран.

Вынікі выбараў татальна супярэчаць усім прагнозам. Спіс кандыдатаў «Грамадзянскай дамовы», паводле дадзеных ЦВК, перамагае з 53,92%, блок «Арменія» набірае 21,04%. Трэцім ідзе блок «Гонар маю» былога прэзідэнта Арменіі Сержа Саргсяна з 5,23%. І хоць Саргсян не набраў 7% галасоў, неабходных для ўваходжання ў парламент, але туды ён усё ж пройдзе. Таму што ў армянскім у заканадаўчым органе абавязкова мусяць прысутнічаць як мінімум тры палітычныя сілы.

Такіх вынікаў ніхто не чакаў. Асабліва ў Маскве, дзе набыла папулярнасць думка: «Страта Арменіяй Карабаху стала платай за “аксамітную рэвалюцыю”». Правал Пашыняна на выбарах быў бы лагічным працягам такой формулы. І раптам — правільна правадыр “аксамітнай рэвалюцыі”, наадварот, святкуе перамогу.

Некаторыя палітолагі спрабуюць растлумачыць гэты феномен нават у такіх катэгорыях, як «палітычнае шаленства». Так ацаніў вынікі выбараў адзін з маскоўскіх каментатараў. На яго думку, немагчыма простым розумам дайсці, чаму ў насельніцтва няма пытанняў да ўлады, з-за якой нацыя атрымала прыніжэнне. Паколькі ўлада ніякай адказнасці ні за што не нясе, то, на яго думку, мае сэнс чакаць новай катастрофы. Лагічным у гэтым плане, напрыклад, будзе страта ўсяго Нагорнага Карабаху.

**Такіх вынікаў ніхто не чакаў. Асабліва ў Маскве, дзе набыла папулярнасць думка: «Страта Арменіяй Карабаху стала платай за “аксамітную рэвалюцыю”». Правал Пашыняна на выбарах быў бы лагічным працягам такой формулы**

Да арыгінальных версій можна аднесці тэорыю пра тое, што армяне, галасуючы за спіс Пашыняна, намагаліся адпомсціць Расіі за яе невыразныя паводзіны падчас канфлікту. Тады Турцыя актыўна дапамагала саюзнаму Азербайджану, а Расія доўгі час дыстанцыявалася ад саюзніка па АДКБ. За гэта яе, маўляў, і пакаралі на выбарах 20 чэрвеня.

Аднак, калі прыгледзецца да некаторых асаблівасцяў армянскай палітыкі, то вікторыя Пашыняна не выглядае так ужо фантастычна. Напрыклад, апазіцыя актыўна крытыкавала Пашыняна за правал у Нагорным Карабаху. У выніку партыйныя праекты апанентаў улады сталі закладнікам свайго ваяўнічага іміджу. Перамога апазіцыі разглядалася як нейкі пралог да рэваншу, да новай вайсковай канфрантацыі. Аднак запыт грамадства быў на мір.

Акрамя таго, галоўныя лідары партый, якія канкуравалі з Пашынянам, у грамадскай свядомасці, як і раней, належаць да алігархаў або прадстаўнікоў старой карумпаванай эліты. Падобная публіка не выклікае татальнага даверу ў выбаршчыка. Асабліва шмат каму не спадабалася, калі штабы апазіцыйных партый спрабавалі традыцыйна купляць галасы электарату за кошт раздачы рысу, цукру і іншых прадуктаў.

На фоне канкурэнтаў адносна свежы і не замяшаны ў буйных аферах Пашынян, падаецца, яшчэ не вычарпаў крэдыт даверу. Можна пагадзіцца з рэзюмэ амерыканскага часопіса Eurasianet: «Перамога “Грамадзянскай дамовы” абумоўленая не дасягненнямі дзеючай улады, а тым, што людзі не хацелі галасаваць за мінулае».

Тым больш, нейкія дасягненні ва ўрада Пашыняна ўсё ж былі. Гэты Кабмін зрабіў установы аховы здароўя для грамадзян, маладзейшых за 18 гадоў, бясплатнымі. Арменія за гады Пашыняна паднялася ў рэйтынгу барацьбы з карупцыяй. Да эскалацыі карабахскага канфлікту назіраўся рост ВУП.

Так што пэўныя рацыі галасаваць за Пашыняна ў армян усё ж былі. У любым выпадку, 20 чэрвеня Пашынян атрымаў другі карт-бланш на рэформы. Як ён будзе ім распараджацца і што прынясе краіне «сталёвая рэвалюцыя» — пакуль пытанне. У сваіх першых заявах пераможца выбараў кажа пра неабходнасць кансалідацыі нацыі і грамадства.

# Квітнеючая Нікарагуа

Алег НОВІКАЎ

**Усё ж на БТ не хлусяць, калі кажуць, што беларускі досвед запатрабаваны за мяжой. У Нікарагуа за апошні месяц паліцыя затрымала пятага апазіцыйнага кандыдата ў прэзідэнты краіны.**



Кандидат в президенты Никарагуа Феликс Марадиага

Фота www.kommersant.ru

Выбары ў Нікарагуа павінны адбыцца 7 лістапада, што вельмі сімвалічна. Дата 7 лістапада ў тым ліку — сімвал рэвалюцыі, кропкі пераломy. І, падаецца, у Нікарагуа ўсё таксама ідзе да нейкай маштабнай канфрантацыі. Прычым, ідзе вельмі дынамічна.

За апошні месяц пяць кандыдатаў ад апазіцыі аказаліся за кратамі. І гэта без уліку актывістаў «другога эшалона». Акрамя таго, пачалося расследаванне дзейнасці найбуйнейшай некамерцыйнай арганізацыі ў сувязі з абвінавачваннем у атрыманні ёю фінансавых сродкаў ад ЗША. Пракуратура сцвярджае, што Вашынгтон выдаваў гранты з мэтай аказання ўплыву на ўнутранаю палітыку краіны.

Што тычыцца затрыманых, то ім прад'яўляюцца абвінавачанні ў парушэнні артыкулаў «Закона аб абароне права народа на незалежнасць, суверэнітэт і самавызначэнне ў імя міру». Закон вельмі супярэчлівы, аднак дазваляе лёгка затрымаць любога апанента праціўніка рэжыму. Зрэшты, магчыма, у справе з'явяцца і новыя артыкулы. Спікеры адміністрацыі прэзідэнта кажуць, што арыштаваныя рыхтавалі пераварот, заказчыкамі якога з'яўляюцца тэрарысты і арганізаваны крымінал.

У прынцыпе, такіх фокусаў ад прэзідэнта Даніэля Артэгі трэба было чакаць. Многія яшчэ памятаюць падрабязнасці папярэдняй прэзідэнцкай кампаніі. Напярэдадні старту тых выбараў Канстытуцыйны суд забараніў папулярнаму апазіцыйнаму палітыку-лібералу Эдуарду Монтэалегрэ не толькі ўдзельнічаць у выбарах, але нават і ўзначальваць партыю.

Апазіцыя імгненна абвясціла кастынг, на якім перамог Луіса Калеяса. Адгадайце, як у адказ паступіў Артэга? Правільна, праз суд забараніў таму балатавацца. У выніку атрымалася дамагчыся, каб у выбарчыя бюлетэні патрапілі фігуры палітыкаў, апрыёры не здольных скласці канкурэнцыі дзеючаму прэзідэнту.

Падобныя крокі, відавочна, не выклікалі захаплення ў лідараў заходніх дэмакратый. Што ўжо казаць пра рэакцыю на апошнія навіны з Манагуа. Прафілактычныя арышты патэнцыйных кандыдатаў наогул выклікалі асцярогі за лёс дэмакратыі ў гэтай цэнтральнаамерыканскай краіне. Многія згодныя з тэзісам апазіцыі, што ўлада ідзе па шляху пабудовы палітычнай дынастыі, якая нічым не адрозніваецца ад клана Самоса, які быў зрынуты сандыністамі.

Тое, што Даніэль Артэга, былы змагар з дыктатурай, калі стаў прэзідэнтам, вырашыў ужываць дыктатарскі інструментарый, — у чымсьці парадокс. Больш за тое, Артэга нават пераследуе былых таварышаў па руху сандыністаў. Напрыклад, па выніках апошняга хапуна ў турме аказалася легендарная баец сандыністаў Дора Марыя Тэлез.

Далей за ўсіх у ацэнках таго, што адбываецца ў Нікарагуа, ідзе прэса кубінскай эміграцыі ў Фларыдзе. Тут 7 лістапада разглядаюць як нейкую гістарычны мяжу. Калі Артэга здолее выйграць выбары, то Нікарагуа, мауляў, пачне трансфармавацца ў аналаг Кубы.

Што дае алібі нікарагуанскім уладам праводзіць такі жорсткі рэпрэсіўны курс, яўна рызыкуючы пры гэтым нарвацца на знешнія санкцыі? Інстынкт палітычнага выжывання любым чынам? На самай справе, нейкая логіка тут прысутнічае. Магчыма, Артэга спадзяецца, што большасць нікарагуанцаў праігнаруюць заявы апазіцыі пра фальсіфікацыі выбараў.

Па-першае, за кошт сацыяльных праграм і прагматычнай эканамічнай палітыкі Артэга стварыў сабе ядзерную групу падтрымкі. Па-другое, афіцыйныя СМІ ставяць электарат перад катэгарычнай дылемай: або Артэга, або хаос. Сапраўды, у адрозненне ад суседзяў, краіна здолела пазбегнуць усплёску злачыннасці, які накрыў многія дзяржавы Цэнтральнай Амерыкі. Мясцовыя наркабароны не ўяўляюць такой пагрозы грамадству, як у той жа Мексіцы.

Як вынік нейкай адноснай стабільнасці — плынь нелегальнай міграцыі ў ЗША з Нікарагуа не такая вялікая. Гэты момант дазваляе спадзявацца, што Вашынгтон, які з вялікай цяжкасцю стрымлівае націск мігрантаў, заплюшчыць у лістападзе вочы на чарговую элегантную перамогу Артэга. Акрамя таго, геапалітычнае плячо рэжыму гатовыя падставіць як мінімум Венесуэла, Балівія, Мексіка і Кітай.

Аднак усё ж называць рэжым Артэга занадта стабільным не атрымліваецца. Сістэмнае маніпуляванне прэзідэнцкім кланам судовай сістэмай, выбарчымі органамі і сілавымі структурамі, кумаўство — усё гэта многім не падабаецца.

Каштоўнасці і традыцыі сандыніцкай рэвалюцыі, на якой спекулююць уладныя ідэолагі, не вельмі зразумелыя маладым нікарагуанцам — прадукту эпохі інтэрнэту і сацыяльных сетак. Менавіта моладзь складала касцяк вулічных пратэстаў у 2018-м, ліквідаваць якія аказалася не так проста. Менавіта па слядах гэтых падзей была сфарміраваная кааліцыя «Адзінства сініх і белых», якая спрабуе аб'яднаць ідэалагічна стракатую апазіцыю на платформе агульных дэмакратычных патрабаванняў.

Цікава, што прыкметнае месца ў агітацыйных матэрыялах апазіцыі займае Расарыя Мурыльё — жонка прэзідэнта, стыль паводзінаў якой можна параўнаць са стылем Раісы Гарбачовай. Сеньёра Мурыльё ведае ўсё — і, адпаведна, любіць даваць інструкцыі па ўсіх праблемах. У народзе папулярная тэма: першая лэдзі настолькі маніпулюе прэзідэнтам, што той гатовы абвясціць яе сваім пераемнікам.

Ці могуць раздражненне, якое выклікае асоба першай лэдзі, ды іншыя правалы рэжыму канвертавацца ў лістападзе ў масавыя пратэсты? У любым выпадку, для пачатку нікарагуанскай апазіцыі трэба абзавесціся сваім кандыдатам, што ў цяперашніх ўмовах будзе няпроста. Хутчэй за ўсё, бліжэйшым часам патрабаванні апазіцыі і міжнародных арганізацый будуць тычыцца забеспячэння сумленнай арганізацыі выбарчага працэсу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Лізавета Багуцкая



Дэпутатка ад фракцыі «Слуга народа» ўнесла ў Вярхоўную Раду Украіны законапраект, які дапаўняе крымінальны кодэкс новай нормай, у адпаведнасці з якой уводзіцца тэрмін «здзек з украінскай мовы».

Пакаранне за здзек з мовы прадугледжвае штраф 17 000 — 68 000 грыўняў або арышт ад шасці месяцаў да трох гадоў з аўтаматычным пазбаўленнем права займаць некаторыя пасады на тэрмін да двух гадоў.

Па словах Багуцкай, закон неабходны, паколькі цяпер ва Украіне «сустракаюцца і выпадкі публічнага здзеку з украінскай мовы з боку грамадзян Украіны, у тым ліку з боку тых, хто займае дзяржаўныя пасады або пасады ў органах мясцовага самакіравання». Законапраект ужо знаходзіцца на разглядзе профільнага камітэта Рады, аднак пакуль яго лёс не вельмі зразумелы. Не толькі таму, што прапрацоўка многіх паняццяў законапраекта запатрабуе праваага аналізу — у тым ліку на адпаведнасць еўрапейскім законам. Найбольш цікавай можа быць дыскусія наконт выкарыстання «суржыку» — аналагу нашай «трасянкі». Многія мясцовыя нацыяналісты лічаць, што выкарыстанне суржыку ў некаторых выпадках з'яўляецца адкрытым здзекам з украінскай мовы.

### Педра Санчас



Прэм'ер-міністр Іспаніі і лідар партыі сацыялістаў абвясціў пра памілаванне асуджаных за арганізацыю незаконнага рэферэндуму па пытанні аб незалежнасці Каталоніі. Нагадаем, той рэферэндум прайшоў у 2017 годзе і суправаджаўся жорсткімі сутычкамі ўдзельнікаў галасавання і паліцыі.

Пазней судовыя ўлады Іспаніі абвясцілі рэферэндум незаконным, а яго арганізатараў прыцягнулі да адказнасці. За арганізацыю незаконнага, з пункту гледжання іспанскага заканадаўства, рэферэндуму ў выніку было асуджана дзевяць чалавек. Максімальны тэрмін — 13 гадоў пазбаўлення волі з наступнай забаронай на працягу 13 гадоў займаць дзяржаўныя пасады атрымаў экс-намеснік кіраўніка ўрада Каталоніі Арыёл Жункерас. І вось, па словах Санчаса, прыйшоў час амністыі. Паводле яго слоў, памілаванне — крок на шляху прымірэння іспанскага грамадства.

Зрэшты, мірыцца, відавочна, збіраюцца не ўсе. Кансерватыўная Народная партыя адразу ж заявіла, што мае намер абскардзіць у Вярхоўным судзе краіны рашэнне ўрада аб памілаванні каталонскіх палітыкаў. Не выключана, што «народнікі» спрабуюць стаць сваімі ў вачах 60 працэнтаў іспанцаў: прыкладна столькі насельніцтва краіны, паводле сацыёлагаў, выступалі супраць амністыі для сепаратыстаў.

### Дзмітрый Мядзведзеў



Кіраўнік вядучай у Расіі праўладнай партыі «Адзіная Расія» (АР) праявіў дурную ініцыятыву з самымі незразумелымі наступствамі. Ён і яго партапарат арганізавалі 19 чэрвеня партыйны сход для вылучэння кандыдатаў на восеньскіх выбарах у Дзяржаўную Думу. Калі ўсё скончылася, нечакана высветлілася, што партыя трапіла ў ідыёцкую прававую пастку.

Справа ў тым, што, згодна з расійскімі законамі, выбары абвяшчаюцца з моманту апублікавання адпаведнага ўказа прэзідэнта. Пасля любая партыя павінна правесці сход кіруючых органаў, і ў выпадку рашэння аб правядзенні з'езда за два дні да яго паведаміць пра гэта ЦВК. У нашым выпадку ўказ прэзідэнта аб пачатку кампаніі выйшаў 17 чэрвеня ў 22.30. На гэты момант Цэнтрвыбаркам, які працуе да 18.00, ужо быў зачынены. Так што ані факса, ані тэлефанаграмы, ані пісьмовага паведамлення яго супрацоўнікі не маглі атрымаць раней за 18 чэрвеня. Значыць, з'езд АР мог законна прайсці толькі 20 чэрвеня. Такім чынам, фармальна, з'езд АР незаконны, як незаконнае і вылучэнне ўсіх кандыдатаў.

Прычым закон таксама дазваляе любой партыі аспрэчыць удзел незаконна вылучаных кандыдатаў на выбарах. Праблема ў тым, ці наважыцца якая-небудзь партыя ў Расіі на такі крок. З улікам таго, што на з'ездзе 19 чэрвеня быў Пуцін, у гэта верыцца слаба. Хаця, як піша прэса, радыкальная фракцыя камуністаў спрабуе прымусіць кіраўніцтва запатрабаваць зняцця з выбараў усіх кандыдатаў ад АР.

# «Гэтыя сцены павінны жыць»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Кажуць, што наканавана — таго не абмінеш. Гісторыя з аднаўленнем «Даліны Анёлаў» — колішняга кляштара цыстэрцаў у Мазыры — таму пацверджанне. Аляксандр Баранаў, які набыў напаўразбураныя будынкі, ужо не здзіўляецца цудам, якія тут адбываюцца, верыць у прывідаў, якія тут жывуць, а яшчэ — у тое, што здолее адрадзіць некалі буйны духоўны цэнтр горада.**


Муры кляштара цыстэрцаў


Аляксандр Баранаў

## «Атрымаў у плечы руіну, дзе была толькі электрычнасць»

Кляштар манахаў-цыстэрцаў з касцёлам Святога Крыжа ў Кімбараўцы, прадмесці Мазыра, быў закладзены ў 1711 годзе. Пазней, у 1745-м, непадалёк узнік і жаночы кляштар. Але гістарычныя падзеі склаліся так, што кляштар фактычна знішчылі, засталіся толькі будынкі. У 1894 годзе кляштарныя спаруды купіў габрэйскі фабрыкант, які адкрыў у іх запалкавую фабрыку «Маланка». З прыходам да ўлады бальшавікоў фабрыка была нацыяналізавана. У 1929 годзе замест запалак тут сталі вырабляць мэблю — і гэтая вытворчасць з невялікім перапынкам трывала тут да 2011 года.

А ў снежні 2017 года тут пачала працаваць культурная прастора «Даліна Анёлаў».

Мясцовы прадпрымальнік Аляксандр Баранаў, які набыў будынкі кляштарнага корпуса, з дзяцінства цікавіўся гісторыяй: як ён кажа, яго заўжды цягнула да старых муроў. Ён вырас у Мазыры і памятае, як выглядаў гістарычны цэнтр горада з забудовай XIX стагоддзя.

— Калі мы тут з'явіліся, да нас пачалі хадзіць бабулькі і казаць, што працавалі тут усё жыццё, для іх гэта была фабрыка, — гаворыць Аляксандр, з сумам канстатуючы, што самі мазыране не надта дасведчаныя ў гісторыі ўласнага горада.

Былы кляштар цыстэрцаў з касцёлам на плошчы 12 тысяч квадратных метраў Аляксандр набыў за 13 базавых +5 працэнтаў. Апроч гэтага трэба было адразу заплаціць 1000 долараў за афармленне папер. Да таго ж штогод Аляксандр мусіць выплачваць дзяржаве 12 661 рубель за зямлю, на якой месціцца кляштар. А яшчэ ж будынкі трэба ўтрымліваць і праводзіць працы па іх аднаўленні.

Гаспадар каштоўнасці кажа, што «атрымаў у плечы руіну, дзе была толькі электрычнасць». Першыя два гады тут не было нават санвузла. Цяпер ёсць і санвузлы, і кухня. За чатыры гады існавання ў якасці культурніцкай прасторы ў «Даліне Анёлаў» здолелі пазбавіцца ад значнай часткі смецця, што засталося пасля фабрыкі, адрамантаваць некаторыя памяшканні, правесці шэраг мерапрыемстваў. Цяпер у былым кляштары нават дзейнічае капліца, якая пачыналася як прыватная — Аляксандр браў на яе адмысловы дазвол у біскупа, — а потым стала парафіяльнай.

## Лацінская імша — як 300 гадоў таму

Парафію аднавілі пад гістарычнай назвай Узвышэння Святога Крыжа, якая была ў манахаў-цыстэрцаў, у свой час яна была найбуйнейшай у Мазыры. Цяпер набажэнствы тут адбываюцца штонядзелю. Асаблівасць імшы тут у тым, што яе служаць на лаціне — паводле гістарычнай традыцыі, роўна гэтак жа, як і 300 гадоў таму.

— Я не ведаю, чаму так адбылося, але мне здаецца, што гэта прыгожа і бліжэй да вытокаў, — тлумачыць Аляксандр.

Ён мяркуе, што калі адмовіцца ад старой імшы, то ўся ідэя аднаўлення «Даліны Анёлаў» знікне. Бо для яго найперш гэта — духоўны цэнтр горада, якім ён быў у XVIII стагоддзі і якім павінен стаць зноў.

Нярэдка праз такую прыдумку Аляксандру даводзілася чуць папрокі: маўляў, гэта толькі раз'ядноўвае і працуе супраць адзінства касцёла. Але ён ставіцца да падобных закідаў спакойна і з усімі крытыкамі знаходзіць паразуменне. Неяк само сабой выходзіць так, што канфлікты залагоджваюцца, парафія прырастае новымі прыхаджанамі, а працы па аднаўленні кляштара не спыняюцца нават у самыя цяжкія часы.

## «Я проста выканаўца нейкай волі»

— Усё, што тут адбываецца, адбываецца па-за маёй воляй, і я гэтаму не праціўлюся. І калі здзяйсняецца нейкі — у маім разуменні — цуд — гэта нармальна, — гаворыць Аляксандр.

Сюды самі прыходзяць ксяндзы, самі сабой з'яўляюцца літургічныя рэчы — у тым ліку старажытныя і каштоўныя. Нават уласны прыход у «Даліну Анёлаў» Аляксандр патлумачыць не можа, кажа — «яно само».

— Я проста выканаўца нейкай волі. Нехта павінен тут нешта рабіць, — проста гаворыць ён.

Гаспадар муроў прызнаецца: калі набываў каштоўнасць, быў перакананы, што ўсё атрымаецца, але рэчаіснасць унесла свае карэктывы. Былі часы, калі Аляксандр сумняваўся ў слушнасці сваёй авантуры, не спаў начамі.

— Але неяк пражыў і лічу, што цікава пражыў. Гэта нашмат лепш, чым хадзіць на працу і складваць грошы ў «сценку».

Аляксандр перакананы, што «Даліна Анёлаў» павінна захаваць сваё першапачатковае прызначэнне, таму тут мусіць быць адроджаны касцёл. Найперш у ім трэба накрыць дах, аднавіць франтоны, зрабіць вадасцёк. Гэта патрабуе 50–70 тысяч долараў. І гэта толькі вонкавыя працы без унутраных аздоб, якія дазволяць выкарыстоўваць будынак па прызначэнні.

— Калі проста давесці тут усё да ладу, то не трэба шалёных грошай, — заўважае гаспадар «Даліны Анёлаў».

На астатнія кляштарныя памяшканні, дзе ўжо патроху атабарыўся культурны цэнтр, спатрэбіцца яшчэ каля 100 тысяч.

— Зрабіць тут гатэль патрабуе шалёных інвестыцый. Рабіць тут бізнес мне нецікава. Я люблю музыку, люблю мастацтва. Гэтыя сцены павінны жыць, дыхаць, а яны не могуць жыць без людзей — бо гэта будзе мерцвячына, — перакананы прадпрымальнік.

## «Чалавек павінен нешта змяняць»

Культурны цэнтр аказаўся запатрабаваным у мазыран. Але пандэмія значна знізіла колькасць імпрэзаў, давялося прыпыніць адзін вялікі праект. Аднак пакрысе людзі вяртаюцца, цяпер у «Даліне Анёлаў» амаль штодня праходзяць экскурсіі, і Аляксандра цешыць, што гэтыя муры наведвае шмат дзяцей з Мазыра. Сюды прыязджаюць людзі, якія хацелі б застацца тут на некалькі дзён, таму цяпер тут уладкоўваюць гасцявыя пакоі. Разам з тым ідуць працы па падрыхтоўцы да рэканструкцыі касцёла. Калі б было дастаткова грошай, можна было б зрабіць гэта значна хутчэй.

Нягледзячы на ўсе абставіны, працы ў «Даліне Анёлаў» не спыняюцца ўжо чатыры гады. Нават калі я завітала сюды ў суботу, каб сустрэцца з Аляксандрам, мяне сустрэў рабочы Генадзь, які ўкладваў падлогу з кавалкаў мармуру, а таксама мясцовыя хлопцы, што прыйшлі пакасіць траву. І гэта таксама — цуд. Суразмоўца зазначае: часам людзі лічаць, што лепш ім аддаць капейчыну ў нешта глабальнае, чым укласці ў сваё, каля хаты, і ў выніку яно прыходзіць у заняпад.

— Сюды некалі прыйшлі моцныя і мудрыя людзі, якія здолелі зрабіць тут квітнеючы сад. Тут усё наваколле было ў садах, была брукаванка, квітнела адукацыя і культура. Айцы варылі піва, сёстры варылі спірт. Былі сучасныя на той час тэхналогіі апрацоўкі зямлі. Але квітнелі яны тут нядоўга. Расія прыйшла ў 1793 годзе. Пасля першага паўстання, у 1842-м, забралі ўсю маёмасць і дарагія касцельныя рэчы, а ў 1864 годзе кляштар разагналі. Пачалася Расійская імперыя. Увосень і ўвесну тут было па жывот бруду. Пры тым, што пад ім была брукаванка. Але іх культурны пласт — гэта бруд. І больш нічога людскага тут не было.

На думку Аляксандра, галоўная праблема і крыніца многіх бедаў і занядбанасці нашай спадчыны ў тым, што ніхто не выхоўвае грамадзяніна, за савецкі час з людзей выбілі жаданне стваральнай працы. І цяпер, лічыць суразмоўца, ёсць супольнасць «супраць», але няма супольнасці «за».

— Чалавек прайшоў па зямлі і сышоў. Але калі пасля яго нічога не застанецца — ён жыў абы-як. Чалавек не павінен жыць абы-як, ён павінен нешта змяняць, — перакананы Аляксандр.

## Намоленае месца

Пра тое, што ў справе аднаўлення кляштара не абылося без умяшальніцтва нейкіх вышэйшых сіл, сведчыць шэраг знаходак, з'яў і артэфактаў, якімі прырастае «Даліна Анёлаў». Так, у памяшканні кляштарнага касцёла захоўваецца ўкрыжаванне XIX стагоддзя з колішняга кляштару бернардынцаў, які цяпер — праваслаўны Кафедральны сабор Святога Арханёла Міхаіла. Менавіта ў ім у 1930-х гадах бальшавікі зрабілі турму НКУС, у сутарэннях якой адбываліся расстрэлы, і яшчэ цяпер там знаходзяцца парэшткі рэпрэсаваных.

— Яшчэ ў 1990-х там пачалі капаць і знайшлі Пана Езуса. І чалавек забраў яго да сябе на гарышча, — распавядае Аляксандр пра артэфакт. — А потым, калі тут усё пачалося, проста прынёс яго на прахадную. Гэта адзін з цудаў.

Дарэчы, ёсць тут і прывід. Яго бачыла жанчына, якая працавала вартаўніцай. Аляксандр сцвярджае, што таксама бачыў яго. Нехта мяркуе, што колішнія манахі-цыстэрцы пакінутыя ў кляштары, каб сачыць, каб тут не было нічога, апроч касцёла. Бо ўся гісторыя запалкавай і мэблевай фабрык — гэта бясконцыя пажары.

Калі ў існаванні прывідаў можна сумнявацца, то пакаванні тут дакладна ёсць. Найперш тут хавалі манахаў, якія жылі ў кляштары. Захаваліся таксама сведчанні вайскоўцаў і заможных людзей, якія завяшчалі пахаваць сябе ля кляштарных муроў — ужо некалькі стагоддзяў таму гэтае месца лічылася намоленым. І калі ў кляштары ўдасца аднавіць старадаўні касцёл, няма ніякага сумневу ў тым, што ён стане адной з важных святыняў Беларусі.

Падтрымаць аднаўленне «Даліны Анёлаў» можна на сайце платформы «Талака».

Таксама вы можаце ахвяраваць сродкі на рахунак парафіі (прызначэнне плацяжу — добраахвотнае ахвяраванне).

БИК PJCBBY2X
УНП "ПРИОРБАНК" ОАО 100220190
Адрес и телефон Вашего ЦБУ: ЦБУ 401, г.Мозырь, ул. Интернациональная, 162. www.priorbank.by
тел.: 222-051, 222-116, 222-440, +375293930451, +375017289904О

Текущий счет BY 70 PJCB 3015 4119131000000 933

Религиозная община «Римско-католический приход Воздвижения Святого Креста в г.Мозырь»


Лагерны малюнак Мікалая Максімца


Разам з сям'ёй. 1950-я гады


Лагерны малюнак Мікалая Максімца

# Аповед лагерных малюнкаў рэпрэсаванага архітэктара

Алесь КІРКЕВІЧ

**Мікалая Максімца забралі ў 1937-м з-за даносу сакурсніка. Наступныя 10 гадоў ён правёў на поўначы Расіі. Да сваёй поўнай рэабілітацыі ён не дажыў усяго тры месяцы. Захавалася цэлая калекцыя яго лагерных малюнкаў.**











Мікалай Аляксандравіч нарадзіўся ў 1905 годзе ў Беластоку, які тады належаў да Гродзенскай губерні, у сям'і чыгуначніка. Падчас Першай сусветнай сям'я была эвакуяваная ўглыб Расіі, адкуль вярнулася ў родныя мясціны ўжо пасля Грамадзянскай вайны. Сам жа Мікалай падаўся ў Ленінград, дзе ў 1936-м скончыў Інстытут інжынераў камунальнага будаўніцтва па спецыяльнасці «архітэктар».


Мікалай Максімец у 1927 годзе

Яго апошняе месца працы перад арыштам — архітэктар-праекціроўшчык у горадзе Калінін. Як распавядала пазней яго жонка, падставай для арышту стаў данос сакурсніка. Фармулёўка: «польскі шпіён»... Нагодай магло быць паходжанне ды кантакты са сваякамі ў Заходняй Беларусі, якія Мікалай нават у сталінскае ліхалецце не хацеў абрываць.

23 лістапада 1937 года Асобнай нарадай НКУС СССР Мікалай Максімец быў пакараны 10 гадамі лагераў, частку тэрміну яму давялося адбываць на поўначы — у Архангельскай вобласці. Там ён і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Яўстоліяй Папоўскай, якая перажыла найстрашнейшую зіму 1941–1942 гадоў у блакадным Ленінградзе.

Пасля зняцця блакады жанчыну эвакуявалі ў тыл, дзе прызначылі на гаспадарчыя працы, але ў хуткім часе за няўважлівасць далі тэрмін з фармулёўкай «сабатаж».

Мікалай Аляксандравіч не адрозніваўся вайсковай загартоўкай ды добрым здароўем, таму ад смерці яго ўратавалі... здольнасці ды адукацыя. У пэўны момант яго ўзялі ў лагерную кантору чарцёжнікам, што аўтаматычна вызваляла ад рабскай працы ў нялюдскіх умовах.

Мастацтва ды навыкі ў маляванні ратавалі Максімца не толькі фізічна, але, відаць, і духоўна. У сям'і захавалася цэлая калекцыя лагерных малюнкаў архітэктара: у асноўным партрэты іншых зняволеных ды суровыя паўночныя пейзажы. На жаль, толькі на адным партрэце ёсць подпіс: «Папоў П.Т.», іншыя змяшчаюць толькі дату.

У траўні 1947-га пасля вызвалення Максімец разам з жонкай адправіўся ў Гродна, дзе жылі яго састарэлы бацька, брат ды сястра. Як былому вязню, прапіскі ў абласным цэнтры яму не далі — зарэгістравацца атрымалася адно ў Лідзе.

Затое спецыяльнасць архітэктара аказалася запатрабаванай у разбураным вайной горадзе. Ленінградскі дыплом дапамог трапіць нават у Саюз архітэктараў БССР, а па праектах Максімца былі збудаваныя ды адноўленыя дзясяткі будынкаў у Гродне ды вобласці.



Праект школы-інтэрната ў Гродна, 1954 год

Лагернае зняволенне, аднак, не прайшло бясследна. Здароўе Мікалая Аляксандравіча было падарванае, таму пасля працяглай хваробы архітэктар і мастак памёр 15 красавіка 1956 года. Да сваёй поўнай рэабілітацыі, пастанова пра якую датуецца 9 жніўня 1956-га, ён не дажыў усяго тры месяцы. Фармулёўка цалкам звычайная для таго часу: «...за адсутнасцю складу злачынства».

Трагічны лёс напаткаў усю сям'ю. У 1970-я гады ў зусім маладым узросце ад раку крыві памерла дачка Мікалая Аляксандравіча. У 1990-я перад смерцю Яўстолія Рыгораўна паспела перадаць малюнкі, фотаздымкі і дакументы свайго мужа блізкай сям'і, якая яе даглядала: больш родных людзей ужо не было. Там архіў захоўваецца і па сённяшні дзень — як рэліквія ды сумны напамін пра зламаны лёс яшчэ аднаго таленавітага ды энергічнага сына сваёй зямлі.

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Знаёмім з тымі, у каго дзень народзінаў у чэрвені — пачатку ліпеня.**

## 28 чэрвеня

22-годдзе адзначыць **Ягор Алегавіч Канецкі** — студэнт біялагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта сябра «Задзіночання беларускіх



студэнтаў», актывіст «Вольнага прафсаюза». Быў затрыманы 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК. Цяпер над Ягорам і іншымі студэнтамі адбываецца суд.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 29 чэрвеня

Дзень народзінаў адзначыць **Ірына Уладзіміраўна Шчасная** — актывістка, рэдактарка папулярных тэлеграм-каналаў, сярод якіх «Мая краіна Беларусь».

Ірына была затрымана 18 лістапада супрацоўнікамі СК, якія былі пераапранутыя ў



форму ЖЭС. Калі маці Ірыны заходзіла ў пад'езд дома, «супрацоўнікі ЖЭС» спыталі ў яе, ці ёсць у кватэры гарачая вада. Калі маці дзяўчыны адказала, што не жыве тут, людзі зайшлі з ёй у пад'езд і жорстка адштурхнулі сталую жанчыну. У кватэры Ірыны быў праведзены вобшук, канфіскаваныя ноўтбук, тэлефон, грошы. Пасля гэтага Ірыну павезлі для допыту ў СК.

25 траўня ў Магілёўскім абласным судзе абвясцілі прысуд па крымінальнай справе супраць сямі палітвязняў: сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Паўла Севярынца, блогера Змітра Казлова, грамадскай актывісткі Ірыны Шчаснай, актывістаў «Еўрапейскай Беларусі» Яўгена Афнагеля, Паўла Юхневіча, Максіма Вінярскага і Андрэя Войніча. Суддзя Ірына Ланчава асудзіла палітзняволеных Паўла Севярынца, Яўгена Афнагеля і Андрэя Войніча да 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Паўла Юхневіча, Змітра Казлова і Максіма Вінярскага — да 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, Ірыну Шчасную — да 4 гадоў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

Свой 41-шы дзень народзінаў сустрэне за кратамі **Сяргей Уладзіміравіч Бялевіч** — жыхар Мін-



ска, што быў затрыманы 19 траўня 2021 года і змешчаны ў СІЗА. Яму прад'яўлена абвінавачанне па ч. 1 арт. 342 КК. Да затрымання Сяргей жыў з маці, якая мае інваліднасць другой групы і мае патрэбу ў пастаянным доглядзе.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

26-годдзе адзначыць **Аліна Ігараўна Войцех** — жыхарка Мачулішчаў, абвінавачаная па арт. 364 КК.

Аліну затрымалі 29 лістапада і даставілі ў РУУС Цэнтральнага раёна Мінска, дзе склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Дзяўчыну тады асудзілі на 13 сутак, а 12 снежня змясцілі пад варту, прад'явіўшы абвінавачанне.

На судзе Аліна Войцех віны не прызнала. Згодна з яе паказаннямі, міліцыянт у цывільным, які знаходзіўся ў кабінеце падчас афармлення пратаколу, пасля пытання Аліны: «А вы хто?» першы схапіў яе за куртку, пачаў штурхаць, затым выштурхнуў у калідор і два разы ўдарыў далонню па твары. Пасля гэтага Аліна ўкусіла



яго за нагу вышэй за калена, а ў адказ міліцыянт кінуў яе на падлогу і нагой наступіў ёй на твар.

26 студзеня суд Цэнтральнага раёна прызнаў Аліну Войцех вінаватай і пакараў 2 гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №4. 246035, г. Гомель, вул. Антошкіна, 3.

## 30 чэрвеня

Дзень народзінаў адзначыць **Павел Юхневіч** — актывіст «Еўрапейскай Беларусі». Ён быў адным са стваральнікаў і актыў-



ным удзельнікам апазіцыйнага руху «Зубр».

Павел быў затрыманы разам з Ягорам Літвінкам, Анастасіяй Кірык і Андрэем Войнічам 25 верасня ў межах крымінальнай справы па ч. 2 арт. 293 КК. У кватэру, дзе знаходзіліся актывісты «Еўрапейскай Беларусі», сілавікі патрапілі адначасова праз вакно і дзверы: яны былі ў масках і са зброяй. У затрыманых канфіскавалі ўсю тэхніку, сцягі, асабістыя рэчы.

Суддзя Ірына Ланчава асудзіла Паўла Юхневіча да 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

37-мы дзень народзінаў у **Дзмітрыя Аляксандравіча Фурманава** — сябра ініцыятыўнай групы па вылучэнні



ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай. Ён быў затрыманы 29 траўня падчас пікету па зборы подпісаў. Прад'яўленыя абвінавачанні паводле ч. 1 арт. 342 КК. Асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1.

## 1 ліпеня

33-годдзе адзначыць **Сяргей Юр'евіч Рымша** — жыхар Гродна. Сяргей быў на Савецкай плошчы Гродна падчас акцыі пратэсту 9 жніўня. Працэс над Рымшам цягнуўся больш за два месяцы. 21 студзеня суд Ленінскага раёна Гродна вынес вырак Сяргею: яго прызналі вінаватым і асудзілі да 3,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.



Адрас для лістоў: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

31 год споўніцца **Дзмітрыю Жабуртовічу.** Ён быў затрыманы 7 кастрычніка каля дома (ён выходзіў у краму). Яго павезлі ў РУУС, там збілі і адправілі ў ізалятар на вул. Акрэсціна.

У той жа дзень да яго ў хату прыйшлі зператрусам, забралі



кампутар, тэлефон і іншыя рэчы. Дзмітрыю было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Дзень народзінаў адзначыць **Дзяніс Віктаравіч Болтуць.** Быў затрыманы ў якасці падазраванага 25 верасня ў межах



справы аб масавых беспарадках.

Пазней яму прад'явілі абвінавачанне па ч. 1 арт. 342 КК. На пачатку лютага стала вядома, што Болтуцю таксама прад'явілі абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК і па арт. 364 КК. Цяпер судзяць Дзяніса і антыфашыстаў Цімура і Тамаза Піпія, Віталя Шышлова.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Дзень народзінаў у **Лідзіі Каршун** — мадэратаркі тэлеграм-канала «Жодзіна для жыцця».

Лідзію затрымалі 27 сакавіка ў хаце, дзе яна знаходзілася з паўтарагадовым дзіцём. Яе



абвінавачваюць у каардынацыі «дваровых» пратэсных рухаў, у закліку да актыўных дзеянняў і ў абразе супрацоўнікаў міліцыі.

У дачыненні да дзяўчыны распачатая крымінальная справа па ч. 1 арт. 342 КК і па арт. 369 КК (Абраза прадстаўніка ўлады).

Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

## 2 ліпеня

35 гадоў адзначыць **Мікалай Віктаравіч Федарэнка** — фігурант брэсцкай «справы карагодаў», распачатай па падзеях 13 верасня 2020 года ў горадзе (калі пратэстоўцы выйшлі на праезную частку, а іх разагнаў вадамёт).

Суд Ленінскага раёна Брэста 25 лютага вынес першыя прысуды па гэтай крымінальнай справе. Мікалай Федарэнка атрымаў 1,5 года з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія»).

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпа №43. 212003, г. Магілёў, вул. Чалюскінцаў, 76А.

## 3 ліпеня

25-годдзе сустрэне за кратамі **Андрэй Сайдаліевіч Расулаў.** Быў затрыманы 22 верасня ў Гомелі. У кватэру, дзе Андрэй пражывае са сваёй дзяўчынай, прыйшлі сілавікі. Яны паклалі хлопца на падлогу, скруцілі рукі жгутом і дапытваліся, ці ведае ён Дзмітрыя Падлобнікава. Пасля гэтага Андрэя затрымалі.

Знаходзіцца ў статусе падазраванага за падзеі 9 жніўня па арт. 342 КК. Быў выклiканы з ІЧУ г. Жлобіна пад падпіску аб нявыездзе да суда. На судзе высветлілася, што Андрэя таксама абвінавачваюць па арт. 364 КК. 9 сакавіка ў судзе Жлобіна Андрэю Расулаву прысудзілі 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п / а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183.

## 4 ліпеня

19-годдзе адзначыць **Аляксандр Міхайлавіч Шаламіцкі** — фігурант справы аб масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК), распачатай па падзеях у Пінску ў ноч пасля выбараў 9 жніўня.



Аляксандр знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе, але 24 сакавіка яго затрымалі і змясцілі пад варту.

Адрас для лістоў: СІЗА-6, 225413. Баранавічы, вул. Брэсцкая 258 В.

40-годдзе сустрэне за кратамі **Андрэй Рамуальдавіч Севярытока** — жыхар Мастоў, асуджаны на 5,5 года пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па арт. 364 КК (Гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі на акцыі пратэсту 27 верасня). Таксама па гэтай крымінальнай справе асуджаны Міхаіл Ефімовіч, Вадзім Хіжнякоў і Міхаіл Юдзін.

Адрас для лістоў: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1059

Падпісана да друку 24.06.2021. 8.00.
Наклад 6700 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.